# НЯСВІЖСКІЯ КАЕТЫ

Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

**№ 8** **2021 г.**

















*Князёўна Альжбета Радзівіл*

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
*Кастусь Жук, Затур'я.*

***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Трэці год выдання***

**№ 8 ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2021 г.**


## У НУМАРЫ:







? * **Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**На правах электроннага рэсурса**

**Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-З**

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**Рэдкалегія:**
**Качановіч Леанід,**
**Плакса Наталля,**
**Суднік Станіслаў**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**kajety@list.ru**

**АДРАС САЙТАЎ:**
**http//nslowa.by**
**http//pawet.net**
**http//kamunikat.org**
**http//belkiosk.by**



**7,5 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2021 г.**

# Пайшла з жыцця найстарэйшая прадстаўніца роду Радзівілаў

У аўторак, 20 ліпеня, на 104 годзе жыцця, памерла княгіня Альжбета Радзівіл - дачка перадапошняга гаспадара Нясвіжскага замка Альбрэхта Радзівіла і англічанкі Дораці Паркер Дыкан. Пра гэта паведаміў яе сваяк Мацей Радзівіл.

- Пайшоў з жыцця незвычайны чалавек. Сведка некалькіх эпох. Апошні чалавек, для якога замак Радзівілаў у Нясвіжы быў проста домам. Спачывай з мірам, - напісаў у Facebook Мацей Радзівіл.

Альжбэта нарадзілася ў Лондане ў 1917 годзе. Альбрэхт Радзівіл адправіў жонку нараджаць у Англію, бо здарылася рэвалюцыя.



***Маленькая Альжбета Радзівіл**. Фота: ljplus.ru*

Бацькі пражылі разам нядоўга, і пасля расставання Альжбета жыла разам з маці ў Парыжы, а на вакацыі ездзіла да бацькі ў Нясвіж - да 1935 года, пакуль ён не пайшоў з жыцця.

Пані Альжбета ніколі не жалілася на лёс. У яе былі два шлюбы, у першым нарадзіўся сын Альбрэхт Чартарыйскі. Другі раз яна выйшла замуж за дыпламата Яна Тамашэўскага, які да вайны быў амбасадарам Польшчы ў Партугаліі. У гэтым шлюбе яна таксама нарадзіла сына. Жыла ў Швейцарыі, Партугаліі, Англіі, шмат гадоў у Францыі. У канцы 80-х пераехала бліжэй - у Польшчу, у Варшаву.



***У маладосці Альжбета была вельмі прыгожая.***
*Фота: архіў*

Пасля гэтага Альжбета змагла трапіць у родныя мясціны толькі ў 1993 годзе. Як здарыўся той візіт, апісаў у сваёй кнізе "Беларускія скарбы за мяжой" гісторык Адам Мальдзіс. Ён пазнаёміўся са спадчынніцай магнацкага роду ў Лондане.

*"Гутарка пачалася з абвінавачванняў:*

*- Вы, бальшавікі, адабралі ў нас Нясвіж, разрабавалі маёмасць, такую пышную маляўнічую галерэю. Зараз давядзецца вам усё вяртаць нам.*

*- Памілуйце, княгіня, цяперашні ўрад, незалежная Беларусь, не можа несці адказнасць за зробленае іншай дзяржавай, сталінскай уладай. Ды і каму - "нам"? Наколькі я ведаю, у Радзівілаў дзейнічала вельмі разумнае права маярату: каб не драбніць маёмасць, не спараджаць канфлікты, уся ўласнасць па спадчыне пераходзіла ў рукі старэйшага сына ці старэйшага мужчыны ў родзе. Менавіта гэта дазволіла Радзівілам сканцэнтраваць незлічоныя багацці. Зараз, ведаю, такія правы - у Антонія Радзівіла, які жыве дзесьці недалёка ад Лондана, але і яны сёння чыста намінальныя, этыкетныя. У той жа Польшчы, на якую вы спасылаецеся, магнацкія латыфундыі, скажам, Нябораў, застаюцца*



*Альжбета Радзівіл са сваім бацькам*



*Альжбета Радзівіл са сваім бацькам*

*ў руках дзяржавы.*

*- Дзе ж тады справядлівасць?*

*- А дзе ж тады логіка? Дапусцім, адбудзецца цуд і вам асабіста вернуць Нясвіж. Што вы з ім зробіце? Рэстаўруеце замак, адродзіце музей? Гэта сёння па плячы толькі дзяржаве.*

*- А нам тады што застаецца?*

*- А вам застаецца садзейнічаць, дапамагаць. Менавіта такіх поглядаў прытрымваецца Антоні Радзівіл. Дарэчы, я перапісваюся з ім...”*





***Альжбета Радзівіл у Нясвіжскім касцёле.*** *Фота: belarus.by*

Апошні яе візіт у Беларусь адбыўся ў 2009 годзе. Тады 93-гадовая княгіня разам з іншымі прадстаўнікамі роду Радзівілаў наведала родныя мясціны: Нясвіж, Мір, Паланечку і Ішкалдзь.

- Гэта вялікая ганьба, што вы ў Беларусі не гаворыце па беларуску… Я адмыслова прыслухоўваюся ўжо колькі дзён… Ведаеце, калі б нас не пагналі адсюль у 1939-м, я сёння размаўляла б па-беларуску. Бо мой бацька з нясвіжцамі размаўляў выключна па беларуску, - казала яна падчас візіту.

Альжбета Радзівіл дапамагала рэстаўратарам Нясвіжскага замка, бо памятала, як ён выглядаў у часы яе дзяцінства.

***“Наша слова”.***

# Лаўрэатка міжнародных конкурсаў з Менска падарыла палацу ў Нясвіжы раяль, якому больш за сто год

У экспазіцыі Нацыянальнага гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" з'явіўся антыкварны кабінетны раяль фабрыкі Ronisch, рассказвае "Звязда".

Як расказалі ў музеі-запаведніку, раяль з гісторыяй, вінтавое крэсла з круглым сядзеннем і VIII том (паланэзы) для фартэпіяна поўнага збору твораў Фрэдэрыка Шапэна перадала ў дар мянчанка Тамара Мікалаеўна Астапенка - піяністка, лаўрэат міжнародных конкурсаў, уладальніца ганаровага дыплома Міжнароднага музычнага форуму "Мастацтва XXI стагоддзя" і дыплома Сусветнай Арганізацыі ЮНЕСКА.

Гэты інструмент у свой час належаў прадстаўнікам вядомай сям'і Бенуа, якая падарыла Санкт-Пецярбургу і Расіі вялікую колькасць дзеячаў мастацтваў - таленавітых мастакоў, архітэктараў, мастацтвазнаўцаў. Пазней раяль трапіў у дом бабулі Тамары Мікалаеўны. Вядома, што музычны інструмент перажыў блакаду Ленінграда ў Вялікую Айчынную вайну.

Раяль, падараваны комплексу "Нясвіж", мяркуючы па серыйным нумары (40509), датуецца 1905-1906 гадамі. На інструменце прысутнічаюць гербы Германіі, Саксоніі, Расійскай імперыі, а таксама факсіміле подпісу Карла Роніша з таўром і надпісам: *"Гэтым подпісам у таўро засведчыў, што да гэтага інструмента была выкарыстана самая старанная праца і бездакорны матэрыял"*.









# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *ліпень - снежань*

**1446 год** (575 гадоў таму) - самае ранняе дакументаванае сведчанне пра горад Нясвіж, калі князь ВКЛ Казімір Ягелончык перадаў горад Мікалаю Яну Неміровічу.

**1586 год**, 16 жніўня (435 гадоў таму) - утворана Нясвіжская ардынацыя. У гэтым жа годзе заснаваны езуіцкі калегіюм, які дзейнічаў да 1773 года.

**1591 год** (430 гадоў таму) - у Нясвіжы заснаваны кляштар бенедыктынак, які праіснаваў да 1877 года.

**1681 год** (340 гадоў таму) - у Нясвіжы пачаў ладзіцца чатырохтыднёвы кірмаш, які пачынаўся 25 жніўня.

**1876 год,** ліпень (145 гадоў таму) - Напалеон Орда наведаў Нясвіж. Як вынік - некалькі работ мастака з выявай замка Радзівілаў у розных ракурсах, яго ўнутранага дворыка. Самая вядомая гравюра - від на замак з боку возера з ветразем на пярэднім плане.

**1921 год** (100 гадоў таму) - адкрыццё Нясвіжскай беларускай гімназіі на базе былой прыватнай рускамоўнай гімназіі.

**1941 год**, жнівень (80 гадоў таму) - нарадзілася Вікторыя Жукевіч-Дзівота, якая з'явілася на гэты свет *"не ў Нясвіжы, не жыла ў Нясвіжы, але манавіта там павінна была нарадзіцца і жыць"*, аўтарка кнігі ўспамінаў "Даніна памяці."

**1951 год**, 9 жніўня (70 гадоў) - нарадзіўся Валер Дранчук - журналіст, аўтар кніг, 20-гадовай серыі календароў "Маляўнічая Бацькаўшчына", выдавецкіх праектаў на зберажэнне прыроды і выхавання, лаўрэат міжнародных прэмій за экалагічную дзейнасць.

**1961 год** - 60 гадоў таму ў Гарадзеі пабудаваны льнозавод (цяпер зліквідаваны).

**1986 год** - 35 гадоў таму выйшла першая краязнаўчая кніга К. Я. Шышыгінай "Музы Нясвіжа".

**1956 год** (65 гадоў таму) - пачала сваю работу першая ў Беларусі Нясвіжская школа-інтэрнат (дырэктар Г.Ф. Воранава).

**1966 год** (55 гадоў таму) - пачалі дзейнічаць базавыя школы (Астроўская, Квачоўская і Гарадзейская СШ №2).

**1991 год** (30 гадоў таму) - на базе СШ № 2 г. Нясвіжа створана беларускамоўная гімназія. Цяпер гэтая ўстанова адукацыі рускамоўная.



***Нясвіжская гімназія***

# Нясвіжскі арганіст

## *Да 140-годдзя Станіслава Казуры*

Кампазітар Станіслаў Казура нарадзіўся ў фальварку Тэклінаполь былога Свянцянскага павета Віленскай губерні (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці) 2 жніўня 1881 года (па іншай інфармацыі ў 1882 годзе). Але і польская "Encyklopedia Muzyczna" паведамляе, што Станіслаў Казура нарадзіўся ў 1881 годзе. Пачатковую адукацыю ён атрымаў дома, потым працягваў адукацыю ў Вільні, у тым ліку і музычную. Бацькі хацелі, каб сын стаў медыкам, таму адразу накіравалі яго ў Дзвінск вучыцца на ўрача. Але яго цягнула да музыкі. Не закончыўшы вучобы, ён у 1906 годзе арганізаваў з рабочых фабрыкі лакаматываў горада Дзвінска духавы аркестр, а пры парафіі мясцовага касцёла стварыў таварыства спевакоў "Лютня".



У 1907 годзе Станіслава Казуру запрасілі працаваць арганістам у Нясвіж, дзе ён арганізаваў змешаны хор, які вызначаўся высокім прафесіяналізмам, нават выконваў "Латэрыю", складаны музычны твор Станіслава Манюшкі. Па пратэкцыі музычнага дзеяча дэкана Дзвінскага касцёла Сяклюцкага і пры падтрымцы і апякунстве Радзівілаў у 1907 годзе Станіслаў Казура паступіў у Варшаўскую кансерваторыю. А потым працягваў сваю музычную адукацыю ў Рыме, дзе ў 1914 годзе скончвае Акадэмію Святой Цэцыліі (Accademia Nazionale di Santa Cecilia), а таксама ў Парыжы. Жывучы ў Варшаве, кампазітар арганізаваў у філармоніі хор, які налічваў дзвесце ўдзельнікаў. Ён выкладаў у Варшаўскай кансерваторыі сальфеджыа, садзейнічаў выданню дзяржаўнага дэкрэта аб абавязковым навучанні музыцы і спевам у агульнаадукацыйных школах. Пры Варшаўскай кансерваторыі Станіслаў Казура арганізаваў факультэт па вывучэнні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Для гэтага факультэта ён напісаў і выдаў дзясяткі дапаможнікаў па спевах. Кампазітар аднавіў гістарычную капэлу рарытарыстаў, арганізаваў хор "300 дзяцей з Павісля", вялікі хор "Польская народная капэла". Усе гэтыя музычныя калектывы выступілі з сотнямі розных канцэртаў.

Падчас Другой сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Варшаве Станіслаў Казура пры Апякунскай Радзе адкрыў тайную кансерваторыю. У ёй працаваў сам, а таксама яго жонка і іншыя выкладчыкі-патрыёты. У час Варшаўскага паўстання, калі навокал рваліся снарады і бомбы, Казура арганізаваў у кансерваторыі "хвіліны класічнай музыкі", якія падтрымлівалі патрыятычны дух змагароў. Пасля вайны прафесар Станіслаў Казура першы пачаў адраджаць Варшаўскую кансерваторыю, пазней - Дзяржаўную вышэйшую музычную школу, у якой быў з 1945-га па 1951 год рэктарам. Ён - адзін з ініцыятараў стварэння ў 1956 годзе "Саюза польскіх кампазітараў". Станіслаў Казура вельмі любіў Беларусь, родныя мясціны, людзей, народныя беларускія песні. Ён ніколі не цураўся свайго беларускага паходжання. Яго жыццё пастаянна было звязана з беларускім рухам, хоць і пражыў большую палову свайго жыцця ў Польшчы. Да Першай сусветнай вайны ён прымаў удзел у Беларускім студэнцкім гуртку ў Пецярбургу. Шмат дапамагаў матэрыяльна студэнтам-беларусам, вучыў іх бясплатна ў Варшаўскай кансерваторыі і ўсюды за іх заступаўся. У 1936 годзе Станіслаў Казура беларусам у Варшаве дапамагаў ствараць Асветнае беларускае таварыства (іншыя яго згадваюць як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве). Гэтае таварыства было створана восенню 1936 года і праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Станіслаў Казура


POLSKA LITERATURA CHÓRALNA

66

STANISŁAW

KAZURO

KOŁYSANKA

NA 4-GŁOSOWY
CHÓR MIESZANY
A CAPPELLA

DODATEK DO „ŻYCIA ŚPIEWACZEGO"

POLSKIE WYDAWNICTWO MUZYCZNE

дапамагаў таварыству матэрыяльна на працягу ўсяго часу яго існавання. І сам вельмі актыўна прымаў удзел у многіх мерапрыемствах беларускай арганізацыі. А ў канцэртных мерапрыемствах Асветнага беларускага таварыства часта гучалі яго песні. Часопіс "Шлях моладзі" (1937, № 15. С.14) пісаў: *"8.11.37 г. Станіслаў Казура атрымаў музычную ўзнагароду г. Варшавы за пашырэнне культу народнай песні. Прафесар С. Казура, між іншым, прыгожа згарманізаваў некалькі беларускіх народных песняў. Жыве прафесар Ст. Казура стала ў Варшаве, там таксама выйшла некалькі ягоных школьных падручнікаў па спевах. У мінулым годзе праф. Ст. Казура напісаў оперу "Powrot" на аснове беларускіх народных мелодыяў".* Дарэчы, да оперы "Powrot" ("Вяртанне") кампазітар напісаў лібрэта, а ў фінал уключыў беларускую жніўную песню, апісаў некалькі беларускіх танцаў. А Рыгор Шырма ў часопісе "Беларускі летапіс" (1937, № 5. С. 108) паведамляў: "*Нядаўна артыст Міхал Забэйда-Суміцкі напяяў на грамафонныя пліты дзесяць песень, сярод іх і песні Ст. Казуры "Зялёны дубочак" і "Чаму ж мне не пець"*. У 1930-х гадах славуты кампазітар часта наведваў родную Пастаўшчыну. Ён гасцяваў у сваіх сяброў і сваякоў, хадзіў па вёсках і запісваў народныя песні. Як паведамляе краязнавец Яська Драўніцкі (Westki.info. 27.01.2013), на Пастаўшчыне Станіслаў Казура запісаў шмат беларускіх народных песень, 12 з іх апрацаваў для аматарскага хору і голасу сола. Гэта былі песні "Чырвоная калінанька", "Зялёны дубочак", "Чаму ж мне не пець", "Як памерла матулька" і іншыя. Пры апрацоўцы песень кампазітар змог выявіць народную душу ў песнях, а таксама тонкія і далікатныя перажыванні. Дарэчы, "Беларускі каляндар" (Беласток) за 1980 год апублікаваў ноты Станіслава Казуры да беларускіх народных песень "Вярба", Зязюленька", "Зашумела дубровачка", "Калінанька", "Камар у лазні паліў" і "Чаму не жаніўся". Дарэчы, гэты "Беларускі каляндар" апублікаваў і невялікія ўспаміны пра Станіслава Казуру Віктара Шведа, дзе ён падкрэслівае, што *"Станіслаў Казура - гэта быў кампазітар, якога творчасць абапіралася на фальклоры. Ён з'яўляўся прапагандыстам і збіральнікам народных песень з усёй Польшчы, у тым ліку і беларускіх"*.



***Станіслаў Казура стаіць другі справа, крайняя справа сядзіць яго жонка, 1939 г.***

У 1956 годзе Станіслаў Казура разам з беларусамі сталіцы Польшчы прымаў актыўны ўдзел у арганізацыйным з'ездзе аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Варшаве. А 18 студзеня 1957 года ён прысутнічаў на першым сходзе Выдавецкага камітэта пры БГКТ. Выступаючы ў дыскусіях, пан Казура тады сказаў, што побач з мастацкай і навуковай літаратурай Камітэт павінен займацца і апрацоўкай, а таксама выданнем беларускага песеннага фальклору. І сам ён у той час паабяцаў падрыхтаваць зборнік беларускіх народных песень у сваёй апрацоўцы. Але, на жаль, не паспеў.

У 2019 годзе ў Паставах была ўрачыста адкрыта мемарыяльная шыльда кампазітару-земляку.







***Сяргей Чыгрын***,
*Фота з архіва аўтара.*

# "Надзея святая таёмна крадзецца…"

## *Да 115-годдзя паэта, драматурга, празаіка, выдаўца і грамадскага дзеяча Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994)*

Нядаўна яшчэ раз перачытаў, пераглядзеў, успомніў мужнага, цярплівага, таленавітага і сціплага чалавека пісьменніка Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў вялікія, шчырыя, сур'ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў па-бацьку і на "вы", а пры сустрэчах - на "ты" і проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана "Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, г. Менск", а на трэцяй - былі словы "Сяргей Новік-Пяюн". Вось некалькі радкоў з яго пісем: *"25-га лістапада 1943 года па даносе правакатара мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са слонімскага музея, дзе я працаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы і ў тым ліку маю мандаліну. Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню "Мандаліначка" і "запісаў" яе ў памяці…"* (з пісьма ад 18 жніўня 1988 года); *"Я некалькі разоў званіў у рэдакцыю тыднёвіка "Беларускае тэлебачанне і радыё", каб звярталіся да чытачоў па-беларуску "добры дзень", а не па-польску "дзень добры"! Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску наадварот: спярша - імя, а пасля - прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць "раніцой", хаця па-беларуску трэба "раніцай". Ужываюць польскае слова "мажліва" замест беларускага "магчыма", "па крайняй меры" замест беларускага слова "прынамсі". Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову…"* (з пісьма ад 20 лістапада 1988 года).

Сябраваў я з Сяргеем Міхайлавічам шмат гадоў. Ён часта наведваў Слонім, дзе жыла яго сястра, заходзіў да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў. А калі я бываў у Менску - забягаў да яго ў маленькую аднапакаёўку на вуліцы Купрыянава. Пра што толькі ён мне не расказаў!.. Але найбольш любіў распавядаць пра Слонім, пра мастака Антона Карніцкага, 180 карцін якога вывезлі немцы ў Германію падчас Другой сусветнай вайны, пра гісторыка і краязнаўца Язэпа Стаброўскага, пра генерала Яўгена Леашэню і пра іншых землякоў. Часта паэт згадваў пра сустрэчу з Янкам Купалам у Слоніме ў 1939 годзе, калі пясняр вяртаўся з Беластока з народнага сходу. Тады Сяргей Новік-Пяюн працаваў у Слоніме інспектарам павятовага аддзела народнай асветы. 12 лістапада 1939 года да яго ў аддзел народнай асветы зайшоў чалавек, павітаўся, а пасля спытаў, дзе жыве Гальяш Леўчык. Сяргей Новік-Пяюн адразу пазнаў у госцю Янку Купалу. Яны разам паехалі ў хатку да Гальяша Леўчыка, там пагутарылі, а пасля машына, на якой прыехаў Янка Купала, прывезла іх у цэнтр горада. На развітанне Янка Купала ў блакноце Сяргея Новіка-Пеюна напісаў пару слоў: *"Міламу Сяргею Пеюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.11.1939 г."*. Пра гэты выпадак Сяргей Міхайлавіч згадваў мне часта. Ён вельмі ганарыўся, што хоць раз у жыцці меў сустрэчу з песняром беларускага народа. Яшчэ ў 1938 годзе ў Слоніме Сяргей Новік-Пяюн разам са сваёй жонкаю Людмілай пачалі выдаваць на польскай мове (на беларускай мове польскія ўлады не дазволілі) "Газету Слонімскую". Гэта быў тыднёвік і выходзіў ён да верасня 1939 года…

Аднойчы я прыехаў да Сяргея Новіка-Пеюна ў Менск, а ён адчыняе дзверы ў лагернай фуфайцы з нумарам на плячах. "Гэта мой сталінскі касцюм", - сказаў Сяргей Міхайлавіч. А пасля сеў на табурэтку і ціха заспяваў свае славутыя "Зорачкі":

*Дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,*
*Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.*
*Трэці год як на выгнанні ў чужыне*
*Трэба мучыцца душой і сэрцам мне…*

З вачэй у паэта пакаціліся слёзы. Гэты выпадак памятаецца мне да сённяшніх дзён. Не верыцца, як змог выжыць Сяргей Новік-Пяюн у тых жыццёвых сітуацыях, у якіх ён бываў. Бо лёс яго не песціў. Пры Польшчы сядзеў у турме ў Баранавічах, у чэрвені 1941 года быў паранены, у 1943 годзе арыштаваны слонімскім СД і асуджаны да пакарання смерцю. У турме захварэў на тыф. Хворага паэта немцы кінулі ў канцлагер Калдычэва… 4 ліпеня 1944 года немцы вялі вязняў на расстрэл. Сярод усіх быў і беларускі паэт. У час расстрэлу яго паранілі. Прыкінуўся мёртвым, а пасля схаваўся ў бліжэйшым лесе. Так застаўся жыць. А калі 10 ліпеня 1944 года савецкія войскі вызвалілі Слонім, Сяргей Новік-Пяюн пачаў працаваць тут дырэктарам мясцовага краязнаўчага музея. Але і гэта шчасце было нядоўгім. Вясною 1945 года без прад'яўлення яму ніякіх афіцыйных абвінавачванняў, паэт быў зноў арыштаваны органамі НКВД на 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапам яго адправілі ў пасёлак Нэлькан у Якуцію:




***Сяргей Новік-Пяюн у Якуціі, 1955 г.***




***Аўтограф паэта са сталінскіх лагераў***

*Плывуць дні за днямі, як шэрыя хвалі.*
*Нам сніцца радзімага неба блакіт.*
*Пад сопкай мы многа сяброў пахавалі.*
*Тут снег нашай цёплай крывёю заліт.*

*Праз краты нам свецяць паўночныя зоры,*
*Бы шлюць прывітанне ад роднай зямлі.*
*Сярэбраны месяц схаваўся за горы,*
*І чорныя цені вакол заляглі…*



***Бацькі Еўдакія Пятроўна і Міхаіл Сцяпанавіч Новікі з маленькім Сяргеем. Пачатак XX стагоддзя***

У Беларусь Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся ажно ў 1959 годзе. За плячыма ўжо былі 53 пражытыя гады, але трэба было пачынаць усё спачатку. Яго рэабілітавалі, а ў якасці "кампенсацыі" за гады, праведзеныя без віны ў турме, яму выдзелілі аднапакаёвую кватэру ў пяціпавярховым доме ў Менску на вуліцы Купрыянава, 9 і датэрмінова прызначылі пенсію, залічыўшы год Калымы за два…

Сяргей Новік-Пяюн нарадзіўся ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна 27 жніўня 1906 года. Скончыў мясцовую рускую гімназію і беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. У 1926 годзе ў роднай вёсцы стварыў беларускі народны хор, які існуе да сённяшніх дзён. Як сказаў Алег Лойка ва ўступным слове да зборніка вершаў паэта "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984. С. 4): *"Душа юнака рвалася да песень, а песню глушылі"*. Але заглушыць не змаглі. Бо паэт Сяргей Новік-Пяюн пісаў, спяваў і жыў. Жыў словам, песняй, любоўю да Бацькаўшчыны. Друкавацца ён пачаў ажно ў 1924 годзе ў заходне-беларускіх выданнях "Сын беларуса", "Студэнцкая думка", "Маланка", "Сялянская ніва", "Шлях моладзі", Беларуская крыніца", "Заранка" і іншых. З друку асобнымі кніжкамі пачалі выходзіць яго драматычныя і вершаваныя творы "Ёлка Дзеда Мароза" (Вільня, 1927), "Пакой у наймы" (Вільня, 1927), "Цудоўная ноч" (Вільня, 1927), "Прадка пад крыжам" (Вільня, 1939), "Заўсёды з песняй" (Мн., 1984), "Зорачкі ясныя" (Мн., 1986), "Песні з-за кратаў" (Мн., 1993). У сваіх паэтычных кнігах Сяргей Новік-Пяюн пісаў пра тое, пра што сам перажыў у астрогах, лагерах і ссылках. Паэтычныя радкі яго прасякнуты пяшчотай да Бацькаўшчыны, верай у заўтрашні дзень:



***Сяргей Новік-Пяюн, 1925 г.***



***Сяргей Новік, 1929 г.***

*Быць можа ў халоднай пamру Калыме,*
*Сям'ю не пабачыўшы ў роднай больш хаце,*
*Я веру, мяне, песняра, ўспамяне*
*Не раз Беларусь - мая Маці.*

*Але ў маім сэрцы наяве і ў сне*
*Надзея святая таёмна крадзецца:*



***Сястра Кацярына Новік выходзіць замуж. Сядзіць другі злева Сяргей Новік-Пяюн, сядзіць другая справа яго жонка Людміла Новік, 1930-я гады***



***Сяргей Новік-Пяюн (крайні справа) з жонкай Людмілай, Марыя і Антон Лойкі (крайнія злева), Слонім, 1936 г.***






***Сяргей Новік-Пяюн пасля Якуціі***



***Сяргей Новік-Пяюн з сястрой Кацярынай і пляменнікамі, 1965 г.***

*Да роднае Бацькаўшчыны, усё-ткі мне*
*Вярнуцца яшчэ давядзецца!*

У 1966 годзе Сяргей Новік-Пяюн наладзіў цесныя літаратурныя сувязі з беларускім тыднёвікам "Ніва" у Беластоку, якія працягваліся аж да самай смерці паэта (памёр у 1994 годзе). У студзені і ліпені гэтага года ён друкуе вершы для дзяцей "Дзед Мароз", "Вожык", "Верабейчыкі" і апавяданне "Цешка". Асабліва шмат паэтычных радкоў Сяргей Новік-Пяюн апублікаваў у "Ніве" ў 1980-х гадах. Найперш гэта былі вершы пра родную прыроду, лясных і хатніх жывёл, а таксама ўспаміны пра гісторыка Язэпа Стаброўскага, паэта Гальяша Леўчыка і пра Ядвісю - гераіню Якуба Коласа, якая жыла ў Слоніме.

***Сяргей Чыгрын.*** *Фота з архіва аўтара.*

*Вітольд Банах*

# РАДЗІВІЛЫ*

## Бурлівыя лёсы слыннага роду

### Чарговае прыніжэнне Сабескіх ці Пшэбяндоўскі выходзіць на гістарычную арэну

Якуб не меў таксама шчасця ў заняцці трона пасля смерці бацькі Яна III, хаця спачатку падавалася, што падтрымка яго кандыдатуры можа быць значная. Марыя Казіміра старалася знайсці прыхільнікаў сярод гетманаў, біскупаў, ваяводаў і іншых важных саноўнікаў каралеўства. Удава па Льве Лехістане старалася пра гэты выбар і, як бы сказалі сённяшняй мовай, лабіравала, як патрафляла, хаця вялікая частка шляхты яшчэ пры жыцці караля вельмі неахвотна ўспрымала ўсякія праявы фавору Якуба ад яго бацькі.

Сярод асоб, на якіх спачатку разлічвала, быў хелмскі кашталян Ян Ежы Пшэбяндоўскі[1], які меў у той час няпоўныя шэсцьдзясят гадоў, але якраз прыйшоў яго час на адыгранне асаблівай ролі ў гісторыі. На шчасце меў перад сабой яшчэ амаль трыццаць гадоў жыцця, бо толькі цяпер чакала яго спозненая, але вялікая кар'ера.

Пшэбяндоўскі быў сынам лянборгскага земскага суддзі Пятра Пшэбяндоўскага, правадыра пратэстантаў у Каралеўскіх Прусах, вучыўся ў езуіцкім калегіюме ў Гданьску і перайшоў у каталіцызм. Знаходзіўся па чарзе пры дварах Яна Казіміра, Міхала Карыбута Вішнявецкага і Яна III Сабескага. Браў удзел ва ўсіх тагачасных ваенных кампаніях і даслужыўся да звання палкоўніка.



*Ян Ежы Пшэбяндоўскі, як ні дзіўна - адзін з пачынальнікаў прускай лініі Радзівілаў*

Пачынаючы ад 1668 года пастаянна выбіраўся на соймы. Карыстаўся даверам каралевы Марысенькі, якая разлічвала не толькі на яго падтрымку ў выбары яе сына на караля, але прасіла яго таксама

* Кніга Вітольда Банаха “РАДЗІВІЛЫ. Бурлівыя лёсы слыннага роду” пра недастаткова вядомую на Беларусі “прускую” лінію Радзівілаў выйшла ў Познаньскім выдавецтве “Copyright” у 2018 годзе. Тут яна падаецца ў перакладзе Станіслава Судніка. Кніга не ілюстраваная, таму ілюстрацыі для часопіснана варыянту падабірае рэдакцыя. Рэдакцыя робіць і каментары паводле розных крыніц.

[1] Ян Ежы Пшэбяндоўскі гербу Куна (нар. 1 лістапада 1638 года, памёр 24 лютага 1729 года) - генерал-маёр каронных войск у 1728 годзе, Падскарбі вялікі каронны ад 1703 года, генерал вялікапольскі, ваявода мальборкскі (1697-1703), ад 1693 кашталян хэлмскі, стараста мірахоўскі, пакрывінскі, пуцкі і грабоўскі, стараста кішпорскі ў 1697-1703 гадах, рэйхсграф, палкоўнік Яго каралеўскай мосці ў 1676 годзе, сенатар.

Пасол Пуцкага павета на каранацыйны сойм 1676 года, сойм 1681 года, сойм 1683 года, пасол мальборкскага сойміка на сойм 1685 года, сойм 1690 года. Як сенатар браў удзел у соймах 1696, 1697 (I), 1698 і 1699 гадоў.

Належаў да Чырвонага брацтва – першай польскай масонскай ложы.

Адзначаны ордэнам Белага арла.



*Герб Куна*

пра апеку над сямейнымі добрамі.

У мінулым адносіны Пшэбяндоўскага з Сабескімі былі досыць складанымі. Узаемадзейнічаў з праціўнікамі "абсалютычных памкненняў караля": ваяводам познаньскім Крыштафам Гжымілтоўскім і брандэнбургцамі, кантактуючы з той мэтай таксама з французскім амбасадарам у Берліне. За сваю антыкаралеўскую пазіцыю атрымоўваў значныя квоты роўна як ад Францыі, так і ад Брандэнбургіі. Ужо пасля венскай вікторыі ўдзельнічаў у таемным спатканні так зв. незадаволеных (ваяводы Бялінскі і Гжымултоўскі, вялікі каронны маршал Любамірскі, вялікі каронны харунжы Ляшчынскі), чыёй рэальнай мэтай было супрацьстаянне выбару Якуба на нашчадка трона. Праз некалькі гадоў Пшэбяндоўскі змяніў фронт і аказаўся ў таварыстве, якое падтрымлівала караля ў канфлікце з магнацкімі родамі. Дбаў пра добрае стаўленне да той ступені, што калі праз пэўны час каралева аказала яму недавер, то прасіў аб заступніцтве падканцлера літоўскага Караля Станіслава Радзівіла.

Пасля смерці караля Сабескага Пшэбяндоўскі на працягу нейкага часу рабіў выгляд актыўнага прыхільніка Сабескіх. Паводзіў сябе, аднак, падобна таму, як і шмат іншых прадстаўнікоў магнатэрыі і шляхты, якія з вялікай лёгкасцю пераходзілі з лагера ў лагер, а часамі фармальна былі ў двух лагерах адначасова. Таму ўласна дачка падскарбія ў перыяд грамадзянскай вайны за часы Аўгуста II пыталася ў лістах бацьку, як так можна, што некаторыя магнаты падпісваліся на актах дзвюх розных і праціўных сабе канфедэрацый.

Двулічных прыхільнікаў была тады цэлая грамада, Пшэбяндоўскі не быў выключэннем, аднак ён сваёй вёрткасцю як у перыяд перад, так і ў ходзе элекцыі выбіваўся па-за нормы сваіх часоў. Здаралася, што вёў не двайную, а трайную гульню.

Пакуль не пачаліся выбары, лічыўся каралевай за прыхільніка каралевіча Якуба, а сам фактычна супрацоўнічаў з французскім паслом Мельхіёрам дэ Палігнакам, які рэпрэзентаваў кандыдатуру князя Конці. Паводле даклада француза Пшэбяндоўскі інфармаваў яго пра пачынанні Якуба. Калі ж ужо дайшло да элекцыйнага (выбарчага) сойму, агітаваў за кандыдатуру Ветына. Абурэнне шляхты, якая абвінавачвала Пшэбяндоўскага ў здрадзе, дасягнула зеніту. Раз'юшаны мальборскі ваявода Себасцян Чапскі гатовы быў забіць саскага агітатара. Дастаў пісталет і стрэліў у вераломца з блізкай адлегласці, на шчасце прамахнуўся. Каб той выстрал быў трапны, гісторыя Радзівілаў пайшла б зусім іначай, быць можа, берлінскай лініі зусім не было б.

У цэлым падкаморы Чапскі не павінен быў быць моцна здзіўленым. Падтрымка кандыдатуры Фрыдрыха Аўгуста з пункту гледжання Пшэбяндоўскага была найбольш лагічнай. Пшэбяндоўскі быў мужам Малгажаты з Флемінгаў, яе стрыечным братам быў саксонскі фельдмаршал Якуб Генрых Флемінг. Пра сямейныя сувязі Пшэбяндоўскага з саксонскім дваром было вядома. Аднак ніхто з прыхільнікаў Конці не здаваў сабе справы, што вясной 1697 года Пшэбяндоўскі быў у Дрэздане і пераконваў электара стаць кандыдатам. Становішча Пшэбяндоўскага ў краі, абяцанне падтрымкі паморскай шляхты і сямейныя сувязі з пэўнасцю былі прычынай, якія ўплывалі на апошняе рашэнне вылучэння кандыдатуры Ветына на трон Рэчы Паспалітай.

У ноч перад выбарамі Пшэбяндоўскі, не зважаючы на рызыку, якую спазнаў на пачатку выбарчай кампаніі, стараўся гарэлкай і подкупамі пераканаць шляхту, як аказалася пад раніцу, яго агітацыя была вельмі паспяховая. Паводле Аляксандры Скрыпец (выдатнай знаўцы лёсаў сям'і Сабескіх), побач з біскупам куяўскім Станіславам Домбскім, якраз Пшэбяндоўскі быў найбольш паспяховым прапагандыстам кандыдатуры Фрыдрыха Аўгуста. Адзін з саксонскіх аглядальнікаў назваў акцыю Пшэбяндоўскага майстэрствам. Хаця яго захады былі вельмі паспяховыя і пераканалі вялікую частку шляхты, выбар Фрыдрыха Аўгуста не быў цалкам перадвызначаны. Пасля першага дня *interrex* прымас Радзяёўскі не адважыўся яшчэ на абвяшчэнне выбару, на працягу ночы надалей трывалі спробы расейскіх прыхільнікаў, даходзіла то да сутычак, то да спроб гандлю. Была нават думка адмовы абоім кандыдатам і выбару кампраміснага кандыдата, макграфа бадэнскага Людвіка Вільгельма. На світанні 27 чэрвеня абедзве групоўкі занялі свае акопы і былі гатовыя да бою. Прымас абвясціў, што легальна абраным кандыдатам стаў князь Конці. Прыхільнікі Ветына не прызналі гэтага выбару, пачаўся бег наперагонкі да калегіі св. Яна, каб адправіць падзячнае набажэнства. Найперш адправілі сваю імшу - не без цяжкасці, бо біскуп Вітвіцкі не хацеў кантыстаў пускаць - прыхільнікі Конці, пазней да калегіі дабраліся прыхільнікі Ветына.

У перагонках на Вавель выйграў аднак Аўгуст, які ў ліпені дабраўся да Тарноўскіх Гор. Пшэбяндоўскі прывітаў яго пры ўездзе ў Польшчу і стаўся яго найбольш давераным паплечнікам. У Кракаве не абышлося без праблем з доступам да каранацыйных кляйнотаў, якія захоўваліся ў вавельскім скарбцы. Бяспека скарбца палягала на тым, што дзверы мелі восем замкоў, ключы да якіх трымалі сенатары, прызнаўшыя выбар Конці. Узлом

дзвярэй быў бы прызнана за святатацтва. Таму зрабілі амаль як з Гордзіевым вузлом, выбілі дзірку ў муры, праз якую вынеслі каралеўскія кляйноты. Дзверы засталіся ў стане непарушным. 15 верасня 1697 года электар прысягнуў *pacta conventa* і быў каранаваны на караля Польшчы куяўскім біскупам Станіславам Домбскім у вавельскай катэдры.

Адсюль пачнаецца хуткая кар'ера Пшэбяндоўскага, якому кароль давяраў чарговыя місіі і аказваў значныя міласці. Ужо праз два дні пасля каранацыі ён атрымаў годнасць мальборкскага ваяводы.

Здавалася, што нанава ўладкоўвае сваё жыццё, будучы верным прыхільнікам новага караля. Яшчэ перад каранацыяй, падчас размоў караля з апазіцыяй значная частка шляхты хацела пачаставаць кашталяна шаблямі, але той здолеў схавацца ў рэзідэнцыі брандэнбургскага пасла. У наступным годзе, падчас так званай Падгаецкай кампаніі (супраць Турцыі), у выніку канфлікту паміж саюзнымі войскамі: саксонскімі і польскімі, падхмелены староста краснастаўскі Міхал Патоцкі на гэты раз дастаў шабляй і раніў Пшэбяндоўскага, які мусіў схавацца ў каралеўскім намёце. Мальборкскі ваявода быў адзіным палякам, чальцом Тайнага кабінета Аўгуста II, 3 лютага 1703 года стаў вялікім каронны падскарбіем.

Сучаснікі, прыгадваючы яму нізкае паходжанне, зычлівасць караля і адсутнасць магнацкіх уладанняў, далікатна кажучы, не бегалі за фаварытам новага ўладара. "Усё на сябе і за сябе ўзяў", "усюды яго поўна было", "усім нашкодзіў", - так пра яго гаварылі.

Трэба таксама аднак аддаць належнае гэтаму дасведчанаму палітыку. Застаючыся верным каралю і ў момант, калі Аўгус II быў змушаны да адрачэння ад улады, не быў толькі яго некрытычным прыхільнікам. Супраціўляўся ўзалежненню Рэчы Паспалітай ад цара Пятра I, пратэставаў супраць рабунку краю расейскімі і саксонскімі войскамі, арганізоўваў дыпламатычныя місіі ў Берлін, прагнучы перакрэсліць прускія планы адносна Гданьска і Каралеўскіх Прусаў. Супрацьстаяў таксама планам прыхільнікаў Ляшчынскага, якія ўзамен на яго падтрымку былі схільныя да ўступак прусакам Варміі, Эльблонга і Каралеўскіх Прусаў. Будучы па-за краем, у час Паўночнай вайны, стараўся наглядаць за скарбовай адміністрацыяй у Польшчы, выступаў - асабліва ў 1710 годзе - з многімі ініцыятывамі, маючымі на мэце папраўку фінансавай сітуацыі краю.

Высновы такіх даследчыкаў, як М. Ныч, J. Гяроўскі, J. Сташэўскі, падкрэсліваюць, што Пшэбяндоўскі сярод сучаснікаў выдзяляўся гаспадарлівасцю, веданнем фінансавых праблем, рэлігійнай талерантнасцю, разуменнем патрэб гарадоў і іхняга развіцця.

На думку праф. Андрэя Савы Пшэбяндоўскі быў найвыдатнейшым міністрам караля, які стараўся звязваць паміж сабой у лагічную цэласць элементы аналізу чыннікаў вайсковых, эканамічных, праблем, звязаных з замежнай палітыкай і ўнутранай сітуацыяй канкрэтных дзяржаў. Падтрымліваў падупадаўшы гандаль, быў ініцыятарам будаўніцтва новых капальняў срэбра, прадрыхтоўваў работы, якія мелі паправіць прыгоднасць да караблеходства Віслы і Сана. Калі б рэліі тагачаснай Рэчы Паспалітай спрыялі пад'ёму дзяржавы, вялікі каронны падскарбі мог адыграць значную пазітыўную ролю.

Пшэбяндоўскі на працягу многіх гадоў паспяхова разбудоўваў свае ўладанні. Перад выбарамі Аўгуста II ён меў разлеглыя добры ў ваколіцах Гданьска, праз год атрымаў Пакрыўна ў Хэлмскім ваяводстве. Падчас панавання Аўгуста II Моцнага стаў найбольшым арандатарам каралеўскіх зямель у Каралеўскіх Прусах. Сабраў таксама добры ў ваяводствах: Калішскім, Кракаўскім, Ленчыцкім, Рускім, Серадскім.

У 1699 годзе купіў у Рафала Ляшчынскага Прыгодзіцкія добры (ахоплівалі зруйнаванае мястэчка Востраў), размешчаныя на поўнач ад гродавага староства Адалянаў.

Распараджаючыся шматлікімі ўладаннямі ў краі мог думаць пра выданне сваёй дачкі за прадстаўніка аднаго з найважнейшых радоў Рэчы Паспалітай.

Падскарбі не меў шчасця ў сямейным жыцці. Падчас, калі ўпінаўся на прыступках кар'еры, што раз горш складвалася яго сямейнае жыццё. Калі пакідаў Дрэздан з рознымі дзяржаўнымі місіямі або даглядаў свае маёнткі (напр. Прыгодзіцкія добры), дзе ў 1714 годзе закончыў аднаўленне горада Востраў, яго жонка ахвотна заставалася ў сталіцы Саксоніі. Пасля вяртання Аўгустам II польскай кароны ў 1709 годзе наступіў фактычны разрыў паміж сужэнцамі. Жонка падскарбія мела ў Дрэздане двор, які быў пасярэднікам паміж прыбышамі з Польшчы і саксонскім дваром - яго пані, прыхільная палякам, трымала польскую службу.

Толькі двое дзяцей Пшэбяндоўскіх: дачка Дарота Генрыка (нар. У 1682 г.) і сын Пётр (нар. у 1690 г.) дасягнулі дарослага веку. Сын атрымаў 2 траўня 1710 года годнасць кароннага крайчага, але ў тым самым годзе ў кастрычніку памёр. Таму перыпетыі з замужжам дачкі забяспечылі непрыемнасцямі амаль цэлую чвэрць веку жыцця пана падскарбія.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# HORODZIEJ на розных картах

Зараз я вам крышку распавяду пра гістарычную мясцовасць HORODZIEJ, каб вы маглі ўявіць сабе ўсю магутнасць і багацце нашай радзімы.

Звернемся да гістарычных картаў і паспрабуем разабрацца, што за месца такое Вялікі Двор, Новая Вёска і Гарадзея. Пачнём з карты Вялікага Княства Літоўскага 1770 г.




***Фрагмент карты Вялікага Княства Літоўскага, 1770 г.***

Як бачна, нашай мясцовасць тут і блізка не адзначана. А вось прыкметна тое, што адзначана наша суседка Ліпа, як быццам бы ў той час яна мела багатую гістарычную спадчыну.

Іншая карта не мае года складання, пазначана як карта Літвы і Белай Русі XIX ст., на ёй ужо красуецца знаёмая нам назва ***Horodziej***. Заўважце, што чытаецца гэта назва не як ***Гарадзея***, а як ***Гародзей***! Цікава, колькі Гародзеяў і Гарадзей







***Фрагмент карты XIX стагоддзя***

было на тэрыторыі нашай мясцовасці і ў чым іх розніца? І як Гародзей быў адзначаны менавіта на гэтай мапе XIX ст. Чырвоная лінія на мапе паказвае нам, што карта была распрацавана ў той час, калі была пабудавана чыгунка, а гэта прыкладна 1869-1871 гг.

Звернемся да наступнай знойдзенай мапы, 1865-1866 гг. Тут ужо назвы населеных пунктаў паказаны на рускай мове, і *Гародзей* пішацца як ***Гарадзея***.

Як бачна, на мапе адзначана *станцыя Гарадзея*, а крышку вышэй адзначана мясцовасць *"Городея - Дольно"*, якая на наступных картах будзе адзначана як ***Новая Вёска***, а калі ўзяць крышку правей курсівам відаць надпіс *"Господский двор Городей"*, гэта той самы двор, які зараз мае назву - ***Вялікі Двор***. Вось так мясцовыя жыхары і адрознівалі *Гародзей* ад *Гарадзеі*. *Вялікі Двор* быў *Гародзей*, сучасная тэрыторыя *Гарадзеі* так і была *Гарадзея*, а *Гарадзея-Дольна* мясцілася на месцы сучаснай *Новай Вёскі*. Калі вы звернеце ўвагу, на левым баку ад чыгункі размешчаны яшчэ два панскія двары пад назвай *"Городея"*, у якіх былі свае гаспадары. Таму гэта карта вельмі дакладная, бо мы можам назіраць, дзе ў Гарадзеі мясціліся панскія двары і іх колькасць.

Таксама на гэтай мапе вы можаце заўважыць незвычайныя надпісы *"Плебанія"*. Плябанія - двор святара каталіцкай, рэфармацкай ці ўніяцкай царквы ў Польшчы і ў Беларусі ў XVI-XX стагоддзях. Звычайна размяшчаўся каля храма, уключаў жылы дом і гаспадарчыя пабудовы. Каб вы больш разумелі на Гарадзейскіх могілках раней стаяла ўніяцкая царква, яна была такой старой, што ў ёй не маглі весці царкоўную службу і ў 1897 годзе пачалі будаваць новую праваслаўную царкву, якая была знішчана падчас Другой сусветнай вайны. Таму на карце 1865-1866 года, першая старая царква яшчэ адзначана як уніяцкая плябанія.




***Фрагмент карты 3-вёрсткі, 1865-1866 г.***

Прыйшоу час разглядзець яшчэ адну цікавую мапу, яна датуецца 1869 годам.

Заўважце колькі размешчана на ёй подпісаў з назвай *"Городея"*, *"Городей"*, *"Городея-Дольно"*, так аж пяць надпісаў. Давайце разгледзім іх з вамі прытрымліваючыся гэтай мапы зверху ўніз. Як вышэй мы з вамі разважалі, *"Городей-Дольно"* - *Новая вёска*, *"Городей"* - *Вялікі Двор* Адама Брахоцкага або Мітарноўскіх, а далей *"Городея"* (што над Маляўшчынай ) - двор, які належаў абшарніку Марцінкевічу, ніжэй яшчэ адна *"Городея"* - двор, які належаў Багдановічу, а потым яго выкупіў Юліян Неслухоўскі, ну і *"Городея"* - сучасны цэнтр, які




***Фрагмент карты 10-вёрсткі 1869 года***

быў перапоўнены габрэямі. Як вы ўжо заўважылі, *Горнай Гарадзеі* ў тыя часы зусім не існавала на картах.

Цяпер я вас пазнаёмлю з яшчэ адной картай, датуецца яна 1910 годам. 30 год прайшло з апошняй разгляданай мапы, і зараз мы з вамі даведаемся, што змянілася ў нашай мясцовасці. Так, як бачна, узніклі новыя, але ўжо вядомыя нам назвы: ***"Новая-Весь"*** - былая *Гарадзея -Дольна*, ***"Г.дв. Великий Двор"*** - былы *Гародзей*. Цяпер з'явіліся скарочаныя назвы панскіх двароў (господский двор) *"Г.дв."* без назвы да якой мясцовасці яны належала, а раней была назва *"Г. дв. Городея"*. Звярніце ўвагу, *"Ст. Городея"* адзначана як ***"Ст. 3 кл. Замирье"***, ну і канешне ж на месцы плябаніі з'явіўся ***"Погост"*** - праваслаўная царква з прылеглай пляцоўкай і з могілкамі ўбаку ад сяла.




*Фрагмент карты 1910 года*

Можна лічыць, што карта 1910 г. канчаткова пазбавіла тэрыторыю Гарадзеі яе гістарычнай спадчыны, тым самым Гарадзея страціла два свае першыя імені як *Гародзей* і *Гарадзея-Дольна*.

Наступная карта - карта нямецкая генштаба арміі 1914 года. На ёй ужо добра ўжыты назвы: ***Новая Вёска*** і нават ***Станцыя Замір'е (Bhf. Samirje)***, а вось правапіс назвы могілак вельмі цікавы - ***Zu. Gorodeja***, хоць і паўсюль значацца назвы з




*Фрагмент нямецкай карты генштаба арміі, 1914 год*

літары **"Н"** - ***Horodseja***. А вось назва *Вялікі двор* яшчэ цалкам не ўвайшоў ва ўжытак, таму лічыцца ***"Панскі двор Гарадзея"***. Карта ўдакладненая, і яе год насамрэч 1914.

Яшчэ адна нямецкая карта, ужо 1916 г. На ёй, як і на карце 1914 г., Зарэчча мае цікавы правапіс ***"Sarjetschje"***, а *Гародзей* і *Гарадзея* зусім перасталі розніцца, хіба толькі прыстаукай *"Gut. Horodseja"*. ***Bhf*** - адзначаны чыгуначны прыпынак. ***Ww***- мабыць царква на Урванце, а ***zu. Horod*** - мясцовыя могілкі Карта ўдакладненая, і яе год насамрэч 1916.




***Фрагмент нямецкай карты 1916-1917 гг.***

Наступная карта - польская карта 1922 г. Гэтая карта ёсць рэпрадукцыя нямецкай карты 1896 г., таму на ёй пазначаны старыя назвы мясцін. На ёй адзначаны цікавыя пункты: цэрквы на Урванце і на могілках, млыны.




***Фрагмент польскай карты Wojskowego Instytutu Geograficznego, 1922 год***

Яшчэ адна цікавая польская карта раздрукована ў 1924, але спраўджана і ўдакладнена ў 1922 г. Яна больш якасная, чым вышэй прадстаўленная карта і мае цікавыя назвы, так мы можам бачыць існаванне на Урванце малітоўнага дома, а на гародзейскіх могілках іх і зусім два. Млыны павырасталі

на кожным масточку, што не можа не здзіўляць. Заўважце, "палякі" на невялікі кавалак часу вярнулі старую назву ***“Horodziej/Гародзей”***.




***Фрагмент польскай карты Wydanie Wojskowego Instytutu Geograficznego, 1924 г. На момант складання 1922 г.***

Наступная польская карта Wojskowego Instytutu Geograficznego, 3 км, 1929 г. Палякі змянілі назву *Гарадзеі Дольнай* на *Новую Весь*, малыя панскія двары ўжо не адзначаны, і зноў назва ***“Horodziej/Гародзей”*** заняла сваё месца, але не першапачатковае. Калі вы памятаеце, на старых картах Гародзей быў на месцы Вялікага двара. Бачна, што на могілках ужо пазначана адна царква замест дзвюх. Карта ўдакладненая, і яе год насамрэч 1929 г.




***Фрагмент карты Wojskowego Instytutu Geograficznego, 3 км, 1929 г.***

Наступная польская карта 1934 года. Вельмі дакладная карта на якой канркрэтна паказаны ўсе двары, асадніцкія пасяленні, фальваркі. Таксама, трэба заўважыць, што з'явіўся ***Гародзей-Горны*** і ***Гародзей-Дольны, Авульс-Гарадзейка***. Можна падумаць, што польскія ўлады вырашылі дасканала разабрацца з тэрытарыяльным дзяленнем Гарадзейскіх земляў. Гэта адна з найлепшых карт, якая можа дапамагчы краязнаўцу ў даследаванні былых абшарніцкіх двароў і іншай нерухомай уласнасці. Калі раней *Гародзей Дольны* займаў тэрыторыю *Новай Вёскі*, то цяпер, гледзечы на гэтую карту, мы можам сур'ёзна сцвярждаць што Гародзей - Дольны пачынаўся гарызантальнай паласой ад былога хутара "Магдулька" Марыі Халавецкай, што стаяў па левы бок Мірскай вуліцы насупраць дарогі, што вядзе на могілкі, і закончваўся каля вёскі Маляўшчына. Вуліца Кірава належала да Гародзея-Горнага, а вуліца 17-верасня - да Гародзея-Дольнага. Гародзей-Горны пачынаўся ад двара Халавецкага, зараз гэта




***Фрагмент карты Wojskowego Instytutu Geograficznego, 1934 г. Выпраўлена ў 1933 г. Частка 1 — Гарадзея***




***Фрагмент карты Wojskowego Instytutu Geograficznego, 1934 г. Выпраўлена ў 1933г. Частка 2 — Новая Вёска і Вялікі Двор.***

Новагарадзейск і заканчваўся каля вёскі Студзенкі. А вось назва *"Fw. Awuls-Horodziejka"* абазначае месца размяшчэння аэрадрома. Як вы можаце заўважыць, іх у Гарадзеі было два, таму і па сённяшні дзень мясцовыя жыхары кавалак лесу што стаіць на месцы былога аэрадрома так і называюць: “Аэрадром”.




***Фрагмент карты Рабоча - сялянскай чырвонай арміі, 2 км. 1935 г.***

Наступная карта, якую я змагла знайсці, 1935 года. Яна мала чым адрозніваецца ад папярэдняй карты, хіба толькі колерам.

Апошняя карта 1938 года рускамоўная, бачны пераклад населеных пунктаў з польскай мовы.

Каб было з чым параўноўваць, прывяду прыклад і сучаснай карты.

Які вынік можна зрабіць з усяго вышэй прадстаўленнага? Першапачаткова была наша мясцовасць адной вялікай пусташшу, і не мела яна аніякай назвы. І спадабалася гэта зямля аднаму чалавеку, у нашым з вамі выпадку гэта быў польскі пан, і ён на гэтай зямлі асеў. А што можа зрабіць адзін чалавек? Таму пан паклікаў да сябе шмат простых людзей з іншых зямель: пчаляроў,




***Фрагмент карты Рабоча - сялянскай чырвонай арміі, 500 м. 1938 г.***

*Фрагмент карты 2020 г.*

кавалёў, млынароў, садаводаў і г.д. і пачаў ствараць інфраструктуру. Паколькі пан паходзіў з польскіх зямель, то і назва яго ўласных тэрыторый давалася папольску - *Гародзей (Horodziej)*, і мясцовыя жыхары прытрымлівался гэтай назвы. Пры змене ўлады, калі тэрыторыя Гарадзеі аказвалася пад рускімі, назва *Гародзей* відазмянілася на *Гарадзея*. І вось такім чынам, заканамерна са змяненнем дзяржаўнай улады назва мястэчка *Гародзей/Гарадзея* змянялася. А калі першым уладальнікам Гарадзеі былі выхадцы з ВКЛ, то і назва мясцовасці звалася іх мовай. Дзякуючы картам, мы змаглі высветліць, што першапачаткова Гародзей узнік на месцы сучаснага Вялікага Двара, а з цягам часу яго тэрыторыі пачалі павялічвацца ў сваіх памерах і назву *Гародзей/Гарадзея* ўжо насіў кожны гаспадарчы двор нашай з вамі мясцовасці.

*Аўтарка даследавання:*
***Наталля Апацкая.***

*В. А. Акула*

# На паўднёвы захад ад Мінска

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### АДХОДЗІЦЬ БЫЛО ЦЯЖКА

Пад напорам пераўзыходных сіл праціўніка мы пакідалі родныя месцы. Адходзіць было цяжка. Ніколі не забыцца тую марозную ноч, калі яркія водбліскі ракет дугой ачэрчвалі начное неба, прымушаючы нас падаць, чакаць, калі зноў наступіць цемра, і затым кідацца ў яе, каб вырвацца з блакаднага кола. А кола сціскалася, ахопліваючы нас.

Але, здавалася, нават не гэта было самае страшнае. У родных месцах заставаліся на здзекі нашы браты, сёстры, маці, дзеці, жонкі... Мы пакідалі іх безабароннымі, адыходзячы ўсё далей, развітваючыся са знаёмымі да болю ў сэрцы бярозкамі, лясамі і пералескамі, ярамі і вёскамі, дзе доўгі час знаходзілі прытулак, ежу, падтрымку.

Брыгада паатрадна, паротна і пазвязна выцягвалася з лесу і перавальвала цераз узгоркі. Тым часам у розных месцах успыхвалі асляпляльныя ракеты. Яны згасалі, і зноў, пракрадваючыся ў ноч непарыўным жывым струменем, захоўваючы цішыню, рухаліся людзі, вазы, гарматы...

За ноч пераадолелі каля трыццаці кіламетраў. Прайшлі вёскі Шчарбіны, Рымашы, Выню, Кукавічы, Куцаўшчыну і спыніліся ў Савічах. Наперадзе Палессе.

А дзесьці далёка ззаду чулася гарматная кананада. Там, дзе яшчэ ўвечар сціскалася над намі кола блакады, пачалося прачэсванне лесу. Але яно нам было не страшнае.

Жыхары вёскі Савічы, бачачы змарнеласць партызан, імкнуліся пачаставаць хоць чым-небудзь са сваіх бедных запасаў. Усё лепшае неслі, вядома, туды, дзе спыніўся шпіталь. У вазах, на мяккіх сенных пасцелях ляжалі цяжкапараненыя, забінтаваныя байцы. Побач, абапёршыся на вазы, а то і проста ўсеўшыся на зямлю, сабраліся тыя, хто быў лёгка паранены.

Водар свежага хлеба, малака, прынесенага жанчынамі, змяшаўся з пахам поту і пасмаглай крыві. Санітары выносілі параненых у хаты. Партызаны з бінтавымі павязкамі, накульгваючы, абапіраючыся на вінтоўкі, ішлі да прасторнай сялянскай хаты, адведзенай пад медпункт. Ім аказвала дапамогу лекар Ніна Жураўская.

Вакол вёскі была выстаўлена ахова. Як паведаміў камандзір атрада Шастапалаў, брыгада спынілася тут на часовы адпачынак. Але адпачываць давялося не ўсім. Адны групы выходзілі на нарыхтоўку прадуктаў, іншыя - у выведку, трэція - у засады і на падрыў эшалонаў. Баявое жыццё не спынялася ні на хвіліну.

Васіль Гамелька гэтым разам падняўся з узыходам сонца і штосьці майстраваў, прымасціўшыся каля акна.

Праціраючы вочы, у хату ўвайшоў Ян Гладоўскі. Убачыўшы засяроджанага Гамельку, ён паціху падышоў ззаду, прыгледзеўся да яго "вядзьмарства", хацеў пажартаваць, але, падумаўшы, што, мабыць, мае быць сур'ёзнае заданне, заўважыў:

- Хітра, Васіль Якаўлевіч! - Ян нагнуўся, узяў у рукі шлейку рэчмяшка з нашытымі на яе палосамі лямцу, пакруціў галавой сюды-туды. - Выдатная штука! А для мяне такіх мякенькіх не знойдзецца?

Гамелька зірнуў на Гладоўскага.

- Можа, і знойдзецца, ды не ўсё дарма даецца, - адказаў.

Не ведаў Гладоўскі, што Гамелька падрыхтаваў такога лямцу для ўсёй групы. Мы хвалілі Гамельку за ініцыятыву, прымяраючы шлейкі да плячэй.

На заданне адправіліся раніцай 5 снежня 1942 года. Пакуль было магчыма, груз везлі на падводзе, а потым ездавы Андрэй Раманавіч Ішчанка павярнуў назад. Ох, ужо гэтыя пераходы да чыгункі! Яны часам бывалі больш складаныя і цяжкія, чым падрыў цягніка.

Гэтым разам мы накіроўваліся ў раён паміж станцыямі Сноў і Гарадзея. Сустрэчны халодны вецер біў у твар, пхаў у грудзі тугім струменем, быццам імкнуўся стрымаць нас. Мы хутка стамляліся. І калі падышлі да вёскі Баяры, ужо не адчувалі, як гаворыцца, ног. Адпачываць на холадзе было небяспечна, таму вырашылі паслаць выведку ў вёску і, калі там няма немцаў, зайсці на пару гадзін у хату. Да чыгункі заставалася кіламетру трычатыры. Але наперадзе была хуткабежная рака Сноўка, якую трэба пераадолець, ды і пра ахову дарогі даведацца. Без дапамогі мясцовых жыхароў гэтага не зрабіць.

У выведку пайшлі Мікалай Бабіч і Віктар Мацецкі. Неўзабаве яны вярнуліся з солтысам вёскі. Ён упаў на калені, пачаў прасіць літасці.

- Калі не напаскудзіў, пакінем, - сказаў Гамелька, - пайшлі ў вёску.



***Мацецкі В. А.***

Мы размясціліся ў солтыса, загадаўшы нікому не выходзіць з хаты. Гаспадыня, відаць, запалоханы і бяспраўны чалавек у сям'і, рыхтавала нам ежу, мітусілася па хаце, усё штосьці прыгаворваючы паўшэптам. Дзве дзяўчынкі гадоў 10 - 12 сядзелі рахмана на печы і толькі спалохана касілі на нас вачанятамі.

Ян Гладоўскі пайшоў з вясковым хлопцам Стасікам, каб вызначыць месца пераправы цераз раку, якая яшчэ не замерзла. Былы мост згарэў, і пераправіцца на той бераг можна было на адзінай у вёсцы лодцы.

- Каб толькі не адагналі,- турбаваўся Стасік, - Тады трэба будзе чакаць, пакуль хто-небудзь прыгоніць назад.

Да шчасця, лодка аказалася на гэтым беразе, і Гладоўскі са Стасікам прыхавалі яе ў зарасніках.

З наступленнем цемры мы неўзаметку выйшлі з вёскі, пакінуўшы назіраць за хатай солтыса Мікалая Бабіча.

- Пачуеш выбух, выходзь да ракі, - загадаў яму Гамелька.

Лодка была добра напоўнена вадой. Мы выграблі яе і паволі рушылі на процілеглы бераг, пераадольваючы даволі-такі хуткую плынь Сноўкі.

За ракой раскінулася куп'істая раўніна калісьці асушанага балота. Існці па ёй - чыстая пакута. Спатыкаешся на купінах што ні крок. Але вось ужо злева засталася вёска Клепача.

З боку чыгункі былі чутны кулямётныя выстралы і перыядычна ўспыхвалі ракеты.

- Перагаворваюцца, - заўважыў Уладзімір Мармоль.

- А па-мойму, супакойваюць нервы,- адгукнуўся Васіль Гамелька. - Але для нас гэта і лепш, калі нярвуюцца.

Пакуль падбіраліся да чыгункі, прагрукатала некалькі цягнікоў.

- Зачасцілі штосьці, - заўважыў Уладзімір Беніш. - І ўсё туды, на ўсход...

Мініраваць чыгунку адправіліся Гамелька і Беніш. Мы рассыродзіліся, каб прыкрыць іх у выпадку неабходнасці. Прамчаліся з ляскам яшчэ два цягнікі. Недалёка ўспыхнулі адна за другой ракеты, выхапіўшы з цемры тэлеграфныя слупы, насып. Мы ляжым, стаіўшы дыханне, і толькі незвычайна гучна стукае сэрца. Напэўна, яно ніколі не зможа прывыкнуць да трывог і хваляванняў, колькі яго ні прывучай!

Калі з боку Баранавіч пачуўся ледзь улоўны гук надыходзячага цягніка, чамусьці падумалася: "Гэты - наш". І па меры ўзмацнення гуку ўсё больш нарастала ўнутраная напруга.

Далёка на гарызонце раз-другі шаснула па небе водбліскам, і з-за павароту раптам вырваўся вялікі сноп агню. Перабіраючы, як пацеркі, шпалы, ён хутка перасоўваўся. Яго рассеяныя промні абмацвалі абочыну чыгуначнага насыпа, быццам вышуквалі той тонкі, ледзь прыкметна адпаўзаўшы ад рэек провад, каб у сакрэтах, што ўтойваюцца ў ім, знікнуць самім.

Гэта імгненне надышло! Велізарная маса агню, якая суправаджаецца выбухам, скрыгатам, трэскам, ускінулася ў цёмнае неба. Шматгалосае рэха раздалося тут і там...

Літаральна за некалькі хвілін мы сабраліся ў прызначаным месцы і моўчкі пацiскалі адзін аднаму рукі, абдымалі Гамельку і Беніша - нашых галоўных выканаўцаў дыверсіі. Але марудзіць нельга. Уздоўж чыгункі ажылі бункеры, успудзілася ахова. Масы трасавальных куль упіваліся ў цемру ночы, працінаючы яе ў розных кірунках.

І зноў гэта праклятае, нібы пабітае воспай поле. Бяжыш і не ведаеш, удала ступіш ці, зачапіўшыся за купіну, распластаешся.

Да месца, дзе была схавана лодка, дабраліся хутка і пераправіліся на процілеглы бераг Сноўкі. Мікалай Бабіч ужо чакаў нас. Павіншаваў з пос-

пехам.

Да раніцы ўвайшлі ў ахінуты сіняй смугой пералесак, што недалёка ад вёскі Альхоўка. Развіднела, далей рухацца нельга, зрабілі прывал. З наступленнем змяркання пачулі прыглушаныя вінтовачныя і аўтаматныя стрэлы ў кірунку вёскі Яскевічы. Гамелька, паглядзеўшы на карту, падаў каманду рухацца на вёску Даматканавічы і хутчэй перасекчы шашэйную дарогу Сіняўка - Клецк. Мы паспяхова праскочылі гэтую дарогу і, прайшоўшы яшчэ кіламетраў шэсць, спыніліся ў пералеску каля вёскі Янавічы.

Гамелька ведаў, што атрады пасля Лаўскага бою з вёскі Савічы будуць рухацца ў кірунку Арлікоўскіх лясоў, таму і ён трымаў такі курс. Пярайшоўшы шашэйную дарогу Баранавічы - Слуцк, каля ракі Лань мы сустрэлі выведнікаў атрада імя Чапаева.

Тады і даазналіся пра вялікія змены, якія адбыліся за час нашай адсутнасці.

Рашэннем міжрайкама Слуцкай зоны ад 8 снежня 1942 года партызанская брыгада імя Варашылава была разгорнута ў партызанскае злучэнне. Створаны тры брыгады і вызначаны іх раёны базавання: 225-я брыгада імя Суворава (камандзір Л. П. Сцефанюк) - Грэскі раён, 300-я брыгада імя Варашылава (камандзір В. Г. Яроменка) - Уздзенскі раён, 27-я брыгада імя Чапаева (камандзір Н.А. Шастапалаў) - Капыльскій раён. Камандзірам злучэння Слуцкай зоны быў прызначаны Ф. Ф. Капуста, камісарам - І. Д. Варвашэня, начальнікам штаба - П. З. Ігнашчанка.

### У АРЛІКОЎСКІХ ЛЯСАХ

Лагеры разбілі паатрадна. Пабудавалі буданы, выкапалі зямлянкі. Холад падганяў, і кожную вольную хвіліну выкарыстоўвалі для ўцяплення і ўдасканалення нашага прымітыўнага жылля. З'явіліся нават свае "вуліцы", шыльды над буданамі: вось такі звяз, вось такая рота.

Аднак мы нямала былі здзіўлены, калі ў цэнтры лагера загрукалі сякеры.

- Што задумалі будаўнікі? - пыталі мы адзін у аднаго.

Вянок за вянком вырастала прасторная драўляная хата. Вось ужо і дах завершана, вокны і дзверы ўстаўлены. Аднойчы ўзвіўся з коміна шызы дымок. Ён роўным струменьчыкам цягнуўся ў неба. Усе мы з радасцю глядзелі на гэтую, з дзяцінства знаёмую, ідылію. Яна нагадвала нам пра хату, пра сямейную выгоду.

А неўзабаве з'явілася над хатай шыльда: "Клуб". Настрой ва ўсіх быў прыпадняты. Вось ужо некалькі дзён немцы нас не трывожылі, і мы паспелі адпачыць.

Зараз у нас новы камандзір атрада Аляксандр Мікалаевіч Колчанка. Вышэй сярэдняга росту, па-армейску падцягнуты, энергічны. Яго чэпкі погляд, здавалася, не выпускаў ні найменшых дробязяў. Быў ён чалавекам адважным, у баі паводзіў сябе выключна стрымана.

Камісар атрада Мікалай Міхайлавіч Няпомняшчы папрасіў камуністаў сабрацца. Ён паведаміў, што міжрайкам прыняў рашэнне правесці партыйную канферэнцыю і да гэтай падзеі трэба рыхтавацца. Падкрэсліў, што галоўнае - узмацніць удары па варожых камунікацыях, часцей здзяйсняць дыверсіі на дарогах.

На партыйную канферэнцыю запрасілі і камсамольцаў. Пашчасціла прысутнічаць там і мне.

У канцы снежня 1942 года ў новы клуб у Арлікоўскім лесе з’ехалася 260 камуністаў злучэння. З дакладам выступіў сакратар Слуцкага міжрайкама партыі І. Д. Варвашэня. Ён падвёў вынікі барацьбы нашых атрадаў у тыле ворага, адзначыў баявыя заслугі партызан. Паведаміў, што фашысцкае камандаванне гэтай вясной рыхтуецца да генеральнага наступлення. Каб схаваць план гэтага наступлення, яны праводзяць падманнныя манёўры, накіроўваючы цягнікі з жывой сілай і тэхнікай па маршруце Баранавічы - Менск - Смаленск, а потым перакідаюць іх на Бранск і Арол, ствараючы такім чынам бачнасць засяроджвання войскаў недзе ў раёне Смаленска.

- Нягледзячы на старанную маскіроўку, мы павінны перашкодзіць гітлераўскаму камандаванню перакідваць свае сілы ў таямніцы ад Галоўнага камандавання Чырвонай Арміі, - гаварыў Варвашэня.- Атрады народных мсціўцаў злучэння павінны трымаць пад бесперапынным кантролем чыгунку Берасце - Менск і шашу Масква - Варшава...

Канферэнцыя паставіла перад камуністамі і камандаваннем задачу - актывізаваць барацьбу з акупантамі. І рашэнні яе пачалі ажыццяўляцца. На ўчастку чыгункі Баранавічы - Менск паляцелі пад адхон варожыя цягнікі, якія ішлі на фронт.

Ва ўсіх партызанскіх атрадах стварылі групы прапагандыстаў, дакладчыкаў і гутаршчыкаў. Яны выступалі перад жыхарамі навакольных вёсак, выкрывалі падступныя задумы гітлераўцаў. Стварылі таксама групу па рэдагаванні і друкаванні матэрыялаў, запісанных па радыё.

Гэтая група збірала і мясцовыя факты. Тут асабліва праявілі сябе Я. Г. Левановіч, К. Н. Клюйко, К. Ф. Коршук. Яны працавалі пад непасрэдным кіраўніцтвам сакратара межрайкама І. Д. Варвашэня. А калі мы захапілі ў Чырвонай Слабадзе раён-

ную друкарню, з 1 студзеня 1943 года яны выпускалі газету "Патрыёт Радзімы". Газета хутка завявала аўтарытэт і разыходзілася тыражом большым за 1000 асобнікаў. Распаўсюджвалася яна не толькі ў Капыльскім раёне. Яе дастаўлялі ў Менск, Нясвіж, Баранавічы.

Часам з Вялікай зямлі нам дасылалі падарункі, лісты. Іх скідалі з самалётаў на парашутах. У іх мы знайходзілі любоўна падабраныя штучкі - люлькі, тытунь, мыла, насоўкі. У мяшэчкі нашы далёкія незнаёмыя сябры ўкладвалі лісты з пажаданнямі хуткай перамогі.

Уся перыядычная літаратура, газеты, якія мы атрымлівалі, зачытвалася літаральна да дзірак. Усталёўвалася чарговасць: спачатку газеты чыталіся ў атрадах, а затым іх перапраўлялі ў населеныя пункты. Кожны асобнік хадзіў па руках месяц, а то і больш. Часам гэта быў ужо не нумар газеты, а частка яго: у розных населеных пунктах чыталіся асобныя кавалкі.

Успамінаецца выпадак, калі чалец Слуцкага падпольнага райкама партыі А. І. Сцяпанава чытала газету жыхарам вёскі Старыца. Гэта быў нумар "Праўды" з тэкстам звароту ваяроў-беларусаў "Да партызанаў і партызанкам, да ўсяго беларускага народа".

Слухаючы гэтыя словы, многія людзі плакалі. Яны кляліся граміць фашыстаў, не даваць ім ні грама хлеба, ніводнай бульбіны, ні глытка малака, ні кавалка мяса, усяляк дапамагаць партызанам.

Каб сарваць планы фашысцкіх карнікаў, мы штодня хадзілі ў засады, на падрыў цягнікоў, мастоў. Нягледзячы на суровае зімовае надвор'е, прабіраліся да самых далёкіх варожых гарнізонаў, гадзінамі мерзлі ў схованках, чакаючы з'яўлення фашыстаў.

Неяк пад вечар сядзелі мы вакол вогнішча, сушыліся, грэліся, перакідаліся жартамі.

Раптам раздаўся голас днявальнага:

- Булахаў, Акула, Цвірка! Да ўпаўнаважанага асобага аддзела Паніхіна.

- Не ведаеш чаго? - спытаў па дарозе Часлаў Цвірка.

- Па ўсёй бачнасці, на чай нас з табой запрашаюць. Цяпер вось сербанём гарачага да слёз, - азірнуўся Васіль Булахаў і пстрыкнуў языком.

У зямлянцы было душна. Полымя гуло ў "буржуйцы", пажыраючы сухія хваёвыя калодачкі. Іван Фёдаравіч Паніхін сядзеў, схіліўшыся за столікам, разглядаючы карту.

- Прысаджвайцеся пакуль,- адарваўся ён на імгненне ад карты.

Усе мы размясціліся каля печкі, з задавальненнем працягваючы да яе рукі.

- Такая справа, браткі,- не спяшаючыся пачаў Паніхін. - Недзе недалёка ад Сіняўкі, - ён ткнуў алоўкам у кут карты, - фашысты арганізавалі склад і завозяць туды паліва.

Мы падышлі да стала, зірнулі на карту. Прамая лінія дарогі накіроўвалася ад Слуцка на Сіняўку. Чырвоным алоўкам было абведзена месца недалёка ад вёскі Забалотнікі.

- Прыблізна тут, - сказаў Паніхін. - Але гэта прыблізна, а трэба дакладна. Зразумелі? Сувязных нашых у гэтым раёне цяпер няма, давядзецца вам ісці ў выведку.

Паніхін абвёў нас поглядам.

- Трэба меркаваць, ахова там узмоцненая, таму варта быць асцярожнымі. Вазьміце вінтоўку-бясшумку і магнітную міну. Добра, калі б атрымалася яе выкарыстаць. Пра адпраўку вас з камандаваннем дамоўлена.

Выходзілі досвіткам. Марозны вецер зрываў з галоў башлыкі, церабіў тонкае палатно маскавальных халатаў, хвастаў па грудзях канцамі завязак.

Калі выйшлі ў адкрытае поле, вецер стаў яшчэ злейшы.

- Выдатна пячэ,- прамовіў Булахаў і павярнуўся спіной да ветру, крочачы задам-наперад, пракладаючы суцэльны шлях у глыбокім снезе. - Перабяромся цераз шашэйку, а там і Грыцавічы.

- На які ляд нам гэтыя Грыцавічы,- спрабаваў запярэчыць Цвірка, - абыйдзем іх і далей.

- Ёсць там свой чалавек, дзядзька Міхал. З ім пагутарыць трэба, можа, што падкажа. У нашай справе, брат, без гэтага нельга, - растлумачыў Булахаў. - Ды і пагрэемся заадно. Прадувае ж наскрозь, бр-р-р!..

Булахаў меў дастатковы досвед баявых дзеянняў у нямецкім тыле. У якія толькі перыпетыі не трапляў ён, кантужаны баец Чырвонай Арміі, пакуль не сустрэўся з партызанамі. Навучыўся спаць, як заяц, чутка. Любіў рызыкаваць, але заўсёды цвяроза ўзвешваў цану рызыкі. І душы навучыўся адчуваць з першага стасунку з людзьмі - па вачах, паводзінах, гутарках.

Ужо зусім развіднела. Завея ўлеглася, і нават гурбы падаваліся, не такімі вялікімі. Рухацца стала лягчэй, вальней. Толькі ў вяршынях дрэў усё яшчэ скуголіў вецер.

- Можа, перадыхнём? - спытаў Часлаў Цвірка, - пакуль зацішша.

- Паспеем, - запярэчыў Васіль Булахаў.

Ён з усё нарастаўшым хваляваннем падыходзіў да шашы. Чуткі слых яго ўлоўліваў нейкі аддалены гук. Вось і тонкая стужка шашы пазначылася паміж свежымі снежнымі намецямі. А на ёй

чорнымі павукамі з невялікімі разрывамі рухаліся грузавыя крытыя і з адкрытымі кузавамі машыны.

Пачалі назіраць за рухам.

- І адкуль іх прарвала? - бурчаў Часлаў.

Ён замярзаў і таму быў такі незадаволены.

- Давай пойдзем па рове,- прапанаваў Булахаў.

Правальваючыся ў глыбокім снезе, прасоўваліся наперад. Роў часам рабіў выгіны, выходзячы з-за якіх можна ўбачыць шашу.

- Усё яшчэ паўзуць? - злаваўся Цвірка, паскараючы крокі па рабрыстых гурбах.

Нястомна раўлі дызелі, ішла калона. Падабраўшыся да шашы, убачылі, як у некаторых адкрытых машынах сядзелі натапыраныя немцы. Іх, мабыць, добра даймаў наш мароз.

- Як толькі пройдзе калона, перамахнём шашу, а там і Грыцавічы, - падбадзёрваў Булахаў.

- Можа, у тых Грыцавічах фашыстаў біткам, набіта і тваё, Вася, месца на печы занятае? - павесялеў Часлаў.

А рух, быццам хвалі, то спадаў, то зноў нарастаў. Мы ляжалі ў снезе і адчувалі, як замярзаюць ногі, як па ўсім целе распаўзаецца холад. Дачакаўшыся, калі гуд матораў знік і не чуваць было ніякіх пабочных гукаў, Булахаў падхапіўся:

- Давай!

У некалькі скачкоў ён дасягнуў канца рова, выглянуў на шашу - пуста. Прыхіліўшыся, выскачыў на абабітую цвердзь дарогі і размашыста саскочыў у гурбу. Ён з задавальненнем адчуў за спіной цяжкае наша дыханне і, пераадольваючы перашкоды, пачаў хутка аддаляцца ад шашы.

Мы беглі адзін за адным, аглядаючыся. Ужо каля самых кустоў заўважылі, як з-за павароту вынырнуў на шашу велізарны грузавік. Але зараз ён не быў страшаны. Усе павольна апусціліся каля тонкіх лазовых сцяблоў, правальваючыся ў мяккі снег. Мы прыцішэлі, адпачываючы.

- Васіль, а ты бачыш, што гэта? - раптам прамовіў Часлаў і паказаў у канец балотца.

- Дык гэта ж лазенька дзядзькі Міхала! - узрадаваўся Васіль. - Мы і выйшлі да яе. Чуць далей - хата яго...

Булахаў лёгка падняўся:

- Пачакайце тут, я зараз, - і ён накіраваўся да лазні. Неўзабаве вярнуўся.

- Пайшлі, там хоць ветру няма,- прапанаваў і, узваліўшы на плечы рэчмяшок, закрочыў паперадзе.

Невялічкая лазенька стаяла на самім краі балотца. Яна дала прытулак нам, абдаўшы своеасаблівым пахам дыму і старых венікаў.

- Вось тут і падрамаць па-чалавечы можна, - сказаў Часлаў, цешачыся зацішшам і цяплом.

- Адпачывайце, а я да дзядзькі Міхала наведаюся.

Часлаў Цвірка сядзеў на парозе каля прыадчыненых дзвярэй, прыслухоўваючыся да навакольных гукаў. Яго слых улавіў траскучую нарастаўшую хвалю.

- Матацыкл, - вызначыў ён.- Трэба б папярэдзіць Булахава.

Хаваючыся ў гурбах, прабраліся да хаты. Ужо з-за гумна ўбачылі, як матацыкл з каляскай, пераадольваючы снежную кашу, прапоўз па вуліцы і спыніўся каля хаты з разьбяным кветнікам. Трое паліцыянтаў, атрасаючы снег з чорных шынялёў, увайшлі ў хату. Тым часам Булахаў выслізнуў з хаты Міхала і перабег да нас.

- Куды гэта халуі пакацілі?

- Вунь матацыкл. А самі ў хаце, - адказаў Часлаў.

- Тады парадак,- чамусьці радасна прамовіў Булахаў.- Стары мае рацыю, мясцовыя паліцаі прыязджаюць на пабыўку да сваіх, бяспечна.

Васіль махнуў:

- Пайшлі!

Абяззброіўшы паліцаяў, ён спытаў:

- Хто з вас водзіць матацыкл?

- Я, - адказаў старэйшы.

- Паедзеш з намі,- загадаў Булахаў, - а вы здымайце форму, - зірнуў ён у бок малодшых паліцаяў.

Тыя нехаця распрануліся. Мы адзеліся ў іх абмундзіраванне, забралі дакументы.

Булахаў загадаў малодшым паліцыянтам і гаспадыні не выходзіць з хаты. Ужо на вуліцы падклікаў да сябе Часлава Цвірку, шапнуў:

Ты вось што, пойдзеш назад у атрад, скажаш, што мы паехалі выконваць заданне.

Затым знарок гучна, каб пачулі пакінутыя паліцыянты, загадаў:

- Калі што якое, не шкадуйце гэтага асінага гнязда. Нікога не шкадуйце!

Нам пашанцавала: паліцыянты ехалі са Слуцка ў Сіняўку. Гэта спрыяла нашым планам.

- Часта ездзіш у Сінявку? - спытаў Булахаў.

- Здараецца. Там частка нашага гарнізона размешчана, - сказаў паліцыянт.

- Пост каля Забалотнікаў ёсць?

- Ёсць.

- Вось каля паста і спынішся. Скажаш, што скончыўся бензін, папросіш, можа, заправяць. Зразумеў?

- Зразумеў, - радасна адказаў паліцыянт.

- Такую змену не мог не заўважыць Булахаў.

- Што ўзрадаваўся? Не думай, ратунку не

будзе, калі што...

Паліцыянт спрытна ўсеўся за руль, кіўнуў нам: сядайцеся. Па дарозе матацыкл ішоў роўна. Толькі вецер калоў твар, свістаў у вушах, калелі рукі. Але матацыкліст замітусіўся, калі ўбачыў сустрэчную калону машын, забраў рэзка ўправа і затармазіў.

Чаму спыніўся? - спытаў Булахаў.

- Так трэба,- спакойна адказаў паліцыянт,- не любяць немцы, калі абганяе ці прэцца насустрач наш брат.

- А наогул любяць яны вашага брата?

Паліцай прамаўчаў. А Булахаў як бы разважаў сам з сабой:

- Зразумела, калі пайшоў да іх той, хто быў усё жыццё ворагам Савецкай улады, - кулак, белагвардзеец. А вось такія маладыя. Дзе яны набраліся злосці да людзей сваіх, да роднай зямлі?

Паліцыянт прамаўчаў. Пярэдні грузавік з шумам прамчаўся міма, абдаўшы дробным снежным пылам. Афіцэр, які сядзеў у кабіне, упёрся лбом у шкло, разглядаючы матацыклістаў.

Барабанячы на ветры настылым брызентам, мільганулі адна за другой астатнія аўтамашыны.

"...Дваццаць чатыры, дваццаць пяць..." - лічыў я ў памяці, імкнучыся разгледзець занесеныя снегам знакі і нумары. Апошні грузавік, поўны скрынь, сыпануўшы на нас снежнай пацярухай, памчаўся за паварот.

- Паехалі, што задумаўся? - загадаў паліцаю Булахаў.

- Можа, скажаце ўсё-такі, куды і чаго мы павінны ехаць? - спытаў той, не рухаючыся з месца.

Булахаў ад здзіўлення хацеў прысвіснуць, але не атрымалася, настылыя вусны не слухаліся. І ён засмяяўся:

- А чаго яшчэ ты хочаш, спадар паліцыянт?

- Ведаць хачу, што раблю.

Булахаў уважлівым поглядам вывучаў паліцыянта.

- А ты мне падабаешся! Можа, пазнаёмімся? А то яшчэ разыдземся выпадкова, - Булахаў зрабіў акцэнт на апошніх словах, - а там сустрэнемся,- ён падняў палец дагары, - і не будзем знаць, як паклікаць. Нязручна нібы атрымаецца.

- Мікалай, - назваўся паліцыянт.

- А я - Васіль,- сказаў Булахаў. - Дык слухай, калі хочаш ведаць! Ты сёння знішчыш фашысцкі склад з палівам вось гэтай мінай. - Булахаў дастаў мініяцюрную "магнітку", загорнутую ў беленькі паркаль.

Паліцыянт глядзеў на скрутак круглымі вачамі.

- Вазьмі і схавай так, каб у любы момант можна было дастаць. А зараз слухай уважліва.

Булахаў растлумачыў, што трэба спыніцца каля шлагбаўма, зрабіўшы выгляд, што не хапіла бензіну.

- Там будзеш прасіць, каб заправілі. І, калі дапусцяць да склада, закладзеш міну. Зразумеў?

Паліцыянт асцярожна трымаў у руках скрутак.

- Не бойся, яна не падарвецца. Можна нават прытаптаць у снезе. Але перад тым, як выкарыстоўваць, націснеш на гэты выступ. Май на ўвазе, ніякая хітрасць цябе не выратуе. Ты разумееш, на што мы ідзём. Пашанцуе - не пашанцуе: усё адно ўсім нам!

- А потым што? - выдушыў паліцыянт.

- Потым? Кідай гэтую сабачую ношу. Ды і як ты можаш служыць ім? Лепш ужо памерці...

Матацыкл ізноў задыміў па шашы. І вось наперадзе паказаўся шлагбаўм.

- Хальт! - падняў руку немец і паказаў у бок, - дакумент.

Мікалай дастаў пасведчанне.

Булахаў і я працягнулі "свае" пасведчанні.

Вартавы падазрона зірнуў на нас і схаваўся ў дарожнай будцы. Неўзабаве ён вярнуўся і, вярнуўшы дакументы, прамовіў:

- Бітэ, апфаран.

Шлагбаўм падняўся, а паліцай усё не мог завесці матацыкл. Ён торкаў нагой па рычагу, прысаджваўся, падсмоктваў у карбюратар паліва, але нічога не атрымлівалася. Матацыкл гучна чыхаў, уздрыгваў маторам і тут жа глух.

- Шнэль! - крыкнуў вартавы, чакаючы каля адкрытага шлагбаўма.

- Бензін скончыўся! - развёў рукамі Мікалай.

Ён, да нашага здзіўлення, нядрэнна гаварыў па-нямецку, і салдат зразумела заківаў у адказ галавой:

- Я, я...

Мы ўлоўлівалі толькі асобныя словы з гутаркі, сэнс якіх зводзіўся да таго, што без дазволу афіцэра вартавы не можа дапамагчы. Праўда, некалькі машын вартавы затрымаў, прасіў дапамагчы паліцыянтам, але кіроўцы і слухаць яго не жадалі.

Калі з'явіўся афіцэр з павязкай дзяжурнага, вартавы паспяшаўся папярэдзіць яго, што ў паліцыянтаў скончыўся бензін, і яны дарэмна вымольваюць паліва ў спадарожных кіроўцаў. Ён, мабыць, паведаміў, што Мікалай добра гаворыць па-нямецку. Таму афіцэр адразу звярнуўся да яго.

Мікалай імкнуўся адказваць далікатна, падкрэсліваючы перавагу спадара афіцэра. Той запатрабаваў ад Мікалая дакументы. Чытаў іх доўга, уважліва разглядаючы кожную літару.

- Будуць ісці машыны, заправім,- абнадзеіў ён.

Але неўзабаве сам пайшоў туды, дзе з-за дрэў віднеліся дашчаныя будынкі, мабыць, вартавое памяшканне.

Кіроўцы па-ранейшаму адмахваліся ад просьбаў вартавога, нахабна ўсміхаліся, гледзячы, як замярзаюць паліцыянты.

Вартавы схаваўся ў будцы. Было відаць, як ён круціў ручку тэлефоннага апарата, які стаяў на акне, з некім размаўляў. Затым ён з'явіўся зноў і паведаміў, што спадар афіцэр сёння ў вельмі добрым настроі, дазволіў запраўіцца бензінам са склада. Зараз прыйдзе салдат-кладаўшчык, адпусціць паліва.

І вось на снежнай сцяжынцы паказаўся салдат. Ён быў відавочна незадаволены тым, што яго выцягнулі з цёплага памяшкання.

- Ну давай, хутчэй! - груба запатрабаваў ён.

Мы ўтрох уперліся ў матацыкл і пакацілі яго па схіле ўніз, куды была пракладзена добрая каляіна. Каля драцяной загароды нас спыніў вартавы. У склад прапусціў толькі салдата.

Паліцыянт паглядзеў на Булахава: "Што ж рабіць?" Булахаў і сам не ведаў, што цяпер рабіць. Ён неўзаметку акінуў поглядам доўгія шэрагі калючага дроту, якія зыходзілі ў глыб лесу. Уздоўж іх тырчалі вышкі з вартавымі.

Кладаўшчык узлез на самы верх цыстэрны, пачаў адкрываць люк. Ён штосьці гучна сказаў, звяртаючыся да вартавога, а затым крыкнуў Мікалаю:

- Бягом сюды!

Мікалай схапіў вядро, якое вісела каля будкі.

- Міну на ўзвод! - загадаў шэптам Булахаў, і тут жа пачулася пстрычка.

Мікалай затрусіў да варот.

- Хальт! - спыніў яго вартавы і зазірнуў у пустое вядро.- Затым махнуў рукой: - Ком!

Паліцыянт схаваўся за вялікай цыстэрнай, на версе якой варочаўся кладаўшчык.

- Калі немцы што-небудзь западозраць, будзем страляць,- сказаў Васіль.

Ён шэптам растлумачыў, куды адходзіць.

Вось кладаўшчык, выцягнуўшы шыю, нешта спытаў у паліцыянта. Узяў вядро і апусціў яго ў люк. Выцягнуў і перадаў Мікалаю. Затым закруціў над люкам закруткі. Асцярожна ідучы па слізкіх металічных сходах, пачаў спускацца ўніз.

- Данке! - прычуўся голас Мікалая, які ішоў з вядром.

Ён адначасова падзякаваў і вартавому, хутка выліў у бак бензін, завёў матацыкл і развярнуўся.

- Спынішся дзе-небудзь за паваротам, - папярэдзіў Булахаў Мікалая.

Той кіўнуў галавой.

- Дзе міна? - спытаў Булахаў.

- Там, пад цыстэрнай, - адказаў паліцыянт і зірнуў на Булахава.- Толькі дарма, мабыць, рызыкавалі...

- Чаму так думаеш?

- Склад яшчэ толькі ствараюць. Усе цыстэрны пустыя. Адна толькі з бензінам.

- Як пустыя?!

- З адкрытымі люкамі яны. Бензін так не захоўваецца...

- М-да,- шматзначна працягнуў Булахаў,- значыць, феерверк не атрымаецца, кажаш? Шкада. Такі зарад - ухаластую!

На павароце ў лес Мікалай спыніў матацыкл. Булахаў сказаў:

- Час развітацца. Каці ў сваю Сіняўку. А мы пайшлі. Так, - азірнуўся ён, - за добрую працу вяртаю пісталет. Гэта, каб не паставілі цябе да сценкі гаспадары. Патроны здабудзеш.

Пісталет глуха пляснуўся каля самых ног паліцыянта, прашамацеўшы юзам па снезе.

- Аўхвідарзэен, спадар Мікалай-паліцыянт, у другі раз не трапляйся на дарозе, ліха можа быць.

Ужо адышоўшы, пачулі, як зароў матор. Азірнуліся і здзівіліся - Мікалай даганяе нас.

- Чаго яшчэ?!

- Вазьміце з сабой. Слова гонару, даўно думаў пра ўцёкі. Я - не здраднік, не падонак. Клянуся.

- Не падонак! - перадражніў яго Булахаў.- А хто ж? Шынель чорны начапіў, па-іх, нябось, начамі вучыўся далдоніць! А ў нас з фашыстам на адной мове гутарка. Вось! - ён патрос пісталетам.- І з іх блюдалізамі таксама.

Паліцыянт пакорліва схіліў галаву, ён чымсьці падабаўся Булахаву. І той вырашыў узяць яго з сабой.

- Добра, - махнуў ён рукой, - цісні на поўную шпульку!

Праехалі, пакуль дазваляла дарога, затым матацыкл загналі ў кусты, затапталі сляды ў снезе і рушылі пешшу па прасецы. На змярканні выйшлі да леснічоўкі.

Гаспадар, пажылы каржакаваты мужчына, сустрэў насцярожана. Як жа, паліцаі заявіліся! Ад іх усяго чакаць можна. Размаўляў неахвотна:

- Не ведаю. Мы жывём у лесе. Нічога не чулі.

Ужо пад вечар выйшлі на ўскраіну невялікай вёсачкі. І раптам шквал агню абрынуўся на нас. Як нежывы зваліўся Мікалай. Мяне і Булахава выратавала тое, што ішлі трохі ззаду. Адстрэльваючыся, адыходзілі да лесу. Група людзей (так і не

зразумелі, хто яны) пераследвала нас да ўзлеску. І, як заўсёды, выратаваў лес.

У студзені 1943 года пачалася блакада.

Прынялі бой, сустрэўшы карнікаў, якія рухаліся з Чырвонай Слабады. Атрад заняў абарону на ўзлессі каля вёскі Старына. Гадзін у адзінаццаць фашысты абрынулі на нас артылерыйска-мінамётны агонь. Здавалася, усё кіпела, бурліла ў нейкім пякельным полымі. І ў гэтым страшным гудзе выразна чуліся крыкі, стогны параненых.

Магутным кідком фашысты атакавалі атрад імя Чапаева і здолелі яго выцесніць з узлесся. Такі прарыў аказаўся небяспечным для нашага атрада. Колчанка загадаў: ні кроку назад. Некалькі разоў падніmaліся фашысты ў атаку. Але кулямётныя чэргі Васіля Лагерманава, Зміцера Калініна, Станіслава Невяроўскага, а таксама трапныя стрэлы астатніх партызан касілі іх, прыціскалі да зямлі, прымушалі адкочвацца.

І ўсё ж флангі не ўтрымаліся. Карнікі здолелі да канца дня абыйсці наш атрад і самкнуць кола акружэнняя.

- Без панікі, таварышы, - праходзіў па шэрагах абароны камісар Няпомняшчы. - Уначы акружэнне будзе ліквідавана.

Патрапіўшы ў кола, сёй-той сапраўды адчуў няўпэўненасць, паддаўся панічнаму настрою. Гэта разумела камандаванне і падтрымлівала баявы дух байцоў.

На самых небяспечных участках з'яўляліся камандзір атрада, начальнік штаба, камісар. Асабістым прыкладам яны натхнялі нас на бой з ворагам, усялялі ўпэўненасць.

А фашысты крычалі з усіх бакоў:

- Рус, здавайся! Ідзі ў палон, ідзі дахаты!

Чуліся галасы і здраднікаў. Яны выклікалі адмысловую злосць, і, хоць патронаў было ў абрэз, абавязкова ў адказ на іх выкрыкі хто-небудзь страляў.

З наступленнем цемры стральба аціхла. Але карнікі былі вельмі чулыя да найmaлейшага шоргату. Адразу ж струмені куль накіроўваліся туды, дзеназіраўся рух, чуліся галасы.

Глыбокай ноччу атрад засяродзіўся ў кірунку вёскі Колкі. Разведка данесла, што тут малаважныя сілы праціўніка. Таму мы без асаблівай цяжкасці змялі яго заслоны і выйшлі з акружэння. Немцы не сталі пераследваць, асцерагаючыся начных засад. Атрад узяў курс на вёску Вялікі Рожын, куды павінна выходзіць брыгада. Да раніцы злучыліся з астатнімі атрадамі і пачалі адыходзіць у палескія балоты.

Як дазналіся пазней, адначасова з нападам на наша злучэнне праціўнік у раёне Старобіна, Леніна, Мікашэвічаў, Лахвы павёў наступ на пінскіх партызан, якімі камандаваў В. З. Корж, і вымусіў іх таксама адыходзіць у балоты. У маленькіх вёсачках - Пузічы, Хорастаў і Чаланец ворагу ўдалося акружыць два буйныя партызанскія злучэнні.

Становішча стала пагрозлівым. Бамбёжкі, артылерыйскія абстрэлы, бесперапынныя напады змардавалі нас грунтоўна. Патронаў і прадуктаў заставалася ўсё менш і менш.

Мы, якія прывыклі да нягод партызанскага жыцця, усё ж не маркоціліся. Не ўпершыню было сутыкацца з такім, здавалася б, бязвыхадным становішчам. Верылі, што ўсё зменіцца.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Вікторыя Жукевіч-Дзівота*

# ДАНІНА ПАМЯЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Спатканне праз 60 гадоў**

У люстэрку маіх успамінаў найчасцей бачу якраз тыя малюнкі, пакліканыя ў вершы "Без назвы" - бель снегу, вялікая зала са стацыянарнымі швейнымі машынамі, бачу дробную дзяўчынку ў доўгай сукеначцы, якая танцавала і спявала:

*"... на заборе птичка сидела*
*и такую песенку пела:*
*- Мама, купи мне ботинки,*
*я станцую кабардинки…".*



Але над усім пераважае малюнак шырокай ракі, думаю, што гэта мора, як у песеньцы, якую часта спявала:

*"Раскинулось море широко,*
*и волны бушуют вдали".*

Рака несла плыты, адзіночныя ствалы дрэў, плыла сярод зялёных, высокіх берагоў, пакрытых травой такой высокай, што можна было схавацца і слухаць, як мамуся кліча мяне - дзе ты?

Якраз было так, як у тым вершыку.

Мама мыла ў рацэ нашую "вопратку", апавядала пазней, што мыла і мыла, церла аб каменні, бо думала, што тым мыццём у чыстай, хуткай рацэ дадасць тым лахманам нейкай "якасці", нейкай далікатнасці, што змывае з іх усю нашую ганьбу, нэндзу і паняверку, што апранутыя ў чыстае будзем адчуваць сябе лепей, што будзе ў нас хоць трохі польскай годнасці.

Бачу тую раку, маму і ўдалечыні бегшых да нас і клікаўшых па імені двух салдатаў... бачу іх вельмі выразна, махаючых рукамі, у якіх трымалі шапкі.

Гэта была ранняя вясна, 1945 год.

У 2005 годзе я паехала ў Нясвіж. Мой Божа, гэта было сентыментальнае падарожжа на зямлю маіх бацькоў. У 1990 годзе я была тут з мамай..., таму хадзіла ўсімі сцежкамі, пра якія мне апавядала, стаяла пад яе яблыняй, напілася вады са студні... усюды пабыла. Са сціснутым сэрцам стаяла пад лесам, на горцы, дзе некалі быў дом. Хадзіла па вуліцах Нясвіжа, каб закончыць шпацыр на вул. Някрасава пад памаляванай на блакітна брамай і пры ацалелай студні.



Нарэшце аказалася ў Лані. Была пад будынкам гміны (сельсавета, *пер.*), адкуль маму вывозілі, размаўляла з людзьмі, якія мелі яшчэ ў памяці польскія часы. Адна з кабет у Лані распавяла мне, як дзяўчынкай гуляла ў "паню Насцю" - гэта значыць, прыгожа апраналася, адзявала капялюш і боты сваёй мамы на высокім абцасе..., і яна якраз паказала мне дом пана Міхала Калошы... героя гэтай аповесці. Пазнала яго лёгка, бо ў сямейным альбоме ёсць яго даваенны здымак, у харцэрскім мундзіры. Нікольکі не змяніўся... Вітанне было кранальнае, плакалі абое.

**Аповесць пана Міхала**

У 1944 годзе, калі саветы прыйшлі другі раз на нашыя землі, быў узяты як малады хлопец у Чырвоную Армію. Выслалі іх на вучобу, не ведаю куды, але ўжо на тэрыторыю Савецкага Саюза і адтуль павезлі на ўсходні фронт пад граніцу Манчжурыі...

Вайсковы транспарт ехаў праз усю Сібір... недзе на нейкай станцыі ўдалося яму дастаць карту, на ёй убачыў Канск..., ведаў, што Настка недзе там знаходзіцца ў ссылцы.

Зрабіў сярод калегаў, а было шмат людзей з нашай Нясвіжскай зямлі, зборку - што хто мог - нейкі пачак, папяросы, кавалак хлеба, жаўнеры мелі правіянт - назбіралася шмат і на чарговым прыпынку пабег да машыніста з хабарам і просьбай, каб затрымаўся ў недалёкім ужо Канску.

Машыніст доўга гандляваўся і правяраў, што знаходзіцца ў прынесеным салдатам мяшку. Нарэшце згадзіўся. Затрымаў цягнік на станцыі Канск, дзе некалькі гадоў таму назад мама пачула: "Вы ўжо не ўбачыце сваёй Польшчы, як левага вуха, тут вашая Польшча". Цікавая рэч, што гэтую прымаўку пра левае вуха паўтараюць усе сібіракі незалежна ад мясцовасці, у якую былі вывезены. Ну што ж, загад у бальшавікоў быў адзін.

У Канску пан Міхал з калегам адшукалі маму і мяне, знайшлі нас якраз над ракой, а калі пайшлі да нас, у нашую хату, мама распаліла "казу" і пякла лупіны ад бульбы для мяне на вячэру.

Гэтую аповесць пра печаныя лупіны апавядаў пан Міхал праз пару гадоў майму мужу, які паехаў са мной пабачыць родны край маіх бацькоў. Мой муж, цвёрды чалавек, марак, аброслы ракавінамі перажытага (апісаў гэта ў кніжачцы "Сесці ў цяньку") заплакаў, гледзячы на мяне і пана Міхала і слухаючы тую аповесць.

Калі ж нідзе на Нясвіжскай зямлі няма спатканняў без плачу.

Пан Міхал мае 90 гадоў, жыве ў Лані адзін, дачка прыязджае з Менска штотыдзень, два разы на тыдзень прыходзіць апякунка з сельсавета, жыве ў сваім родным доме, дом чысты прыбраны. Халадзільнік запоўнены добра, ёсць вада, газ, трывожная сігналізацыя, уключаецца пасля з'яўлення дыму. Такую трывожную сігналізацыю я бачыла і ў іншых дамах на вёсцы.

Вакол дома сад, парэчкі чорныя і чырвоныя, заходжу на тыя парэчкі заўсёды, калі бываю ў Лані, цвітуць флёксы, пазногцікі.

Пан Міхал - інвалід першай групы і герой Айчыннай вайны, мае добрую, высокую, як на беларускія ўмовы, пенсію, але кепска бачыць, і гэта найгоршае яго перажыванне, бо не можа чытаць. Але паволі чытае "Нясвіжскія ўспаміны", добра размаўляе па-польску і ахвотна распавядае мне пра перадваенную Лань, а таксама пра дзядзьку Пякарскага, каменданта пастарунка паліцыі, які быў арыштаваны 19 верасня, вывезены і расстраляны, а жонка, цёця Ганна, з двума дзецьмі была вывезена ў Казахстан у красавіку 1940 г. Шчасліва вярнуліся.

Езджу ў Нясвіж часта, бывае, што і некалькі разоў на год, таксама з пілігрымкай Таварыства нясвіжцаў і заўсёды бываю ў Лані, у пана Міхала. Спелыя чырвоныя парэчкі і непаўторная на смак смародзіна чакае мяне ў садзе.

***Прыпіска** - даведалася пару дзён назад, будучы ў Лані, што пан Міхал памёр. Вечны адпачынак рач даць яму Пане... 8.07.2013 г.*

**Пілігрымка сібіракоў - Ясная Гура**

Вечарам пад зорным небам ідзём усе ў непаўторнай дэкарацыі Яснагурскіх валоў - адпраўляем Крыжовую Дарогу. Пранікнёныя разважанні падрыхтаваны моладдзю, капеланам сібіракоў. Гляджу на людзей, на сваіх... дародныя, высокія, моцныя... хоць пахіленыя векам, ідуць гордыя, трымаючы запаленыя лампады і свечкі..., многіх сустракаю гадамі.

Цёпла. Ужо пахне бэз. Усё-такі травень, вясна 2007 г.

Іду разам са знаёмай са Свінавусця. Знаемся, працуем абедзве ў службе здароўя. Ціхенька ад часу да часу перамаўляемся - я гавару, што выбіраемся ў ліпені ў нашыя краі, у Нясвіж.

- Але я з тых самых краёў, бо мае бацькі паходзілі з ваколіц Нясвіжа. Жылі пад Нясвіжам, у Касмовічах, а я таксама нарадзілася ў Сібіры.

- А як прозвішча бацькоў? - пытаю.

- Касарэвіч.

Замерла ў мяне сэрца, ведаю гэтае прозвішча з апавяданняў мамусі і яе запісак у дзённіку..., але не кажу нічога. Бо, можа, мыляюся. Можа гэта падобнае прозвішча. Таму гавару пані Крыстыне, што абавязкова павінны спаткацца ў мяне дома пасля вяртання, бо хачу ёй нешта паказаць...

У сваім дзённіку, які знаходзіцца зараз у "Паморскай бібліятэцы", мая мама Анастасія Жукевіч піша: *"Ужо ў Менску бамбёжка было выразна мацнейшая, загарэўся суседні вагон, у якім везлі сям'ю Касарэвічаў, старэйшага пана Касарэвіча, Сымона, і ўнука... ведала іх вельмі добра, мелі каланіяльную краму ў Касмовічах, і я часта ў іх купляла (...) Пан Касарэвіч сказаў сястры Гжэгажа, што пасля прыезду забярэ мяне разам са сваёй сям'ёй (...), ужо пазней я даведалася, што яго сына Гжэгажа трымалі ў нясвіжскай вязніцы разам з маім Гжэгажам... Вагон, у якім яны ехалі, загарэўся..., ніхто не ішоў на ратунак. Мой вагон № 14 адчапілі, а той гарэўшы застаўся, ніхто іх не адчыніў (...)".*

Пасля вяртання з пілігрымкі нярвова адкрываю копію дзённіка мамы. Пані Крыстыне паказваю той запіс мамы. Расплакалася..., так, усё супадае. Апавядаў ёй дзядуля пра тую страшную дарогу пад бомбамі. Яе старэйшая сястра, мамуся ў яшчэ

непрыкметнай цяжарнасці і дзядуля - моцны мужчына - выламаў дзверы ў гарэўшым вагоне і выратаваў сям'ю. Паехалі далей ужо наступным транспартам, Крыся нарадзілася праз некалькі месяцаў. З дзённіка маёй мамы яна першы раз даведалася пра свайго бацьку.

Так само жыццё дапісала заканчэнне..., і толькі падумаць, што нашыя мамы напэўна не раз разміналіся на вуліцах Свінавусця, нічога не ведаючы адна пра адну...

Пане Божа, чаму не затрымаў іх, чаму? Чаму мама мая, якая мела дасканалую памяць, не паглядзела ў твар сустрэчнай кабеты, пазнала б напэўна...

Але дзякую Табе, Пане Божа, за гэты цуд, за гэтае спатканне дачок, дзяцей Сібіры, якія выжылі, дзякуючы матулям...

*Хто Твае намеры спазнаць можа,*
*Добры і ласкавы Божа?*
*Праз гады дазваляеш спаткацца нам,*
*Красовым дзецям, на смерць сказаным*
*У тайгах Сібіры і стэпах Казахстана.*

Бацька Крыстыны, арыштаваны ў той самы час, што і мой бацька, сядзеў разам у вязніцы ў Нясвіжы. Мой татусь уцёк з нясвіжскай вязніцы, а Гжэгаж Касарэвіч быў забіты бальшавікамі, якія зацiралі свае сляды, ужо ў дзень пачатку вайны з немцамі.

Летам паехалі ў Нясвіж. Касмовічы ляжаць паміж Нясвіжам і Клецкам, недалёка ад Клецка, гэта зрэшты была парафія Клецк. Дом пп. Касарэвічаў стаіць - мураваны. Цагліны памаляваны на блакітна, над дзвярыма - шыльда: "Дом культуры". Падышла старая кабета, памятала сям'ю Касарэвічаў... мне адразу сказала:

- А пані - дачка Насткі Чарнабай...

Як добра аказацца паміж сваімі... пачуць, што падобная да мамы, паслухаць пра маму ад некага, хто яе памятае з гадоў маладосці... знайсці сваё месца на зямлі там, дзе цябе пазнаюць і не мусіш гаварыць, хто ты...

***Да Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы Свята 22 жніўня***

*О, Марыя, паклікала мяне на свет*
*У гэты прыгожы дзень.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, ахоўвала маму маю*
*У дні высылкі.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, да краю вярнула нас*
*Дзвюх бедалаг.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, бацьку ахоўвала мне*
*У дні вайны.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, прыгожую маладосць дала мне,*
*Цудоўныя дні.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, прафесію выбрала для мяне,*
*Мару маю.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, каханнем абдарыла*
*Мужа і сына.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, клікала мяе да сябе,*
*Да Тваіх месц.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя. Давала сілы, каб быць*
*На сцежках Тваіх.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя. Сустракаю добрых людзей*
*На дарозе маёй.*
*Дзякую Табе.*

*О, Марыя, да шчаслівай смерці*
*Даправадзь мяне.*
*Прашу Цябе.*

**Дзень найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы, 22 жніўня 2011 г., Свінавусце.**
**Вікторыя, мой дзень нараджэння.**

**Дотык анёла**

Не ведаю, ці нясвіжская фара слынная цудамі - напэўна так, бо чым, як ні цудам ёсць само існаванне касцёла, асабліва праз гады камунізму?

Перш за ўсё ксендза Гжэгажа Каласоўскага ахоўваў і безпамылкова вёў св. Андрэй Баболя, дух якога напэўна адведвае гэтую святыню...

Думаю, што тое, пра што хачу распавесці, сталася таксама з удзелам нашага святога.

У нядзельны поўдзень 30 чэрвеня 2013 года на св. Імшу а 11-й гадзіне ўвайшла ў касцёл несвіжанка Станіслава Вятр-Партыка.

Месцы ў лаўках былі заняты, людзі пры-



***Св. Андрэй Баболя ў нясвіжскай фары***

ходзяць задоўга да пачатку, таму сціпленька ўселася на звыклых без апоры і кленчнікаў, памаляваных на светла-бронзава нізкіх лавачках, па левым баку, перад стойкай з рэліквіямі.

Праз хвілю падышла да яе пані Янка, прадавачка сувеніраў, пацягнула энергічна за плячо і сказала прайсці наперад, бліжэй да алтара.

Станіслава зноў ціхенька ўселася на падобнай лавачцы пад амбонам. Пані Часлава Суднік, якая стаяла збоку, але мела месца ў лаўках, падрыхтавалася да чытання фрагменту Бібліі. Падышла да яе, паказала ёй сваё месца... на краі лаўкі.

У той момант кабета, прыбраная ў белую сукенку, якая сядзела за паняй Чаславай, устала і, узяўшы Станіславу за плечы, пасадзіла на сваё месца. У лаўцы.

Бачыла гэтае здарэнне.

Стася ўселася... аглядаюся на яе з хваляваннем - як пачуваецца - бо гэта ж яе касцёл, сюды прыходзіла будучы дзіцем з мамай і татам. Тут лічыла булачкі на абразе "Апошняй вячэры" і, пэўна, хвалявалася, што, можа, таго хлеба не хопіць для ўсіх, тут была ахрышчана і прымала першую святую камунію.

Бачыла, што выцірае вочы, што плача...

А пазней, калі прыступала да камуніі, была спакойная, і нешта незвычайнае я ўбачыла на яе твары.

Радасць? Здзіўленне?

Вярнулася на сваё месца.

Вечарам сказала мне, што месца, на якім яе пасадзілі, было месцам яе мамы - Волі.

Ці ж гэта не св. Андрэй Баболя выслаў таго анёла ў белай сукні, каб пасадзіў найважнейшую дачку Нясвіжа на месца яе маці...

Вікторыя, 9.07.2013 г.

Св. Андрэй Баболя на працягу года быў рэктарам касцёла ў Нясвіжы (1623 - 1624), дзе разам з князем Альбрэхтам Станіславам Радзівілам збіраўся да ўрачыстай прысягі караля Польшчы перад Маці Божай Каралевай Польшчы, што было здзейснена ў Львове 1 красавіка 1656 г, ёсць аўтарам тэксту львоўскай прысягі.

***Нясвіжскі накцюрн***

*Па краечку сну*
*праводзіць яе срэбны водсвет,*
*што адбіваецца ў возеры.*

*Усё знаёмае,*
*таму дакладна тут не заблудзіць,*
*пройдзе праз браму да касцёла.*

*Палічыць хлябы,*
*што на абразе над алтаром,*
*ведае ўжо, што хопіць для ўсіх,*
*вяртаецца дадому,*
*колеры якога закрыла ноч.*

*Прысядзе на сваёй лавачцы,*
*Каб далей сніць...*

*Пачынае світаць.*

*Божа... Няхай ніхто яе не разбудзіць,*
*каб не ўпала з краечку сну*
*ў пекла ўспамінаў.*

*Гэта лунатычка.*

**Для Станіславы Вятр-Партыкі, 28.04.2013 г.**

"*Без сумневу можна сказаць, што мала ёсць месцаў на свеце, пра якія напісаны такія прыгожыя вершы з такой любоўю*", - гэта словы Лешка Некраша.

Вершы Станіславы Вятр-Партыкі перакладзены на чужыя мовы, чытаюцца і спяваюцца на

патрыятычных урачыстасцях. Лаўрэатка многіх узнагарод, а апошняя ўзнагарода ў конкурсе імя Юзафа Мацкевіча за томік "Балада пра страчаны дом".

Пры падтрымцы старшыні Таварыства Ежы Буткевіча, с.п. Лешка Некраша і Магды Янчмыковай, а таксама сяброў у Нясвіжы, а асабліва пана Анатоля Жалняркевіча ў лістападзе 2012 г. мы распачалі справу, здавалася немажлівую, старанні аб наданні ганаровага грамадзянства горада ў дзяржаве Беларусь польцы, нясвіжанцы Станіславе Вятр-Партыцы.

Старанні закончыліся поспехам, і ўрачыстае наданне грамадзянства мела месца ў Нясвіжы 4 ліпеня 2013 года.



*"Ці ёсць недзе ў свеце*
*такая Слуцкая брама,*
*такі фарны касцёл,*
*такі замак..."*

***Ст. Вятр-Партыка.***

Праз Станіславу расцвіла маё сардэчнае сяброўства з Евай Худобай, мастаком, выпускніцай кансерваторыі, непаўторнай асобай. Жыве пад Кракавам, гэта другая пасля кампазітаркі і піяністкі Ганны Кароткінай, сапраўдная артыстка, якую ведаю, мае ў мяне псеўданім "Гуцулка", паколькі сям'я паходзіла з найпрыгажэйшых мясцін паўднёвых Крэсаў..., дзе "шум Прута Чарамшу да танцу запрашае".

***Пра што сніць Ева***
***Для Гуцулкі***

*Крыштальныя палацы з'яўляюцца ў снах,*
*А пакоі пусцеюць апоўнач.*

*Дамы выходзяць з рам,*
*І ніхто не ведае,*
*Куды вядзе іх месяца бляск.*



*Золатам і парчой ззяюць іх сукні.*

*Калі світанне надыдзе,*
*З таемнай усмешкай*
*Вяртаюцца на свае месцы,*

*Каб пасярод павуцінак*
*Зноў сніць пра жыццё...*

***Вікторыя.***

**Красовы дом**

У маім родным доме я чула не раз гэтае прозвішча, але сёння цяжка мне прыпомніць, пры якіх аказіях гэта было. Але прозвішча гэтае ведала з даўніх гадоў. Некалі гадоў таму, падчас аднаго з побытаў у Нясвіжы, дзякуючы інфармацыі ад Евы Гадыцкай-Цвірка пазнаёмілася якраз з тым, хто носіць гэтае прозвішча, хто сёння адыгрывае вялікую ролю ў маім жыцці, асабліва на "нясвіжскай" ніве.

Анатоль Жалняркевіч, сын Уладзіміра і Ганны з Рымашэўскіх. Нарадзіўся ў маёнтку Воўкаўшчына каля Нясвіжа ў 1927 годзе, як най-



старэйшы з пяці братоў. Маці была каталічка, бацька наадварот быў праваслаўнага вызнання, і ў гэтай веры былі ахрышчаны сыны. Маёнтак налічваў 35 гектараў, на якім працаваў бацька з адным памочнікам, і часам у працы дапамагалі сыны. Сям'я жыла ў драўляным двары. Анатоль у першы клас хадзіў у суседнім сямейным маёнтку, у Быхаўшчыне. У наступныя гады наведваў польскую школу ў вёсцы Лань, якая была сядзібай гміны. У час акупацыі адзін год быў вучнем гімназіі ў Нясвіжы. Далейшую навуку працягваў ужо пасля вайны. Дзякуючы зычлівасці аднао з чыноўнікаў, падобна, некага з Лані, у нямецкім пашпарце змянілі яго дату нараджэння, што дапамагло быць не вывезеным на работы ў Германію. Адразу пасля прыходу саветаў у 1944 годзе іхні маёнтак быў распарцаляваны, каб канчаткова ў 1949 годзе быць уключаным у калгас. Анатоль Жалняркевіч скончыў тэхнічны інстытут і працаваў у Нясвіжы. І цяпер жыве разам з жонкай, дачкой і ўнукам у драўляным доміку ў Нясвіжы.



Пан Анатоль і мая Ева з Пірэўсу маюць супольнага дзеда Юльяна Рымашэўскага, які меў тры жонкі! Што гэта былі за часы, што тых жонак было так шмат! З панам Анатолем у кроўным сваяцтве знаходзіцца таксама Ева Рымашэўская-Качмарак, дачка пана Аляксандра. Часта мы з Евай гасцілі ў пп. Жалняркевічаў.

Апошні шляхціц на Нясвіжскай зямлі. Прыяцель ксендза Гжэгажа Каласоўскага, 16 гадоў пасвяціў ушанаванню памяці свайго сябра - маю пад увагай старанні пра мемарыяльную дошку на франтоне касцёла.

Падобную ж дошку ўфундаваў для другога свайго прыяцеля і вялікага нашага прыяцеля, усіх нясвіжцаў, рассеяных па свеце, праваслаўнага святара - бацюшкі Хмеля.

Пан Анатоль - сапраўды постаць маляўнчая і непаўторная. Калі разам з жонкай і дачкой прымалі мяне ў сваім сапраўдным красовым доме, не адна сляза закруцілася ў воку і не адзін балючы поціск сэрца адчувала.

Убіраю ўсё, што ён гаворыць - гэта, даслоўна, энцыклапедыя людзей, здарэнняў, біяграфій, а зборы фатаграфій, лістоў, кніжак могуць выдатна дапоўніць музей... ба! могуць стварыць музей.

Быў некалі, маладым хлопцам, суседам маёй мамы, напэўна бачыў яе на "вячорках", бо так праводзілі асеннія і зімовыя вечары, а ўжо зусім пазабавіла мяне апавяданне пра тое, як са сваім калегам Курачыцкім курылі папяросы, схаваўшыся за млынам майго с.п. дзеда Вінцэнта. Апавядаў мне таксама шмат гісторый, звязаных з часам акупацыі, знаў майго тату і яго прыяцеляў. Быў маладым хлопцам, але добра памятаў таго сяржанта з шабляй і астрогамі (шпорамі).

Кожнае спатканне з панам Анатолем ёсць для мяне велізарным, радасным перажываннем, і праўду кажучы, калі выбіраюся ў Нясвіж, то таксама і для таго, каб сустрэцца ў тым зялёным красовым доміку... "выпіцьналівачкі, паспрабаваць фаршмаку" і іншых красовых прысмакаў, бо жанчыны ў гэтай сям'і знаюцца з кухняй... і слухаць, слухаць аповеды на прыгожай польскай мове з тым непаўторным красовым акцэнтам пра Нясвіж, пра Лань... пра Касмовічы, Ляхі, Іваноўшчыну, Воўкаўшчыну, пра месцы, якіх ужо няма.

***Рацэпт фаршмаку пані Жалняркевіч***

*Вымачанага, аддзеленага ад касцей селядца пасекчы дробна, змяшаць з добра зваранай і цёртай бульбай, якой на аднаго селядца бярэцца ў залежнасці ад велічыні 5-10, і дробна пасечанай цыбуляй. Пакрапіць алеем, а воцат падаць асобна. Можна заміж алею і сырой цыбулі дадаваць растопленае масла, перасмажанае з цыбулькай.*

Дапісваю балючыя словы 20.06.2014 г., мой прыяцель пан Анатоль раптоўна памёр 18.06.2014 г., а яшчэ некалькі дзён таму назад мы дамаўляліся на сустрэчу ў Нясвіжы 28 чэрвеня.

Разам з прыяцелямі, Марысяй і Рысем Слізенямі ды Евай, мы маглі адведаць пана Анатоля толькі на могілках.



Пане Божа. Прымі яго душу да сябе.

***Калі б пабыць птушкай...***

*Для Евы Гадыцкай-Цвірка*

*... Палятаць на Нясвіжам,*
*А потым над Ланню,*
*Укленчыць у Слуцкай Браме*
*Перад нясвіжскай Паняй,*
*Прысесці на студні,*
*Застукаць у вароты,*
*Зайграць кійком на збанках,*
*Што тырчаць над плотам,*

*Паляцець над "Качаноўскім" лесам,*
*Над "Ляхамі" бабці Паўліны без аглядкі,*
*А як гэта нядзеля,*
*Да Сейлавіч скочыць на аладкі,*

*А на канец паляцець*
*Да дамка зялёнага, красовага*
*На спатканне з панам Анатолем,*
*Наладзіць невялікае застолле,*

*Выпіць налівачкі,*
*Паспытаць фаршмаку*
*І паслухаць аповесць аб тым фальварку,*
*Што называўся Юзафінак,*
*Які Гадыцкія, падобна, у карты праігралі,*
*А мае Чарнабаі яго неўзабаве прыдбалі,*
*Паслухаць таксама пра бабцю*
*"Царыцу" Антаніну...*
*Прачнуцца... і ўсё згіне...*

***Вікторыя. 10.09.2012 г.***

*Ах, мой Божа! Гора!*
*Забыла палічыць гусей на азёрах.*
*А цяпер іх не было.*
*Гэта ясна - хто ж у культурнай сталіцы*
*Дазволіць гусям шпацыраваць па вуліцы!*

**Тлумачэнні:**

**Ева Гадыцкая-Цвірка** - прыяцелька маёй душы. Жыве ў Пірэўсе, мае там сям'ю - мужа і дзвюх дачок.

**Лань** - рэчка і сельсавет за 6 км ад Нясвіжа, з Лані, дзе бацькі пасяліліся пасля шлюбу, вывезлі мамусю ў Сібір.

**Качановічы** - засценак і вёска недалёка ад Нясвіжа.

**Ляхі** - сёння ў Клецкім раёне, з маёнтка Ляхі паходзіла мая с.п. бабця Паўліна Жукевіч з д. Фалітэр.

**Анатоль Жалняркевіч** - нарадзіўся ў маёнтку Воўкаўшчына.

**Юзафінак** - фальварак паіж Асмолавам і Міцкевічамі з Маскалёўкай. Сёння палі пшаніцы.

**Гадыцкія-Цвіркі** - вядомая сям'я земле-ўладальнікаў, пасля страты Юзафінка выехалі ў Івацэвічы, купілі маёнтак у вайсковага асадніка, чым падпісалі для сябе прыгавор на вываз у Сібір, усёй сям'ёй 10 лютага 1940 г., двое маленькіх дзяцей памерла з голаду. С.п. пан Данат Гадыцкі-Цвірка прайшоў з арміяй імя Касцюшкі баявы шлях. Пасля вайны жылі ў Пасецы пад Ізбіцай, пав. Кола. Гэта сям'я Евы з Пірэўса.

**Чарнабаі** - мая с.п. мама Анастасія з дому Чарнабай, Юзафінак купіў дзядзька мамы.

**Бабця Антаніна** - "Царыца" - постаць, якая вымагае асобнай балады, успомню толькі, што не прыняла на вакацыі маладзёна, які называўся Ежы Путрамант.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Васіль Драгавец*

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Мяшок мукі пад Вялікдзень

*Мы былі беднымі,*
*але такімі былі ўсе людзі.*



Баюся, каб у сваім споведзе пра гісторыю сям'і і наш вясковы побыт не збіцца на мілагучнасці ды сантыменты. З часам юнацкія і дзіцячыя гады туманяцца флёрам салодкага смутку, акрапліваюцца нябачнай слязінкай. Асабліва тыя часы, калі маладымі і моцнымі былі бацькі, ладзілася ў хаце. мажнела гаспаларка і так утульна ды цёпла спачувалася малому хлопчыку пасярод родных сцен. Усё тое зараз здаецца такім чыстым, цёплым і такім недасягальным...

Ды прачытваю раз за разам напісанае і не бачу, што я наўмысна адхіснуўся ад праўды. Не абмінаць жа рэаліі часу! А яны былі ў савецкім мінулым розныя і не толькі памазаныя чорнаю фарбай. На вачах пайшло лепшаць жыццё з прыходам да кіраўніцгна дзяржавай, СССР, у сярэдзіне 60-х гадоў Л.І. Брэжнева і А.М. Касыгіна. Гэты перыяд азначыўся прыкметнымі станоўчымі зменамі: дабрабытам людзей, спакоем у жыцці, нейкім задорам у працы. Бацькі ўсё часцей нядобрым словам паміналі свае маладыя гады на ўласніцкай гаспадарцы пры паляках. Маці казала:

- Каб вы ведалі, як было цяжка! Нічога ні купіць! Ні зарабіць таго злотага! Ад цямна да цямна пралі, сеялі, аралі, ткалі. Свету не бачылі за работаю. Душыліся на этай рабоце людзі.

Аніякіх дактароў, памiралі маладымі зусім. Па восем, па дзесяць чалавек на падлозе ў хатах спалі...

- Кажуць, пры паляках лепей было! Вой-вой, ня верце нікому, хай яны спрындзяцца тыя палякі, як пры іх добра было... Пры цары, як матка казала, было лепей, а пры паляках нічога добрага ніхто ні бачыў! Нас там за людзей ні счыталі... Яны сябе ганарове трымалі, а з нас адныя кпіны ды смехі рабілі...

- Толькі свет угледзелі, як этыя калхозы ўтварылі. Разумны нехто прыдумаў іх... А хіба ж вы дзе вучыліся раней? Які інсцітут хто знаў тады? Вой-вой, няма пра што нават гаварыць... Не грашыце, дзеці, Богу!

Гэтую тэму ахвотна падтрымліваў і бацька.

- Дажа асаднікі (палякі-вайскоўцы, якіх польскі ўрад пасылаў на жыхарства ў пагранічныя раёны Заходняй Беярусі - Нясвіж, Маладзечна, Глыбокае - дзеля правядзення сваёй дзяржаўнай палітыкі) не маглі сваіх дзяцей вывучыць. Бо навука дарагая дажа для іх была, а пра нас, сялян-беларусаў, і гаварыць няма чаго. Мо адзін на ўсю акругу, і то з самых багатых, дзе ў Варшаве вучыўся...



***"Дзе б вы былі, каб не савецкая ўласць..." Злева направа: Вася Гадун, стрыечны брат, Анатоль, родны брат, бацька. Пачатак 90-х.***

- Чарнабайчык, ужэ багацейшы тут сярод нас, свайго Колю вучыў, то бяз кашулі застаўся... Ды мо ці скончыў ён хоць дзесяць класаў пры паляках... Эта саветы дзяцей пачалі вучыць...

Засталася ў маёй памяпі і размова з бацькамі ў гарбачоўскую "перастройку". Я ўжо быў сталым хлопцам, толькі скончыў у Маскве Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС, абараніў дысертацыю па сацыялогіі, стаў кандыдатам навук. Пачаў нешта тлумачыць бацьку пра неабходнасць пераменаў у краіне. Ён слухаў, не перабіваў і потым спакойна выказаўся:

- Ніякага толку з этага Гарбачова ня будзе. Пусты ён чалавек. Ты паслухай, што ён гаворыць. Эта ж пустата адна! Меле й меле кожны дзень адно і тое. Нічога добрага ён не зробіць...

- І што б яны ні казалі на савецкую ўласць, а толькі благадара ёй вы, хлопцы, вывучыліся, паканчалі інсцітуты, а мы, сяляне, свет угледзелі...

Па-свойму тлумачыла палітычныя змены маці:

- Ты думаяш, Вася, што тут нешта пераменіцца, што гэты Сушчэвіч з гэтым Зельцыным *(так на сяле выгаворвалі прозвішчы Шушкевіча і Ельцына)*, ці той Пазняк нешто зробяць лепей. Адна трасца, нічога лепей ні булзе, адно горш стане, як яны эту собствяннасць увядуць. Нагледзеліся мы на эту собствяннасць, хай яна праваліцца. Свету белаго ні бачылі за этай зямлёю - адно рабі й рабі, як чорны вол...

Так бацькі па-свойму разумелі палітычную сітуацыю напачатку ліхіх 90-х. Разумелі, зыходзячы з пражытага, з таго, што ведалі, што спачулі, як кажуць, спіною і мазалямі. Гэтым, дарэчы, якраз і адрозніваюцца думкі простых людзей ад навуковай мудрагелістасці. І думкам гэтым не адмовіш у праве на сваю праўду.

Мне добра помняцца тыя нашы размовы, бо яны, як здаецца, найлепшым чынам адлюстроўваюць эвалюцыю поглядаў вясковых людзей на палітыку і сваё жыццё. Тут, мабыць, варта трохі падрабязней пагаварыць пра адносіны вясковых людзей з уладай.

Першыя сталыя ўражанні бацькоў адносяцца да трыццатых-саракавых гадоў. Гэта перыяды польскага ўладання і нямецкай акупацыі ў Заходняй Беларусі. Пры паляках сяляне “ўсходніх крэсаў” займалі ніжэйшую прыступку грамадскай іерархіі: не мелі палітычных правоў, не галасавалі, рэдкія маглі даць дзецям больш, чым чатырохгадовую адукацыю. Адчуваліся і наўмысна-пагардлівыя адносіны да тутэйшых людзей з боку польскіх уладаў, шляхты, касцёла. Несправядліва дзялілася зямля. Лепшыя надзелы належалі асаднікам, якія па сутнасці, з'яўляліся польскімі каланістамі, валодалі вялікімі абшарамі. Увогуле, палякі склалалі каля 90 працэнтаў буйных землеўладальнікаў Заходняй Беларусі.



***Няўрымслівы шасцікласнік. 1965 г.***

- Дзеці-то асаднікавы з нашымі ня дружылі, - працягвала польскую тэму маці. - Калі ў школу хадзілі ў Малаедах, то асаднікавыя адзеты былі далікатно, у паліткках, чаравічках, ні то, што мы, з палатнянымі торбамі ды ў лапцях...

- А паненкі польскія адзяваліся, то ні зраўняць...! Мы, малымі, бегалі ў Наруцавічы ў парк паглядзець, як яны шпацыруюць там па дарожках з парасончыкамі ад сонца ды яшчэ з сабачкамі маленькімі... Нас блізка ні пускалі, ганялі адтуль, здалёк на тое адно мы пазіралі...

Бацька вучыўся ў польскай школе ў Даматкананічах. Хадзіў туды зусім яшчэ малым пасля хадатаўскай трохгодкі праз лес, кіламетраў сем ці болей, у завірухі і маразы, у дожлж і ў буру. З тых гадоў прыпамінаў характэрны выпадак, якому быў сведкам. Польскі шляхціц, служылы чалавек, павучаў селяніна з Халатавічаў, які да яго не так далікатна звярнуўся: "Ты ешч хто?! Ты ешч хам! Разумеш! Хам! Тваё мешча в стайні! Разумеш?.." Бацька нават казаў прозвішча таго нашага земляка, ды я забыўся.

Ды толькі, каб гэткімі папрокамі абышліся ўспаміны аб польскіх парадках. За вершык ці кніжку на роднай бсларускай мове маглі забраць у пастарунак і збіць, як казалі, "на горкі яблык", у чорных сіняках выйдзеш... Не выкрасліць з гісторыі і факты беспадстаўнай жорсткасці з боку польскіх вайскоўцаў да безабаронных беларусаў.

Як бы хто з гісторыязнаўцаў не выкладаў свой погляд на гэты перыяд жыцця заходніх беларусаў, усё ж адзіным вытокам існасці з'яўляюцца ўражанні тых, хто жыў тады і спазнаў на сабе той лад. Бацька і маці сталелі ў тых варунках, бачылі, слухалі сваіх і чужых людзей. Праз усе нашы размовы, успаміны аб жыцці за польскім часам я пэўніўся, што яно не было салодкім ні для бацькоў, ні для дзядоў, ні для каго з тутэйшых.

Вельмі прыкра, што такая цывілізаваная і гістарычна-блізкая беларусам нацыя пакінула гэткі сумны след на беларускім полі. Крыўда на польскія ўлады за сваё гаротнае становішча штурхала бела-

рускіх сялян і да бальшавіцкіх агітатараў, і ў камуністычныя ячэйкі, і да непрадбачлівых трагічных учынкаў. Прыпамінаў бацька пра хлоппаў з Якшычаў, клецкая вёска за Ардою, ён нават ведаў некаторых, што рашыліся перайсці граніцу, каб пазбавіцца польскага прыгнёту і патрапіць у "савецкае шчасце". Там іх адразу арыштавалі і праз месяц расстралялі як польскіх шпіёнаў. Так пагінулі многія маладыя летуценнікі, што паверылі бальшавіцкай хлусні аб заможным і шчаслівым жыцці на Усходзе, за польскай пагранічнай паласой.

Калі дома заходзіла гаворка пра цяжкае жыццё пры паляках, то я прыводзіў бацькам адзін аргумент:

- Хай так - жылося нялёгка і цяжка. Але ж вас не раскулачвалі за лішняга каня ці авечку, не арыштоўналі за тое, што маеце некалькі гектараў зямлі, не высылалі ў Сібір ці на Магадан малых і старых за адзін толькі "няправілыіы" погляд...

Польская "дэфэнзіва" (палітычная паліцыя) садзіла падпольшчыкаў у турмы, арыштоўвала камуністаў, бунтаўшчыкоў, але ўжо такіх, якія сапраўды ваявалі з уладай... Але ж ніколі нікога не арыштавалі за тое, што ён мае жняярку з меднымі ўтулкамі ці лішняга каня альбо карову...



***З дзецьмі Мішы Анцінага. Мішка (злева) і маленькі Коля (будучы доктар-афтальмолаг) на крзсле. 1958-1959 гг.***

Бацькі сцішаліся. Пасля невялікай паўзы першаю ўступала маці.

- То не, так ня было, - прызнаналася яна. - У нашых, у маткі, заўсюды сала было круглы год і хлеб, і масло, і смятана. І авечак рэзалі. Кажухі вырабляў бацька, умеў. З ядою ні галадалі, адзежы ня было, эта праўда...

- Цётка прысылала адзежу нам з Расіі, з Заподнай Дзвіны, а мы ёй сало слалі. А прыехала к нам першы раз, як ужэ саветы прыйшлі, то вечарам пазанавешвала ўсе вокна пакрываламі і коўдрамі, і пра Сталіна калі гаварыла, то не ўголас, а шаптала. Эта ж так яны былі перапуджаныя этым вар'ятам... І тут ня было дабра, а там яшчэ мо больш...

Бацька не адразу ўступаў у размову. Ён меў франтавыя ўражанні ад "сталінскіх сокалаў" са СМЕРША (контрвыведка НКУС на фронце), а пасля вайны, калі дывізію перакінулі з Германіі ў чыстае поле пад Уладзімірам, досыць наглядзеўся на расейскае бязладдзе, галечу і варожасць да заходніх беларусаў.

- Да... Было страху... Што гаварыць, "чорны воран" (*гэтак нашыя людзі, сяляне, называлі чорныя энкавэдэшныя палутаркі-аўтазакі, што начамі знянацку забіралі ў турмы і высылкі гаспадарлівых сялян і мясцовую інтэлігенцыю пасля вядомага "вызваленчага" паходу ў Заходнюю Беларусь*) хапаў людзей па сёлах. І нашых з Бухаўшчыны, хоць і далёкая радня, а раскулачылі ўсіх падчыстую, дажа старых выслалі. Асаднікаў адразу Сталін саслаў... Во недавярак быў!

Маці дабаўляла:

- Іх зімою ссылалі, ужэ як бальшавікі прыйшлі. Дзяцей асаднікавых вельмі шкада. Маленькіх з хаты на мароз, на сані і павязлі недзе ў Сібір... За што ж маленькіх?! Што ўжэ яны кепскае зрабілі тыя асаднікі, каб так ссылаць... Вар'ят некі ўбіўся ва ўласць, мучыў людзей...

Прыхол бальшавікоў і вызваленне з-пад польскага ўладання нашы людзі спачатку прынялі з вялікай налзеяй. Думалі, атрымаюць зямлю, адменяць падаткі, стануць гаспадарамі на сваёй ніве. Бо столькі ўжо наслухаліся ад агітатараў пра заможнае жыццё на Усходзе. Ды і абрыдла пры паляках быць другасортнымі людзьмі. Але ж сумеліся ад новай улады з першых уражанняў. Худыя, замуленыя да крыві коні, вяроўкі замест скураных пастромкаў, галодныя, у палатняных абмотках замест ботаў салдаты, бязлітасныя расправы з палоннымі палякамі і багацейшымі людзьмі. Зямлі сяляне так і не пабачылі, падаткамі аблажылі яшчэ

большымі - за кожную курыцу, за кожнае дрэўца ў садзе... А яшчэ "трупянелі", як самі казалі, начамі са страху, бо, не прывядзі Божа, спыніцца каля плоту энкавэдзісцкі хапун, "чорны воран"...

Калгас у Хадатавічах і суселніх сёлах пачалі засноўваць пасля вайны. Перад вайною не паспелі. Ды, можа, вайна лягчэй перажылася, чым гэты пераход да "заможнай калгаснай нівы".

- Усё забралі, анічога не давалі за работу, жыві, як хочаш. От як было, ні то, што зараз..., - такімі словамі прыпаміналі пачатак калгаснай эпохі бацька і маці.

Гэта быў, бадай, самы цяжкі перыяд для нашых вясковых людзей. Захаваліся і ў маёй малечай памяці некаторыя адбіткі таго "калгаснага ззяння", пра якое маюцца радкі вядомага паэта: *"Жыццё ў красках і букетах толькі Сталін змог нам даць..."* Так іх цытаваў, на маё здзіўленне, калі-нікалі бацька, хоць і быў ён далёкі ад усялякай паэзіі. Відаць, недзе пачутыя, яны і яго, чадавека ад сахі і касы, здзівілі сваёй "абсалютнай праўдай"! Тут свая непаўторная зкзотыка і эвалюцыя! Таксама барацьба за выжыванне... А што рабіць?!

...Мне мо чатыры ці пяць гадоў. Мы з маці ў Малаедах, у бабы Волькі. Зімовы дзень. Нехта стукаецца ў хату. Заходзіць чалавек, якога я дагэтуль не бачыў. Перакрыўлены рот, касматае шчацінне, вялікія вывернутыя губы. Не гаворыць, а мыкае, як цяля, зразумець, чаго ён хоча, амаль немагчыма. Рубашка расшпілена, рукі парэпаныя, пад шчарбатымі кіпнюрамі чорная гразь. Праз дзіркі ў падраных гумовых ботах тырчаць голыя пальцы. Ён нешта стараецца вымавіць бабе. Маці шэпча мне, што просіць яды. Гэта Некрасівы, яны жывуць у сяле, у яго дзеці, жонка - адна галота...

Некрасівы... Пра яго гаварылі, што ў трыццаць дзявятым, калі рабавалі дамы асаднікаў і стайні ў пакінутым наруцаўскім маёнтку графа Чапскага, ён нагою сліхнуў з бочачкі з мёдам старую гаспадыню, бо яна хацела прыхаваць мёд ад наляцеўшых рабаўнікоў перад высылкай у сталінскі лагер...

...Позняя восень, пякучы няўтульны ранішні прымаразак. Мы, дзеці, коўзаемся каля цётчынага плоту па першых прымёрзшых лужынах. Але лядок слабы, трашчыць, пад ім хліпкая халодная гразь. Старая Якаўка, свякруха цёткі Ядзі, выходзіць з вядром да калодзежа. Яна босая, ідзе па самай гразі, па ледзяных шкельцах, нават не глядзіць пад ногі. Я ўздрыгваю, бо пранізліва ўяўляю, як ёй зараз холадна і балюча ў запэцканых па костачкі голых ступнях. Але яна не скардзіцца, толькі раз-пораз дастае з гразі то адну, то другую нагу і стаіць, як качка, грэючы іх па чарзе...



*Хата і надворак. Робяць калодзеж. Прыблізна 1962-1963 г.*

...Нашы суседзі цераз вуліцу - цётка Люба і Аляксандр Базылёвы. Прыгнечаныя і збяднелыя. але прыстойныя і бяскрыўдныя людзі. Маці паслала мяне занесці ім хлеба. На двары пранізлівы холад. макрата і гразюка. Мо сярэдзіна лістапада. Шэрыя саламяныя стрэхі счарнелі ад дажджоў, усюды гразка, няма куды ступіць, каб не запэцкацца. Гаспадар вярнуўся з аўчарні, дзе ён вартаўнікам. Мокры, у даўжэзным плашчы, нябрыты, з пракуранымі зубамі і жоўтымі ад самасаду пальцамі пачарнелых рук. Ён худы і ўвесь нейкі запаволены, нетаропкі. У хаце цемень. Каля печы стаяць вёдры з варывам для свінні. Падлога на кухні ў ямках, бо з гліны. Пад акном збіты з дошак стол, на ім алюміневы кубак, больш нічога. "Бяры, Аляксандар, картоплю ў печы, паеш...", - кажа яму цётка Люба. Ён дастае чыгунок, паволі абірае бульбу ад лупін, соліць і есць адну, без нічога, бо ні хлеба, ні алею, ні мяса, ні сала няма...

Першы калгас на вёсцы, дакладней, сельгасарцель, так у дакументах, утварылі на сходзе 4 жніўня 1950 года. Назвалі імя Заслонава. Старшынём абралі Драгаўца Мікалая Якаўлевіча. Здаецца, гэта быў дваюрадны брат дзеда Андрэя. Такія нашы здагадкі з братам, спытацца няма ў каго. Рэвізійную камісію, як сведчаць архівы, узначаліў Каўшэль Міхаіл Васільевіч (Міша Анцін). На той час у вёсцы меліся 83 уласніцкія гаспадаркі, якім належала 324,9 гектара зямлі. Пражывала 355 жыхароў. Да ліпеня 1954 года вёска ўваходзіла ў склад Быхаўшчынскага сельскага савета, а перад тым, пры паляках, у Ланьскую гміну Нясвіжскага павета Навагрудскага ваяводства. 28 сакавіка 1953

года адбыўся агульны сход членаў сельскагаспадарчых арцеляў “Вперед к коммунизму” (в. Казлы), імя Шверніка (в. Гусакі), імя К. Заслонава (в. Хадатавічы). "Политотделец" (вёскі Малаеды і Коханавічы). Было прынята рашэнне аб’яднаць арцелі ў адзін калгас імя Шверніка. З Хадатавіч у калгас уступілі спачатку толькі 114 чалавек. Такія звесткі пра калгасны пачатак сабраў у архівах наш зямляк Анатоль Паўлавіч Яраш з Казлоў.

Старшынём прыслалі чалавека з раёна з нехарактэрным для нашых мясцін прозвішчам Галіеўскі. Казалі, што ён з Ленінграла, "з дваццаціпяцітысячнікаў". Гэта сталінскі набор рабочых камуністаў для ўздыму сялянства. Чалавек, па ўспамінах, быў арыгінальны. Як толькі што - выхапіць пісталет і крычыць на брыгадзіра: "Прыстралю, сволач, еслі сено не свезеш..."

Потым, здаецца, прызначылі таксама чужынца па прозвішчы Лапуцька. Ён лётаў па вёсках на высокім рыжым жарабцы з фарсісгым скураным трафейным сядлом. Я ледзь памятаю яго вобраз. Але людзі казалі, што чалавек шыбутны, незлабівы, мог прыслухацца да чужога гора і не прапускаў чарку гарэліцы на дурніцу.

Ніхто з сялян не ведаў, чаму так назвалі іх "калхоз" (*да сённяшняга дня ў сяле "калгас" называюць чамусьці "калхозам" - гэты русізм уеўся ў кроў і цела вясковых людзей. Мо, па той прычыне, што калгасы прыйшлі з Расіі*) і хто такі Швернік. Потым, калі Шверніка ў Маскве скінулі, калгас пачаў звацца “Дружба” (1961 г.). Пасля ўзбуйнення, калі "Дружбу" далучылі да Аношак, і дагэтуль - "Новае жыццё" (1976 г.).

Старшынём "Дружбы" быў Станіслаў Вікенцьевіч Санько. Даволі разумны чалавек, добра ўзяўся за справу, падняў калгас. Але потым не заладзілася, і пасля ўзбуйнення кіраўніком прызначылі Міхаіла Васільсвіча Саляніка. У мінулым настаўнік, ён аказаўся клапатлІным гаспадаром. Адбудаваў вёску Аношкі, перарабіў фермы, правёў газ. Людзі зажылі вальней і заможней. Са слязьмі на вачах успаміналі мінулыя дні.

Пры Сталіне, ды і апасля яго, на калгасныя работы гналі, як на катаргу. Плацілі толькі па восені, пад Новы год. За дзясяткі месяцаў рабскай працы людзі атрымлівалі па пяць капеек на працадзень. Гэта значыць, за поўны працоўны дзень, зранку да вечара, толькі пяць капеек! Урэшце выхолзіла мо рублёў дваццаць-трыццаць грошай і мяшкоў са два жыта. Ды яшчэ ці выходзіла... А трэба жыць, адзець і накарміць дзяцей, здабыць хлеб, вырасціць жывёліну!

Памятаю, як аднойчы на Дзяды маці наліла мне і бацьку ў міскі халоднай вады, накрышыла цыбулі, дабавіла солі, размяшала, адрэзала па тонкай лусце хлеба і сказала: "Сёння нічога больш няма, пасёрбайце хоць гэту яду..." Не ведаю чаму, але мне здалося такім смачным тое матчына гатаванне, што дагэтуль, калі прыпамінаю, глынаю слінку і адчуваю яго прысмак. Мо, з голаду так здалося...

Мы былі беднымі. Але такімі былі ўсе людзі. Таму ніхто не жаліўся, бо бачылі, што суседу яшчэ цяжэй.

- Нічога ня было. Як мы жылі, нат ня ведаю, - часта казала маці. - Але як пераехалі ў сваю хату, от радаваліся... Ды, мо, другім яшчэ горш, чым нам, даводзілася...

З усяго "багацця" яна мела святочную сукенку і туфлі, што прыслаў з Германіі, з вайны, дзядзька Вечык, брат. У бацькі таксама нямецкі, перашыты кіцель мяккага сукна, гальштук нямецкі з тонкага шоўку. То ўжо не такія і бедныя на той час...



***Чаго толькі не было на гэтых палях...***

Ды галоўнае багацце сям'і - суладдзе мужа і жонкі, узаемная павага, дабрыня ў хаце. За бацькавай спіной было спакойна і маці, і нам, дзецям. Не ва ўсіх маіх равеснікаў пасля вайны мелася такое шчасце - жывы, поўны сілы бацька-франтавік, вясёлы і працавіты, смелы і рашучы. Ён увесь час некуды спяшаўся: то на лён, то ў лес па дровы, то на балота, то на соткі, то на канюшню. Па знаёмстве з інжынерам раённай МТС (машынна-трактарнай станцыі) Валерыкам, так называлі таго чалавека, уладкаваўся механікам на ільнотрапальны агрэгат. Гэта была значная падзея ў сям'і. Механік агрэгата - то іншы статус, спе-

цыяліст, не проста селянін за плугам. Па-другое, бацька стanавіўся штатным работнікам машынна-трактарнай станцыі, а гэта якая-ніякая, але ж цвёрдая і штомесячная зарплата. Такога шчасця селяніну-калгасніку не снілася.

Помняцца першыя бацькавы дні на ільнотрапалцы. Эмтээсаўскі трактарчык чалябінскага завода на жалезных колах, гучна пыхкаючы, прыцягнуў на шырокі двор перад Сяргейкавым пляцам, што на ўзгорку, насупраць перарobленай з панскага зруба вясковай школкі, бачкавітыя, як жбаны на калёсах, прыспасобы з рамямі, крупёлкамі, столікамі. Дзіва дзіўнае для вёскі. Каля гэтага "дзіва", ладзячы яго, суткамі тупаюць запэцканыя, у прамасленым адзенні мужчыны. Мы, малышня, неадступна круцімся вакол, чакаючы жаданага пачатку.



***На сцяжынцы ад лесу скмеціў я бацьку з мяшком мукі пад Вялікдзень***

Дні са два бацька наладжваў тэхніку, маці хвалявалася. Сам ён таксама перажываў, каб усё атрымалася, каб не страціць гэтую работу. Нарэшце залапатаў “чалябінец”, выпускаючы хмары чорнага смярдзючага дыму, паплылі шырокія рамяні, закруціліся шківы і ўтулкі. Бацька закрычаў жанчынам на падачы: "Давайце!" - махнуў рукою. Яны шпарка пачалі раскладваць тонкім радком ільняныя снопікі і падаваць на транспарцёр. Машына несупынна заглынвала гэтую ільняную сцежку, фыркала ад натугі, з трэскам выпускала на людзей хмары пылу, перамешанага з перабітаю ільняною саломкай, кастрыцай па-вясковаму. Праз дзесяць хвілін людзей не пазнаць. І бацька, і жанчыны, што падаюць лён на транспарцёр, і тыя, што прымаюць чыстыя, сіняватага колеру палойкі, - усе нібыта замазаны шэрым тэатральным грымам. Толькі блішчаць вочы ды чырванеюць губы: пыл з-пад ільну. драбнюткі і ўедлівы, замураваў суцэльным шчыльным слоем адзежу, твары, рукі, вушы...

Бацька штодня прыходзіў дадому чорны, доўга адмываўся. Раніцай не мог разляпіць счырванелыя вочы. Ды ён ніколі пасля фронту не падаў духам. Заўжды бадзёры і "ў руху", як казала маці. Праца ладзілася. Прыспела першая зарплата - палучка па-сельскаму. У хаце сабраліся адзначыць дагэтуль небывалую падзею. Палучка, жывыя грошы... Ажно патрэскваюць у бацькавых руках новенькія каляровыя паперкі. Ён з натхнёным выразам на твары працягнуў іх жонцы: "Бяры, Зіна, хавай..." Якраз завітаў інжынер з МТС (машына-трактарная станцыя) Валерык. Зазірнулі жанчыны з ільну. Маці зварыла бульбу, аднекуль узялася камса (кілька пасучаснаму), паставілі на ўслончык бутэльку самагонкі. Задаволеныя выпівалі, гаманілі, спявалі песні. Валерык добра падпіў, ледзь паехаў дадому на ровары.

А дні мо праз два ці тры я скмеціў, што бацька нечакана ідзе з лесу па сцежцы ад Маланчынай хаты і нешта нясе на плячах. Я стрэў яго каля плоту, ён папытаў, дзе маці, і, калі зайшлі ў хату, то, неяк загадкава пазіраючы на нас, зняў з плячэй цяжкую торбу.

- Во, мукі ў Даматканавічах у магазіне купіў, першы сорт. На аладкі будзе, - сказаў між іншым і паглядзеў на маці.

- Мука?! Першы сорт, пытлёваная! Глянь, якая ж беленькая! Ды так тоненька змолата, - зайшлася яна ў радасці і здзіўленні. Адкрыла мяшок і пачала пальцамі пераціраць муку, нібыта правяраючы, ці праўда гэта, ці сапраўды муку купіў бацька. Пра такую, пытляваную, яна адно што чуткі слухала, а так дык, мо, і не бачыла ніколі такой вось - бялюткай, тонка перамолатай пшанічнай мукі! Няўжо пірагі спяком на Вялікдзень, няўжо пакаштуем не счарнелыя са ржаной, а светленькія ды тоненькія з пытляванай пшанічнай мукі аладачкі?!

Не забыцца мне да скону дзён пра гэты мяшок мукі, што нёс бацька на плячах з няблізкага месца, мо кіламетраў з пяць, з даматканаўскага магазіна. Бо не было радасці большай і дабрыні ў сям'і, як тады, напрадвесні, перад Вялікдзенем, калі надарыўся першы заробак у сваёй хаце.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

# Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Навакоўскі ўсміхнуўся са свядомасцю ўласнай перавагі над такой недасведчанасцю.

- Не перабівай... Потым пані Плятар паказала спіну генеральшы Дунінай, пані Нарбут назвала графіню Камелі авантурніцай. Шмат людзей чула. А задзірыстая егамосця Дзяконская вылаяла на ўсю залу нейкага афіцэрыка, які выкінуў падчас танцаў нейкую непрыстойную штуку. І, нібы б гэтага было яшчэ недастаткова, прыгажуня Люлі страціла вялікі каштоўны шнур перлаў ды яшчэ пры такіх акалічнасцях, што гэтая справа таксама павінна дайсці да Сіверса. Сумніўна, аднак, каб яна атрымала яго назад.

- Адшукаецца дзе-небудзь над Волгай, сярод чыіх-небудзь фамільных каштоўнасцяў!

- І сталовае срэбра раскралі з альтанак! Кандытар, які, пазычыўшы, прывёз яго з Варшавы, прад'яўляе зараз буйную прэтэнзію да маршалка. А пад канец яшчэ п'яны натоўп з баснякамі пасек казацкі патруль, з-за чаго падняўся ладны скандал. Summa sumarum: агульная блытаніна, незадаволенасць, узаемныя папрокі і крыўды!

- Не мела баба клопату - уладкавала баль! - рагатаў Зарэмба.

- Былі вышэйшыя меркаванні, і маршалак мусіў гэта зрабіць, не шкадуючы выдаткаў.

- Рознае гаварылася, хто іх панёс...

- Гэта нявартыя нагаворы! Каго шкадуюць гэтыя плёткі? - балесна ўздыхнуў Навакоўскі.- Дайшло да таго, што такія людзі, як Скаржынскі, Мікорскі[1] і іншыя іх таварышы, ужо публічна абвінавачваюць нават вышэйшых саноўнікаў у хабарніцтве. Хлусня, якая дыктуецца зайздрасцю! Да шчас-ця, прапанаваны да ласкі![2] праект укараціць гэтую сваволю.

- Ці мала ўжо кляпаў абвясціла генеральнасць!!

- Усё яшчэ мала! Ты паняцця не маеш, колькі ходзіць па руках пасквіляў, рукапісных газетак, з'едлівых вершыкаў і ганебных эпіграм. І ўсё гэта пашырае нянавісць, хлусню, пагарду і недавер да тых няшчасных, якія прагнуць выратавання Айчыны. Гэта ўсё калантаеўскія[3] інтрыгі!

- Ці ж гэта магчыма? - выгукнуў Север з добра падробленым здзіўленнем.

- Я ведаю, што кажу. Перахоплены ўжо не адзін транспарт гэтых нікчэмных лісткоў. Ксёндз-падканцлер, як і ў мінулы сойм, не грэбуе ніякай зброяй супраць тых, хто стаіць на шляху яго амбіцый...

- Ну, шаноўных, мабыць, не дасягае? - уставіў Зарэмба дабрадушна.

- А хто ж шаноўны ў вачах гэтых шалёных якабінскіх[4] ваўкоў?!

Не было чаго адказаць, і Север, трохі памаўчаўшы, пачаў рассыпацца перад Навакоўскім у кампліментах.

- Я заўсёды лічыў цябе здольным, але цяпер ты мовіш зусім, як сапраўдны статыст.

- Бо не запускаў поля і заўсёды рыхтаваўся да большага! - шапнуў з гонарам Навакоўскі, паднімаючыся на дыбачкі. - У каго ёсць галава на плячах і хто паволі і з разлікам прапіхваецца наперад, таму і да высокіх чыноў недалёкі шлях.

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Мікорскі Дыянізы - вышаградскі пасол, належаў да соймай патрыятычнай апазіцыі.

[2] Да ласкі - да маршалкавай ласкі.

[3] Калантаеўскі - ксёндз Гуга Калантай (1750-1812), падканцлер каронны, выдатны вучоны і публіцыст, рэфарматар школьніцтва, кіраўнік і ідэолаг патрыятычнай фракцыі на Чатырохгадовым сойме. сфармуляваў праграму рэформ, якая стала асновай Канстытуцыі 3 траўня. Згрупаваная вакол яго т.зв. Калантаеўская кузня вяла энергічную і шматбаковую публіцыстычную дзейнасць. У час Касцюшкаўскага паўстання правадыр яго радыкальнага крыла.

[4] Якабінскі - якабінцы - найбольш радыкальная рэвалюцыйна-дэмакратычная групоўка ў часы Вялікай французскай рэвалюцыі.

Фанабэрыста, як быццам супраць свайго жадання, пачаў распавядаць пра свае стасункі і значэнне. Зарэмба слухаў, верачы толькі напалову. У адным месцы ён перабіў яго:

- А што парабляе татка? Усё яшчэ ў гетманшы?

- Зараз ужо сядзіць на сваім кавалку зямлі, - адказаў Навакоўскі, ніколькі не збянтэжаны пытаннем.- Але ў цябе, як я бачу, справы як быццам няважныя! - змяніў ён тэму гутаркі, аглядаючы пакой.

- Па-жаўнерску! Шабляй не даможашся замкаў!

- А пан мечнік па-ранейшаму машны з рук не выпускае?

- Адгадаў! - падтакнуў Север і пачаў распавядаць пра свае надзеі на вяртанне згубленага чыну.

- Цяжка будзе! Скарачэнне войска ўжо, можна сказаць, вырашана, і на кожную vacat ў пазасталых палках - па сто аспірантаў[1].

- То, кепская тады мая справа!

- Праект унесены да ласкі, з дня на дзень будзе дэлібераваны[2] і атрымае большасць.

Раптам Навакоўскі панізіў голас:

- Пецярбург падтрымлівае яго і патрабуе, каб ён быў прыняты яшчэ да перамоў з Прусіяй. Ды і з вышэйшых меркаванняў неабходна, каб гэта было зроблена хутчэй для агульнай бяспекі. І так ужо ходзяць чуткі, што некаторыя брыгады падумваюць пра канфедэрацыю. Неабходна паспрабаваць не дапусціць да ажыццяўлення гэтых планаў, - дакладваў ён з важнай урачыстасцю.

- Добра б усё ж, калі б ты мне не адмовіў у пратэкцыі! - папрасіў Север, прапускаючы міма вушэй яго адкравенні.

- Для сябра і сына майго дабрадзея я зраблю ўсё, што магу, хоць не ручаюся, што мае клопаты ўвянчаюцца поспехам. А ці не жадаеш заняць якую-небудзь пасаду па грамадзянскай лініі? Цяпер дэлегацыям будзе патрэбен чалавек, які валодае пяром; можна будзе даць на барыш Бакампу, ну а за астатняе я адказваю. Месца даволі зайздроснае, зацікаўленыя бакі не будуць скупіцца ні на рублі, ні на талеры...

- Я там не спатрэблюся, - я ўмею пячатаць толькі лбы, ды і то гарматнымі ядрамі, - пажартаваў Зарэмба, затуляючыся жаўнерскай прастатой у выразах.

- А ці не пашукаць табе фартуны на службе ў імператрыцы?

Зарэмба патануў раптам у клубах дыму і адказаў пасля працяглага маўчання:

- Я не ведаю па той бок нікога.

- Ручаюся табе, што, як піць даць, атрымаеш капітанскія нашыўкі. Жыць зможаш у кардоне, а трохі пачакаўшы пяройдзеш на цывільную службу, дзе лягчэй даслужыцца і да ордэна, і да якога- небудзь маёнтачка. У іх маецца нямала для раздачы. Не адзін ужо дзякаваў мне за добрую раду.

- Як гэта? Служыць чужым - і, можа быць, супраць Айчыны? - праенчыў, ледзь стрымліваючы гнеў.

- Гаворыцца: пан - як жадае, а бядняк - як выпадае. Ніколі гэтага не будзе, ніколі гэтая дзяржава не накіруе сваёй зброі супраць нас. Мы жывём у альянсе і, Бог дасць, пяройдзем зусім пад яе заступніцтва. Я пазнаёмлю цябе з Раўтэнфельдам ці з Касталінскім[3]. Зразумееш іх, і вырашыш. Я табе раю па-сяброўску: ратуйся, пакуль яшчэ можна! Паколькі ніхто не ведае, што каму наканавана, то яшчэ можаш патрапіць і ў кавалергарды[4]. У Пецярбургу прыгожы афіцэр заўсёды ў высокім кошце! - падміргнуў ён сваімі чырвонымі вочкамі і цынічна чмыхнуў. - Фартуна коціцца колам, і хто своечасова схопіцца за спіцу, таго яна вынесе высока. Я нешта ведаю пра гэта!

Ён ізноў засмяяўся.

Зарэмба цярпеў сапраўдныя пакуты, стрымліваючыся, каб не плюнуць у твар гэтаму зводніку; але, да шчасця, увайшлі Гласко з Качаноўскім, і ён паспяшаўся іх прадставіць.

- Навакоўскі! Але ж мы ведаем адзін аднаго, як дзве лысыя кабылы! - правуркатаў Качаноўскі.

- Так, сапраўды, прыгадваю васпана недзе са свету, - прамармытаў холадна Навакоўскі, паспешліва збіраючы капялюш, кіёк і пальчаткі. Трымаў пры гэтым Качаноўскага вачамі на такой дыстанцыі, што ў капітана аднялася мова. - Ad videndum[5], мосці панове! Вельмі шкадую, - з важнасцю развітаўся ён.

Зарэмба праводзіў яго да ганка.

- Я жыву ў палацы гетмана Ржавускага. Прыходзь да нас абедаць, пазнаёмішся з цікавай і вясёлай кампаніяй. А што да тваіх планаў, дык я табе сам напішу прашэнне. Дарэчы, ты даўно ведаеш Качаноўскага?

- Пазнаёміўся сёння ўначы.

---

[1] Аспірант (з лац.) - кандыдат.

[2] Дэлібераваць (з лац.) - разважаць, абмяркоўваць.

[3] Касталінскі - расійскі падпалкоўнік, камандзір батальёна, дыслакаванага ў Гародні.

[4] Кавалергарды (з франц.) - кавалерыйскія часткі прыдворнай гвардыі.

[5] Ad videndum (лац.) - Да пабачэння.

- Трымайся ад яго далей, гэта хлус і адчайдуша, - сур'ёзна перасцерагаў яго Навакоўскі, караскаючыся ў кабрыялет. Узяў лейцы з рук штыўнага жакея ў чырвоным фраку, прыцмокнуў на коней, кіўнуў Северу галавой і паехаў, калышучыся на выбоінах.

- Вось мяне ёлупень сплянтаваў[1]! - буркнуў Качаноўскі, тузаючы свае вусы ад вялікай канфузіі. - А носіцца гэтакі фанфарон, нібы важная персона. Я ж памятаю, як ён пры Люблінскім трыбунале ганяўся за кожным дукатам, як выжла за курапаткамі. А зараз глядзіць звысока, па-яснапанску, і ледзь сабе дазваляе ўзгадаць прыстойнага чалавека! Ха, ха! Лопну са смеху!

Але ён не смяяўся, да таго душыла яго непераадольная злосць.

- Бо і выфарсіўся на важную персону, - уставіў спакойна Гласко, высокі, самавіты шляхціц у гранатовым кунтушы вайсковага крою і, гэтак жа, як і Качаноўскі, з фэльдцэхам[2] пры простай чорнай шаблі, што пры цывільным строі азначала афіцэра. - Мае ён пры гэтым пашарпаную рэпутацыю. Касакоўскі вывеў яго ў паслы і карыстаецца ім для сваіх планаў. Здатны на ўсё, і такіх прынцыпаў чалавек, што любы яму аднолькава як рублі, так і талеры. Ці ваша мосць з ім у сяброўстве? - звярнуўся ён да Зарэмбы.

- Я яго ведаю з дзяцінства. Быў ён адзін час разам са мной у кадэтах, бацька мой плаціў за яго. Потым прыладзіў яго да гетмана Браніцкага. А пасля смерці гетмана ён зусім знік у мяне з вачэй.

- Гэтакі не знікне, чэрці выцягнуць яго з усякай бяды. Я яго ведаў у свой час у Любліне; трымаўся ён тады за крысо суддзі Казьмяна, але, здаецца, абрабляў справункі і на ўласны страх і рызыку. Наўрад ці мог забыцца мяне,- раз неяк пры адной вясёлай аказіі мы з панам Граноўскім выкупалі яго ў Быстрыцы.

- Кроўная крыўда, асабліва, калі хлопец дужа сербануў жабінага віна.

- Ледзьве Гольтц[3] у яго пульс намацаў! Хацеў потым біцца з усёй ротай, ды скончылася проста папойкай, ну і новай штукай. Заляцаўся ён там да адной...

- Ці не пакінуць нам у спакоі анекдоты, - заўважыў лагодна Гласко.

- Ды і то праўда. Тым больш, што нічым тут апетытным не пахне.

- Загапіўся тут з гэтымі гутаркамі, даруйце вашмосці. Кацпер!

- Толькі папярэджваю, што ад кафы я пакутую, як па роднай маці, чакаляда чыніць мне furioso[4], а ў гарбаце я прывык мачыць коням ногі.

- Знойдзецца што-небудзь суцяшальнае і для гумору вашмосці.

- А я б вам сёе-тое параіў. Ведаю я тут непадалёк запаслівага купчыка, які, хоць і святая пятніца цяпер на двары, няблага нас падкорміць. Бутэлечкі ў яго з пячаткамі - першы гатунак. Не давяраю я паручнікавай кухні. Даруй мне, вашмосць, толькі ў мяне па-старому: не вер языку, павер зубку, - заявіў Гласко, сцягваючы пояс на запалым жываце.

- Абы хутка, смачна і ўдосталь,- дык і я не вельмі пераборлівы! - пажартаваў Качаноўскі і раптам кудысьці прапаў, а вярнуўшыся, падышоў з сур'ёзнай фізіяноміяй да Кацпера.

- Куды вядзе праход паміж стайнямі з двара?

- Да ракі. Сцяжынка стромкая, але конь пройдзе, - выцягнуўся ў струнку Кацпер.

- А завулак перад хатай? - працягваў дапытваць капітан начальніцкім тонам.

- Налева - у горы, а направа - у палі, і зварочвае да Гарадніцы.

- Даволі! Ідзі сабе, брат! Раблю выведку, ці забяспечана ў нас адступленне, - звярнуўся ён да Зарэмбы. - Слушны хлопец, толькі ці надзейны?

- Як я сам. Гэта мой малочны брат і неразлучны таварыш. Пры гэтым цудоўны салдат: абараняючы гарматы, быў паранены і ўзнагароджаны крыжом.

- Такі адважны! Глядзіце-ка - мужык, а гэтулькі геройскай фантазіі.

- Сам князь яго аплаўзаваў[5]. Хлопец заслугоўвае набілітацыі[6].

- Калі ўжо ўласнай крывёй выпісаў сабе індыгенат[7], то і сойм павінен пацвердзіць яго.

- Хутка ў нас кожны будзе шляхціцам - з Халопскага ваяводства, з зямлі Мужыцкай, гербу - Печаная рэпа на паламаным суку, - прабурчаў Гласко.

- Абараняючы Айчыну, усе маюць права на аднолькавую ўзнагароду.

- Не адмаўляю. Але так у нас прыніжаецца

[1] Сплянтаваць (з лац.) - збянтэжыць, прынізіць.

[2] Фэльдцэх (з ням.) - пас, на якім вісіць шабля.

[3] Гольтц Караль Багуміл - слаўны лекар.

[4] Furioso (італ.) - шалёны.

[5] Аплаўзаваць (з франц.) - пахваліць.

[6] Набілітацыя (з лац.) - наданне шляхецтва.

[7] Індыгенат (з лац.) - дакумент пра наданне шляхецтва.

каштоўнасць шляхецтва добрай якасці, што хутка будуць узнагароджваць ім кожнага, хто зможа пахваліцца, што цалаваў у хвост каралеўскага каня, - працягваў ён бурчэць злосна.

Качаноўскі рассмяяўся, а Зарэмба аж ускочыў, увесь успыхнуўшы і пачаў гаварыць хутка і запальчыва:

- Вашмосць супраць зраўнання станаў і справядлівасці?

- Не, толькі на практыцы хацеў бы не дачакацца гэтага ўсеагульнага рая.

- А за што ж мы збіраемся падняць інсурэкцыю[1]? Бо за волю ж, роўнасць і братэрства!

- Гэта якабінскі максімалізм! Наш польскі лозунг, гэта - непадзельнасць, воля і незалежнасць. За гэта дам сябе пасячы на кавалкі. Аддам апошнюю кроплю крыві, аддам нават выратаванне душы!

Гласко нават паблядцеў ад хвалявання.

Зарэмба, не жадаючы спрачацца, замоўк і пачаў пераапранацца, але, абвязваючы кісейным шалікам шыю, не вытрымаў і кінуў напаўголас:

- Бо ўсім нам важна адно: усеагульнае шчасце.

- Непадзельнасць, воля і незалежнасць, - зацята паўтараў Гласко, сапучы ад хвалявання.

- Няхай будзе, як ён жадае! - крыкнуў паблажліва Качаноўскі.- Але ж у вас цудоўная апратка! - спыніўся ён з захапленнем перад квяцістым халатам і, не зважаючы на грозны погляд Гласко, прыбраўся ў яго і пачаў вытвараць найпацешнейшыя рухі нагамі і ўсім корпусам.- Саму султаншу можна гэтым спакусіць. Дорага павінна каштаваць?

- Каля пятнаццаці тысяч франкаў, - паспяшаўся адказаць Зарэмба.

- Нішто сабе! Вялікія грошы!

Качаноўскі паважна зняў з сябе каштоўную адзежу.

- Не палохайцеся, - асігнацыямі. Золатам гэта склала якіх-небудзь тры дукаты. Я купіў яго ў Парыжы ў вулічнага маршанда[2]. Запэўніваў, што сапраўдны кітайскі шоўк.

- Пэўна, пасля якога-небудзь небаракі, які склаў галаву на гільяціне.

- Ну, я гатовы. Вашмосць абяцаў правесці нас.

- Пойдзем, павяду вас кароткай дарогай і далей ад людскіх вачэй, - адказаў Гласко і рушыў паперадзе.

Качаноўскі ішоў у канцы, зазвычай абмацваючы ўсё па баках сваім праніклівым поглядам. Ішлі кірункам да фары, па вузкім бакавым завулку, рэдка забудаваным невялікімі хаткамі і поўным садоў і платоў.

Цэлыя чароды дзяцей гулялі ў клубах пылу, кварухі купаліся ў пяску, а дзе-нідзе тоўстыя мацёрыя свінні парохквалі ў слабым цені падстрэшкаў. Спякота даймала неміласэрна.

- Горача будзе сёння ехаць,- заўважыў Гласко.

- Як, вы хіба з'яжджаеце, вашмосце?

- Адразу пасля абеду. Нам трэба быць чацвёртага ў Зэльве[3], там вялікі конскі кірмаш! Заспеем там шмат людзей з розных месцаў, і мусім будзем імі распарадзіцца. Там ужо назапашаны ладныя склады, не лічачы коней, абяцаных князем Сапегам[4], генералам літоўскай артылерыі.

- Таму ідзіце павольна, я толькі скочу выдаць дыспазіцыю наконт коней.

- Рванём поштай, ужо замоўлена! - прытрымаў яго Качаноўскі. - Так яно бяспечней, можна сабе вольна гуляць па станцыях, завязваць знаёмствы, распытваць, як быццам нехаця, і рабіць пільна сваю справу. Паштовы гасцінец - што незапячатаны ліст: усё выдасць, трэба толькі ўмець яго прачытаць.

- Праз тыдзень будзем назад. Што вашмосць там робіць? - павярнуўся Гласко да Качаноўскага, які раптам прытуліўся тварам да нейкага паркану.

- Ціха!.. Што за дзівосныя цыпачкі! Гляньце самі! - шапнуў Качаноўскі, аддзіраючы ад плоту кавалак дошкі.

Абодва спадарожнікі зазірнулі праз шчыліну і анямелі ад здзіўлення. Трохі наводдаль стаяў белы дом, амаль увесь закрыты абвіслымі галінамі вялізных бяроз. На прыступках ганка, апавітага кветкамі, сядзеў нейкі стары егамосць з люлькай у зубах, а перад ім расхаджвала па дарожцы жанчына дзіўнай прыгажосці. Залацістыя, празрыстыя шаты амаль не хавалі яе галізну; чорныя валасы былі ўсеяны пярлінамі, твар даўгаваты і смуглаваты, вусны пунсовыя, вочы вялікія, грудзі высокія, уся постаць дзіўна стройная. Яна ішла павольнай хадой, варушачы сцёгнамі, як у танцы. Некалькі прыслужніц ці кампаньёнак, таксама

[1] Інсурэкцыя (з лац.) - паўстанне.

[2] Маршанд (з франц.) - прадавец.

[3] Зэльва - мястэчка ў Ваўкавыскім павеце, дзе адбываліся славутыя на ўсю Еўропу кірмашы.

[4] Князь Сапега Казімір Нестар (1750-1797) - генерал літоўскай артылерыі, чалец правага крыла патрыятычнага аб'яднання, пасол на Чатырохгадовы сойм, прымаў удзел у падрыхтоўцы і змагаўся ў паўстанні па кіраўніцтввам Тадэвуша Касцюшкі.

ледзь прыкрытых рознакаляровымі дымчатымі матэрыямі, круцілася тут і там паміж градкамі, поўнымі руж. Былі чутны асобныя словы, смех. Уся карціна бударажыла кроў і ўдарала ў галаву.

- Цыпачкі! Цып! Цып! Цып! - вабіў паціху Качаноўскі, пераступаючы з нагі на нагу.

- Маўчы, вашмосць! Гэта ж сам гетман Ажароўскі! Задаў бы ён нам бобу за такое падглядванне. Хадземце. Лепш не лезці ваўку ў пашчу, - шапнуў Гласко.

Адышлі з цяжкасцю, толькі Качаноўскі паварочваўся раз за разам і прыцмокваў:

- Далікатэсы! Рэдкасці! Куля мне ў лоб, калі не прабяруся ў гэты рай...

- Не квапся на гетманскі курнік! Ужо пэўна там настаўлены пасткі на шкоднікаў. Даўно мне пад сакрэтам распавядалі пра гэтыя гетманскія забаўкі; не верыў я, а вось давялося сваімі вачамі ўбачыць. Першая - грачанка, сваячка нейкая ці нават сястра мадам дэ Віт, цяперашняй каханкі Шчаснага.

- Прыгажэйшай я ў жыцці не бачыў! - уздыхаў Качановский.

- Прыгажосцю нагадвае графіню Камелі, - уставіў Зарэмба.

- Куды кухару да патыны[1]! Роўнай ёй на свеце быць не можа! Сапраўдная Венера! Псякрэў, гэтакія цукеркі - і заўсёды для старых грыбоў!

- Загадай сабе, вашмосць, кроў пусціць. Гэта супакойвае, - смяяўся Гласко.

- Астатнія, верагодна, прыслужніцы? - заўважыў Зарэмба.

- Трымае іх, кажуць, для сяброў.

- Я гатовы прысягнуць яму на вечнае сяброўства! - ускрыкнуў горача Качаноўскі.

- Прапануй яму, вашмосць, можа, цябе дапусціць да сваіх гурый.

- Абыйдуся без яго пратэкцыі. Вось вам маё кавалерское слова, ужо я ў гэтым вуллі паскрабу мядку.

- Як бы толькі табе пры гэтай справе не пакусалі пчолы.

- Можа, і пакусаюць, але апухне нехта іншы.

- Для Ажароўскага рогі - не дзіва, а вы яму новую бяду шыкуеце, - падсмейваўся Гласко.

- Ужо калі я дам слова, то стрымаю! - выклікнуў Качаноўскі, задзірліва ўскідаючы вочы, на што Гласко адказаў з сяброўскай усмешкай.

- Раю вам паставіць сабе п'явак на карак. Нішто так добра не ратуе ад лішку сіл. Тут недалёка жыве Крэйбіх, аптэкар.

- Убачыце. Слова сказана, убачыце!

Так, жартуючы, усе трое павярнулі ў горад.

Вуліцы з-за спякоты і паўдзённага часу былі амаль пустыя і нібы смажыліся на сонцы. Дзе-нідзе адпачывалі, лежачы ў слабым цені дамкоў, простыя людзі, ці габрэй прабягаў у белых панчохах, паляпваючы туфлямі. На рагах цэнтральных вуліц і праходаў стаялі ўзброеныя вартавыя, часам праязджалі казацкія патрулі, паднімаючы клубы пылу.

- Гэта "сябры", не наганяй сабе вашмосць, апетыту, - засмяяўся Гласко.

- Я ўжо ведаю смак альянцкага мяса, - адказаў Зарэмба, разглядаючы салдат воўчым позіркам. - Высокія, аднак, хлопцы, на падбор, і мадарунак[2] маюць з іголкі.

- А што самае дзіўнае, за ўсё плацяць гатоўкай, - уставіў Качаноўскі.

- Гэта тут, пад бокам у караля, у сойма, у замежных амбасадараў, па строгім загадзе звыш. А паедзь, вашмосць за кардон, там нагледзіцеся такіх бясчынстваў і гвалтаў, што табе валасы на галаве дыба ўстануць. Бачыў я каля Камянца цэлыя акругі, дзе нават рунь была здратаваная і пушчаная пад пашу, дзе не знойдзеш цэлай хаты, дзе кожны пацярпеў ці здароўем, ці маёмасцю. Люд гэты вельмі заядлы і лапшывы на чужое, але найгоршаае, што нішчаць часта не па патрэбе, а так, з нейкай незразумелай смагі паглуміцца над усім. Але прусакі, бадай, яшчэ горшыя.

- Рэч Паспалітая, нібы гліняны гарнец паміж падаючымі сценамі.

- Вытрымае, мосць Качаноўскі, - не змогуць яе нават моцы пякельныя.

- Але ў такой цяжкай сітуацыі яшчэ ніколі не бывала.

- Даўно гэтыя егеры[3] маршыруюць па вуліцах? - звярнуўся Зарэмба да Гласко.

- З пачатку сойму. Асестуюць на паседжннях, "ахоўваюць" дэпутатаў ад усякіх "выпадаковасцяў". "Міроўскія" і літоўская гвардыя нясуць службу толькі пры каралі і канцылярыях, і то без багнетаў і баявых патронаў, - тузануў ён злосна свае вусы і апусціў руку на эфес палаша. - І няньчаць нас па-свойму, няволяць пяшчотамі да падлегласці. Сямнаццатага ліпеня, калі ўносіўся на абмеркаванне праект альянсавага трактату, чаму ўсёй душой супраціўлялася жменя шаноўных, бачыў на свае вочы, як артылерысты падкочвалі гарматы і накіроўвалі прама на замак, як кананіры стаялі з запаленымі кнотамі, як Раўтэнфельд задзіраў лыч перад каралём, а егеры з настаўленымі багнетамі вы-

[1] Патына - талерачка, на якой ляжаць аплаткі падчас імшы.

[2] Мадарунак (з ням.) - жаўнерская экіпіроўка.

[3] Егер (з ням.) - стралок, пешы жаўнер.

цiскалі арбітраў з залы паседжанняў! На свае вочы бачыў.

- Можна было напіцца ганьбы і злосці на ўсё жыццё, - прагаварыў ціха Зарэмба.

- Хопіць гэтага на стагоддзі, для цэлых пакаленняў! А зараз, ша, мосці панове.

Яны апынуліся перад двухпавярховай камяніцай, у якой гандаль він Далькоўскага, і праз шырокую брукаваную браму ўвайшлі ў скляпеністую вялікую залу.

Там было шумна, як на кірмашы, і амаль цёмна ад дыму. За доўгімі сталамі, уздоўж сцен, публіка забаўлялася кілішкамі, ведучы пры гэтым гучныя дыскусіі. За стойкай, абстаўленай металічнымі кубкамі, і парцалянам, панавала поўная еймосць з тварам, як месяц у поўню, і з грудзьмі, нібы боханы хлеба; каралавыя завушніцы звешваліся ў яе да самых поўных плячэй. Яна рабіла панчоху, лічачы напаўголас вочкі, але яе востры погляд бегаў хутчэй, чым пруткі, і раз-пораз тонкі галасок яе падганяў хлопцаў-прыслужнікаў і мужа, які ў зялёным фартуху і чорнай ярмолцы на галаве, худы, лядашчы, пакорны, вітаў уваходзячых, кланяўся, праводзіў на месцы, чытаў, як па нотах, мяню і верашчаў праз акенца на кухню.

- Гласко запатрабаваў асобны пакой. Давялося, аднак, задаволіцца толькі асобным сталом, які знайшоўся ў адным з пакойчыкаў ад падворка.

- Свежая навага! Шчупак з шафранам! Лінь у капусце! Піражкі лянівыя! - дэкламаваў гаспадар, абмацваючы гасцей хітрымі вачыма.

- Глядзіце, пятніца і сюды ўжо паспела дахаць, - з камічным засмучэннем пажаліўся Качаноўскі.

- Але пахне, як найменш, тлустым чацвяргом.

- Бо і пятніца ў маладосці ведала смак смажанай каўбасы, - уставіў гаспадар, кланяючыся да зямлі.

- Старэеш пан і трымаешся яшчэ дурнаватых традыцый, - забурыўся Гласко. - Падай мне посны абед, я табе - не лютэранін.

- Магу з постам, магу з мясам, абы было яно з бургундскай падліўкай.

- А мне падай сваіх курапатак. Я не трымаюся забабонаў, - сказаў рашуча Зарэмба.

- Ды не забудзься селядца і гарэлачкі! - нагадаў Качаноўскі.

Гаспадар справіўся хутка, але, калі яны прыняліся есці, не пераставаў брынчаць у іх над вушамі.

- Соўс да шчупака па рэцэпце кухмайстра яго вяльможнасці, ангельскага...

- Таму і смярдзіць жабінай ікрой,- паспрабаваў абсадзіць яго капітан.

- А курапаткі падляскія! Пахнуць, як кадзіла, нацёртыя імбірам.

- То з’еш, васпан, сам д’ябла ў шафране, а не замінай нам! - абрынуўся на яго Гласко і павярнуўся да Качаноўскага, які еў за траіх і піў за дзесяцярых.

- Памятай, вашмосць, меру, па такой спякоце яшчэ ў дарозе шляк трафіць.

Качаноўскі засмяяўся на гэтую перасцярогу, выпіў да дна ўсё, што было на стале, і выбег у залу, дзе ўбачыў нейкіх знаёмых.

- Праз паўгадзіну будзе ўжо знаёмы з усімі.

- Такі таварыскі? Шчаслівая натура.

- Пераканаешся, вашмосць, якія прынясе навіны. Ён у любога з-пад сэрца вывудзіць усякі сакрэт, хоць бы змацаваны прысягай. Шалапут, як быццам бы, гуляка, лайдак, а ў той жа час вельмі празорлівы чалавек. Шчыра яго паважаю.

- Ясінскі хваліць яго, толькі не без пэўных рэстрыкцый[1].

- Чаго ён варты, спытай, вашмосць, Дзялынскага,- прашаптаў Гласко, нахіляючыся над сталом. - На Ануфрыеўскім кірмашы[2], у Бярдзічаве, за адзін тыдзень сыпнуў у нашу касу больш за пяць тысяч дукатаў. Так бавіў публіку жартачкамі, смехам ды чаркай, што шляхта яго аж на руках насіла. А калі ў каго не было пры сабе грошай, павінен быў даваць натурай. Цэлы склад набраў скур, палатна, волава, не лічачы ладнага табуна коней. Камандзір не можа нахваліцца. І ў жанчын таксама карыстаецца поспехам...

- Здаецца, аднак, умее часам выкінуць форталь...

- Іншы раз сам не магу ачомацца ад здзіўлення. Цікава, якую ён штуку уткне Ажароўскаму?

- Выветрае ў яго гэты курнік з галавы. Хіба час цяпер для такіх фокусаў!

- Даў слова, і я ўпэўнены, што нешта змайструе, не бракуе яму выдумкі.

Зарэмба адказваў усё больш каротка, заняты разглядваннем публікі, балазе, праз расчыненыя дзверы была бачная цэлая анфілада запоўненых гасцямі пакояў. Некалькі дэпутатаў сойма сядзелі ўдалечыні, занятыя нягучнай гутаркай.

Гласко назваў іх прозвішчы, дадаўшы пагардліва:

[1] Рэстрыкцыя (з лац.) - перасцярога.

[2] На Ануфрыеўскім кірмашы - 12 чэрвеня.

- Тыя, што заўсёды галасуюць з большасцю...

- Marais[1]! У Парыжы такіх завуць "балотам", - растлумачыў ён, наліваючы кілішкі.

- А што чуваць у сойме?

- Усё тое ж: каплуна дзеляць,- ён азірнуўся на чырвоныя кунтушы дэпутатаў. - Ногі яму ўжо адцялі, крылы абрэзалі, грудзінку абгрызлі, застаўся толькі азадак, а ласунам усё мала,- выцягваюць кіпці па рэшту...

- Паквапіліся на лёгкае. Далей не пойдзе ім так гладка.

- А хто ж ім забароніць. Глянь, вашмосць, што дзеецца ў адарваных ваяводствах: балі, асамблеі, фэсты ўскладчыну для губернатараў, падзячныя адрасы. Вось у Жытоміры пасля прысягі новай пані шляхта балявала цэлы тыдзень! У Познані Мёлендорф[2] аж мусіў ўлезці ў пазыкі за яду і напоі, гэтульki народу з'ехалася складаць гамагіюм[3]. У іншых месцах тое ж самае. А тут, у Гародні, у сойме прадаюць ужо Айчыну en detail[4], на фунты і жывой вагой. Калі б не апошняя вера ў поспех нашых планаў, то я б сабе ў лоб стрэліў, - панура мармытаў ён.

Зарэмба маўчаў, абхоплены цяжкім смуткам, якога не магло разагнаць нават віно; зазіралі адзін аднаму ў вочы, аж да самага дна заклапочаных душ, і пілі кілішак за кілішкам, як бы для таго, каб забыцца.

Вакол звінелі куфлі, шумелі вясёлыя галасы і ішлі такія гарачыя спрэчкі, што сцены дрыжалі. Усе пакоі былі ўжо перапоўнены да краёў, а новыя госці ўсё прыбывалі.

Мяшаліся адзін з адным у натоўпе, як гарох з капустай, ваяводскія кунтушы, фракі, чамары, гранатовыя курткі ваеннага крою, палатняныя дарожныя плашчы, ксяндзоўскія сутаны, і нават сямтам мяшчанскія капоты, закапаныя воскам, бо публіка была ўсякага асартыменту; усе елі, пілі і размаўлялі гучнымі галасамі. Урэшце забракла ўжо сталоў і сядзенняў, людзі тоўпіліся ў праходах, спіхваныя з месца на месца, бо раз-пораз хто-небудзь праціскаўся ці проста круціўся ў натоўпе: які-небудзь зборшчык міластыняў дрынкаў кубкам; сівы габрэй у аксамітавай ярмолцы і атласным жупане, падпяразаным чырвонай хусткай; то крэданцэры[5], якія разносілі стравы і напоі; доўгавалосы багамолец з крывым кіем і падвешанай на аборцы тыквай[6], абвязаны медалькамі, пацёртымі аб труну Панскую, прадаваў сувеніры з ракавін, лгучы пры гэтым усякія небыліцы; то венгр, што расхвальвае ламанай мовай сваю памаду, алеі і цыбукі; то нарэшце, сабакі, якія блыталіся пад нагамі, пачыналі грызціся і віскатаць; узнікала якая-небудзь спрэчка, ці які-небудзь сярдзіты шляхціц грохаў кулаком па стале, так што аж енчылі алавяныя місы...

Раптам з агульнай залы данёсся такі выбух смеху і тупання, што Гласко падняў галаву і шапнуў:

- Гэта Качаноўскі бавіць новую кампанію, аж тупаюць нагамі ад задавальнення...

Сарваўся раптам і скурчыўся, як быццам хацеў даць нырца пад стол: бо да іх прапіхваўся нейкі дародны шляхціц з талеркай у руцэ і бутэлькай пад пахай. Меў гранатовы кунтуш з белым, заплямленым жупанам, велізарны жывот, патройны падбародак, цынічна адтапыраныя губы, чырвоны нос, адвіслыя шчокі, растрапаныя вусы і маленькімі, хутка бегаўшыя вочкі. Ён аглядаўся вакол, гарлапанячы трубным голасам:

- Крэданцэр, падай хоць бочачку, хам такі!

А паколькі ніхто не спяшаўся з паслугай, ён звярнуўся прама да іх:

- Дазвольце мне, вашмосці, прысесці? - і, не чакаючы адказу, пляснуўся сваім волатаўскім целам на столак. - Ногі ўжо ў жывот пруць... Хе-хе!

Гласко пaглядзеў на яго з непрытоенай абамінацыяй[7].

- Падгорскі Адам, з Валыні, - сказаў, працягваючы потную, пакрытую рудымі валасамі лапу.

Давялося і ім, хочаш - не хочаш, назваць свае прозвішчы.

- Зарэмба, уласнага герба?

- Чакайце, вашмосць, бачу - з Вялікай Польшчы! А можа быць, з Падляшша? Гэй, разява, нясі пабольш бутэлек! А бацька будзе Ануфры?

- Гэта мой дзядзька.

- Глядзіце, як гэта, гара з гарой не сходзіцца... Ге-ге!

- А лыч з анучай заўсёды, - кпліва запэўніў Гласко.

[1] Marais (франц.) - балота, назва, якую надавалі цэнтру ў французскім Нацыянальным Канвенце (заканадаўчы сходу час рэвалюцыі).

[2] Мёлендорф Рыхард (1725 - 1816) - прускі фельдмаршал.

[3] Гамагіюм - прысяга на вернасць сюзярэну.

[4] En detail (франц.) - дэтальна, канкрэтна.

[5] Крэданцэры - афіцыянты.

[6] Тыква - кубак.

[7] Абамінацыя (з лац.) - непрымальнасць, пагарда.

- Можа быць, і так. А мы з ім былі разам у Барскай[1], ге-ге! Добрыя два гады. Ге-ге! Пад харугвай Чанстахоўскай, ге! ге! - рагатаў ён так, што Гласко, не ў сілах схаваць агіды, павярнуўся да агульнай залы. - І заўсёды быў гарачы, і да шаблі ды да гарэлкі хуткі. Паннай яго празывалі, але гэта нічога... хе! хе!.. Ваяка таксама быў добры, адзін ён больш папсаваў варожага мяса, чым якая харугва. Удваіх са сваім Кубусем хадзіў на гэтае паляванне. Як ён пажывае?

- Нічога, здаровы, дзякуй.

- Гэтакая спякота, выпіць, ці што? А вы, вашмосць, якога на гэты конт меркавання, пане Гусько?

- Гласко, да паслуг! - паправіў, барвеючы ад злосці.

- Глухаваты я трохі, прабачыце, а можа вашмосць з дэпутатаў? Не дачуў.

- Не было каму мяне выбіраць, - адказаў Гласко задзірліва.- Не ў кожнага маецца пратэкцыя дукатаў і багнетаў, мосць дэпутат валынскі! - адрэзаў ён, не стрымліваючыся і ўпіваючыся ў суразмоўцу пагардлівым поглядам.

Зарэмба ад гэтага нават струхнуў і апусціў руку на эфес шаблі.

- Нічога вашмосць ад гэтага не страціў,- засмяяўся Падгорскі, нікольні не збіты з тропу. - Клопатаў і турбот - не пералічыць, а барышу ніякага, ге! ге! Горача, як бы мяне д’яблы эксцытавалі[2]. А можа на другую ногу, ге? А потым па сяледчыку ды па кавалку шчупака з шафранам? Крэданцэр, ходзь сюды, разява!

- Дрэнна, відаць, корміць ваш патрон, калі тут даводзіцца даядацьа.

- Дрэнна не дрэнна, толькі па-д'ябальску аднастайна! - цынічна прызнаваўся Падгорскі.- Я гатовы ўсё з'есці, што ні пападуць, абы ў кампаніі. У мяне адно правіла, мудрае, як святая малітва: не перабіраць ні ў піцці, ні ў сацыеце! Для мяне кожны чалавек - стварэнне божае, а напой - яго дарунак, ге! ге! І ніколі мяне гэта правіла не падводзіла.

Абодва яго суразмоўцы маўчалі так зацята, што, закрануты іх маўчаннем, ён пачаў размаўляць яшчэ больш штукарскім тонам.

- Паставяць шампанскае - п'ю і таму, што прыемна казыча язык; венгерскае пападуць - цягну expedite, як Бог загадаў; рэйнскае на стале стаіць ці бургундскае - не пытаю, хто за яго плаціць, абы бочачка была пабольш, а кампанія паменш. А калі хто жадае ўлагоджваць мяне мядком ці налівачкай - падсаджваюся з замілаваннем і спраўляюся з шэльмамі хоць бы бляшанай квартай, ге! ге! - лапатаў ён, бегаючы па тварах суразмоўцаў зладзеяватымі вочкамі.

Але бачачы, што тыя сядзяць, нібы вады ў рот набраўшы, буркнуў гнеўна:

- Бачу, вашмосці, не вельмі мне радыя.

- Што вы, васпан... Толькі ў кожнага ёсць свой чарвяк...

- А вас што так точыць, ге? - спытаў дабрадушна Падгорскі, даліваючы кілішкі.

- Кепская кампанія! - секанУў Гласко беспардонна, нібы ўрэзаў аплявуху.

Падгорскі ўскочыў і, шукаючы рукой шаблю, сыкнуў, як змяя, на якую наступілі.

- Гэта табе дарма не пройдзе, лайдак! Я цябе знайду, папомніш.

Гласко таксама ўстаў і, нахіліўшыся паблядлым тварам да самага яго твару, кінуў, нібы наскрозь працяў яго стылетам:

- Пашукай мяне, прускі ўтрыманец; знойдзеш кій, гэта цябе не міне.

Таўстун асалапеў ад гэтых слоў і стаяў з раззяўленым ротам, пасінелы ад гневу, але праз хвіліну дапіў чарку, забраў сваю бутэльку і пайшоў без слова ў адказ.

Да шчасця, ніхто не звярнуў увагі на ўсё гэта здарэнне. Толькі Зарэмба, калі трохі ахалануў, заўважыў даволі строга Гласко:

- Ад гэтага магла б пацярпець справа!

- Ведаю, што вінаваты, ды ўжо не мог больш вытрымаць! Бо гэтакай набрыдзі плюнь у твар, - скажа, што дождж ідзе; сліны шкада. Разгульвае як нічога не здарылася.

Падгорскі, сапраўды, швэндаўся па залах, загаворваючы то з адным, то з другім і чокаючыся з кожным, хто хацеў.

- Калі б ён трымаў руку ў Сіверса, то сёння ж уначы быць бы мне ў дарозе на Калугу[3]. Дурная гісторыя, ніколі сабе гэтага не дарую, - шчыра засмучаўся Гласко.

Нейкі цыбаты немец у жоўтым фраку і велізарным парыку, які круціўся з некаторых пор у натоўпе, прапанаваў ім выразаць іх сілуэты.

- Рэж, немчура, - пагадзіўся Зарэмба,- ніколі ў мяне не было свайго партрэта.

- Выразай і мяне. Ляпіў мяне з воску нейкі

---

[1] Барская - Барская канфедэрацыя (1768 - 1770), збройны шляхецка-магнацкі рух, скіраваны супраць умяшання царыцы ў польскія справы, а разам за абарону непарушнасці феадальнага ладу ў дзяржаве.

[2] Эксцытаваць (з лац.) - падштурхоўваць, падахвочваць, падбіваць, пабуджаць, схапіць.

[3] Калуга - губернскі горад у Сярэдняй Расіі, месца высылкі палякаў.

француз, ды не вельмі ўдала.

Немец усеўся так, каб бачыць іх твары супраць святла, і, расклаўшы на дошчачцы сінюю паперу, пачаў ножыкам выразаць так спрытна і з такой шпаркасцю, што амаль за чвэрць гадзіны сілуэты былі гатовыя і вельмі трапныя.

- Але мне пара, - устаў Гласко.- Ужо па трэцяй, а нам у чатыры ехаць.

Абодва выйшлі праз бакавыя дзверы ў двор, запоўнены экіпажамі і чэляддзю.

- Качаноўскаму будзе цяжка расстацца з вясёлай кампаніяй.

- З'явіцца ў пару, не запозніцца ні на адну хвіліну, нават калі будзе п'яны, што здараецца з ім рэдка. На тым да спаткання праз нейкі тыдзень!

Зарэмба купіў у крамцы "Ведамасць адрасоў прыезджых у Гародню", перапрануўся дома і ў наёмным экіпажы паехаў складаць візіты да розных асобаў, да якіх меў рэкамендацыйныя лісты.

Вярнуўся толькі позна ўначы, такі засмучаны і заклапочаны, што Кацпер са страхам складаў рапарт пра сваю вылазку ў Тызенгаўзаўскую карчму. Па меры, аднак, яго аповяду твар Зарэмбы праяснеў, і ён вырашыў:

- Добра, з'ездзім туды як-небудзь уначы. Чалавек сто народу, кажаш там?

- Можа, і больш. Пахаваліся па розных норах, як пацукі. Многія служаць у горадзе, а ёсць і такія...

- Што яшчэ? - спыніў яго Зарэмба цвёрда, ведаючы, што хлопец любіць доўга расказваць.

Кацпер выцягнуўся ў струнку і падаў яму ліст.

Шамбялянша ў самых ласкавых выразах запрашала яго да сябе.

- А яшчэ што? - спытаў ён ужо цішэй, чым раней, хаваючы пахучы ліст у кішэню.

Як бы ў адказ, на парозе з'явіўся айцец Серафін.

- Вось гэта добра. Вы мне як раз будзеце патрэбныя, ойча. Ёсць важныя справы.

Абодва ўселіся за стол і гутарылі да світання.

Кацпер пільна вартаваў перад домам.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Валянціна Аксак: "Тварыць гармонію з хаосу"




Беларускае літаратурнае жыццё не перапыняецца. Новыя абставіны забаронаў, карантынаў, абмежаванняў, ізаляванасці мо яшчэ і спрыяюць таму. Раз-пораз чуеш абвесткі пра з'яўленне ці прэзентацыю новай беларускай кнігі. Месяц-паўтара таму прыхільнікі творчасці Валянціны Аксак даведаліся пра выданне яе дзявятага зборніка "Трэці Эдэм." Мо і не варта распытваць паэтаў: яны ж у вершах усё выказалі, ды ўсё ж наважыліся задаць зямлячцы, ураджэнцы нясвіжскіх Смалічоў колькі пытанняў.

***- Кажу і не сумняваюся, што паэзія - гэта стыль Вашай паўсядзённасці, вобраз Вашага жыцця. Гэта лёгка ці цяжка, камфортна ці не? Як жывецца з паэтычнай творчасцю?***

- Жыву, як жывецца. А каб зразумець, ці лёгка гэта, ці цяжка, трэба пажыць і неяк не так, бо, як вядома, усё пазнаецца ў параўнанні. Ну, а паколькі іншага зямнога жыцця нам не дадзена, то застаецца прыняць тое, якое наканавана. І лішне не пераймацца цьвяльбою пра лёгкае-цяжкае, камфортнае-прыкрае. Тое, з чым Бог паслаў нас у гэты свет, немагчыма перайначыць, і кожны мусіць прайсці свае святліні і цянёты.

***- Калі ў Вас быў усяго першы зборнік "Цвінтар", мы сустрэліся ў Вашых Смалічах. Жылі яшчэ бацькі. Вы прыехалі вясной ім сёетое дапамагчы, пацешыць унукамі. На пытанне школьнікаў - адкуль бяруцца вершы - адказалі: "З грады". Які сёння адказ на тое ж пытанне?***

- Ну, Вы ж заспелі мяне тады ў градах, то я і сказала так жартам. Але калі сур'ёзна, то я і сёння не ведаю адказу на гэтае пытанне. Кожнае новае трымценне гукаў недзе ў глыбінях непадуладнае вонкавым абставінам. Яно здараецца незалежна ад месца і часу, фізічных высілкаў ці разумовай напругі. І я сама не ў змозе пакіраваць гэтаю стыхіяй.

***- Гэта самая распусная кніга, - скажа каторы чытач. І слушна. А іншы запярэчыць, што самая цнатлівая. Межы раю і пекла рухомыя, і яны пралягаюць праз усе дзевяноста вершаў дзявятай кнігі Валянціны Аксак.*** *"У яе "Трэцім Эдэме" гібее разбэшчанасць першага, сохне пыхлівасць другога, набухаюць бутоны*

*ўсёдаравальнага новага"*, ***- пададзена ў анатацыі да Вашага апошняга зборніка. Ці можаце што дадаць да гэтага наведвальніку кнігарні, які запыніўся ля паліцы і раздумвае: купіць - не купіць? Выпадковаму чытачу што скажаце пра дзявяты зборнік?***

- Думаю, што ў аддзелах кнігарняў, дзе прадаюцца паэтычныя кнігі, не бывае ці амаль не бывае выпадковых пакупнікоў маіх кніг. Пасля выхаду маіх першых - "Цвінтара" і "Капліцы" - я атрымлівала лісты ад невядомых чытачоў не толькі з розных месцаў Беларусі, а нават з далёкае Сібіры і яшчэ далейшае Амерыкі. Цяпер чуецца чытацкае рэха пераважна ад тых, каму маё імя ўжо знаёмае. Маю сціплы спадзеў, што яны заўважылі адметнасць "Трэцяга Эдэму" ад усіх маіх папярэдніх кніг.

***- Скажу ад сябе: мне вельмі імпануе гераіня менавіта гэтага зборніка. Амаль з кожнага верша бяру-прымяраю яе параду, як жыць, якой быць…***

- Не маю права нікому нічога раіць. Кожны чалавек - непаўторны, і ў кожнага свой кон, свой шлях. Сама сабе даю штодзённы наказ слухаць заданне Неба.

***- Мо падтрымаеце мяне ў думцы:*** *"Валянціна Аксак - паэтка … і грамадзянскага гучання. Яе лісцік кляновы "трымціць на паўночным паўшар'і"* ***як закладачка між старонак ад першага да апошняга зборніка. Для такой высновы мне дастаткова сярод 89 аднаго невялічкага верша.***

- "Тут, у абрысах кляновага лісціка, магілы бацькоў нас трымаюць мацней за жалезныя засаўкі чужынскай улады". Сапраўды, гэты вобраз радзімы не адпускае мяне і паўтараецца ў розных інтэрпрэтацыях у некалькіх маіх кнігах. Але я не прымаю падзелу паэзіі на так бы мовіць грамадзянскую і нейкую яшчэ. Рыфмаваныя плакатныя лозунгі і барыкадныя клічы ў маім успрыняцці - гэта ўсё ж публіцыстыка. Не мой жанр.

***- Так, не Ваш. Але "тварыць гармонію з хаосу, " як выказаліся Вы ў адной з гутарак, - гэта справа сусветнага маштабу. Ваша грамадзянскасць - без патэтыкі і пафасу, без лозунгаў і клічнікаў. Беларусам і беларускам паболей бы якасцяў мудрай, годнай, разважлівай і рашучай Ліліт, якая змагла супрацьстаяць ганьбе, адважылася перайначыць лёс, каб стварыць райскі сад для самой сябе. Мо гэта толькі жаночае, прыватна асабістае, але чаму б не прыняць гэта кожнаму. Усё ж*** *"…сотню гадоў да сябе мы не рушым"*.

***Тут жа адзначу і Ваш грамадскі чын дзеля роднай мовы, у якую Вы вяртаеце напаўзабытыя ці зусім забытыя даўнія словы, а таксама ўзбагачаеце густоўнымі наватворамі, вельмі натуральнымі для яе па гучанні і будове. Праўда, як падаецца мне з папярэдніх Вашых адказаў, гэта падсвядомае дзеянне, якое адбываецца само сабой. Ці так?***

- Усё, што звязана з маёй гукаслоўнай творчасцю, не падуладнае маім нейкім планам ці мэтам. Яно ідзе з душэўных запатрабаванняў, а як яны ўзнікаюць, я не ведаю.

***- Ці ёсць у Вас асабліва дарагі, любімы ці памятны зборнік? Ці ўсе любімыя і дарагія, як дзеці для бацькоў? Ці, як тое бывае ў творчых людзей, такім ёсць апошні плён, дзе самыя свежыя пачуцці і думкі?***

- Кожны новы дарагі і любімы і здаецца самым лепшым, пакуль з ім жыву сам-насам. А як толькі бяру ў рукі ўжо надрукаваны, і гэткім чынам адлучаны ад аўтарскай інтымнасці, адразу бачу ўсе ягоныя хібы. І накрывае расчараванне. Яно гусцее, калі праходзіць месяц, другі, год, а чытачы і крытыкі маўчаць. Гэта, як навальнічная хмара, якая знянацку насцігае ў полі, і ты бездапаможны. Ці калі адзін стаіш у лесе і гукаеш, а рэха няма. Цяпер магу з удзячнасцю ўзгадаць вельмі цёплы чытацкі прыём маёй першае кнігі "Цвінтар", што дало неверагодную ўнутраную веру ў сябе і нарадзіла праз два гады "Капліцу". Крытыкі ў рэцэнзіях асцярожна намякнулі, што другая кніга паўтарае першую. Гэта было балюча, але карысна. Праз пяць гадоў выйшаў "Антычны дождж", які меў вельмі шырокі ўхвальны рэзананс. Чаго не магу сказаць пра "Віно з Каліфорніі" і "Ружоўніцу". Нейкія водгукі былі, але я адчувала, што і ў ва мне перастае гучаць ранейшая музыка словаў. Дзевяць гадоў было так, як быццам мову заняло. А потым неяк нешта ціха затрымцела, і адзін за адным нарадзіліся гэтыя позьнія дзеці - "Дзікая сліва", "Завінены рай", "Кава ў арліным гняздзе" і цяпер вось "Трэці Эдэм".

***- Ці вымалёўваецца-фармулюецца ідэя дзясятага зборніка? Асабіста мне "Трэцяга Эдэма" хопіць яшчэ на месяцы тры-чатыры, а пасля як апантаны аматар-калекцыянер пачну жыць чаканнем новага.***

- Ну, Вы ж ведаеце прымаўку пра тое, што калі хочаш насмяшыць Бога, то раскажы яму пра свае планы.

***- Будзем верыць, што Божыя планы і надалей павядуць Вас па ледзь бачнай сцяжынцы, што завецца паэзіяй.***

***Наталля Плакса,***
***Станіслава Вальчык.***
*Нясвіж.*

# Два вершы са зборніка Валянціны Аксак "Трэці Эдэм"

## Рай

Будлея і мірыкарыя
ўратавалі сёння мяне.
Цяпер зморана спяць
у ачмуранай апраметнай.
Рай -
найдарожшая радасць.
Бескаштоўна яе
мне стварылі
пасланніцы з саду
Ліліт.
Ноч заплюшчыла вочы.
Ачулася кроў у зямлі,
узнялася па венах ліянамі,
цынэрарыяй
умуравала ў цвінтар
стромкі ствол майго цела,
замкнула кальквіцыяй
уваходную брамку,
а на выхад яна
ніколі й не адчынялася.
А чаму,
пра тое спытайце
ў апостала Пётры.
Ён якраз натаміўся
архаваць
прыбышоў безграхоўных
ды прылёг на кілім
беззаганных канваліяў.

## Цёплая кроў

Захрасла ў шыпастым кустоўі -
нат на цалю хады
не расцярэбіць яго.
Ані птушка не ціўкне
ў цярновай аблозе,
ані вецер не ўздыбіць
збагнелую цемрадзь,
не прадзярэцца да вопрадня стрэмак
самы гойстры паўдзённы прамень
і ніхто на падмогу не прыйдзе,
не выбавіць з вусцішных нетраў.
Смуродныя пашчы наўёвых хмызоў
паўсюдна ўпіваюцца ў целы,
але ўгледзела ўжо,
як з-пад іхных іклоў
барвянае штосьці
праточвацца пачало
і краплістай рабіць
зазімелую пустку.
Ручаінкі сям-там
капілярамі ціха
спрабуюць плысці
з узгоркаў знямелых
у аорту застылай ракі.
Пад лёдам -
цёплая кроў.




**Малая форма з вялікімі словамі перад Нясвіжскай раённай бібліятэкай**



**Малая форма з вялікімі словамі перад Нясвіжскай раённай бібліятэкай**